# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ СВЯТЫ І ЗВЫЧАІ

Гомель 1993

БЕЛАРУСКАЕ АГЕНЦТВА НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ
І ДЗЕЛАВОЙ ІНФАРМАЦЫІ
ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ
УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ ГОМЕЛЬСКАГА АБЛВЫКАНКАМА

У. І. КОВАЛЬ В. С. НОВАК

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ СВЯТЫ І ЗВЫЧАІ

Гомель 1993

«— Лепш прыходзь заўсёды ў адзін і той жа час, — папрасіў Ліс. — Трэба прытрымлівацца абрадаў.
— А што такое абрады? — спытаў Маленькі прынц.
— Гэта таксама нешта даўно забытае, — сказаў Ліс. — Нешта такое, ад чаго адзін які-небудзь дзень становіцца непадобным на ўсе астатнія дні, адзін час — на ўсе іншыя часы»

АНТУАН ДЭ СЭНТ-ЭКЗЮПЕРЫ

«Каб зразумець сябе сапраўдным чалавекам, уявіць прыналежнасць да свайго роднага, беларускага, славянскага, зразумець сваё месца ў сусвеце, неабходна вывучаць народныя каштоўнасці, тое, што стагоддзямі стваралі, выкарыстоўвалі і захоўвалі нашы продкі»

І. В. КАЗАКОВА

## АД АЎТАРАЎ

Адметнаю рысаю нашага часу з'яўляецца ўзрослая цікавасць людзей да народнай духоўнай культуры, важнейшымі праяўленнямі якой лічацца святы, абрады і звычаі народнага календара. Некаторыя з гэтых свят — Каляды, Благавешчанне, Вялікдзень, Дзяды — набылі статус дзяржаўных свят Рэспублікі Беларусь.

Зразумела, што ў сучасным грамадстве вельмі востра адчуваецца патрэба ў адпаведнай літаратуры, якая ўтрымлівала б звесткі аб народных святах і звязаных з імі звычаях. За апошнія гады з'явілася нямала публікацый, прысвечаных гэтай тэматыцы. Прыкметнай з'явай стаў выхад з друку акадэмічнага зборніка «Земляробчы каляндар (Абрады і звычаі)», у якім змяшчаецца цікавы фальклорна-этнаграфічны матэрыял, сабраны пераважна ў канцы мінулага—пачатку нашага стагоддзя. Шмат звестак аб святах народнага календара змяшчаюць многія зборнікі, выдадзеныя Акадэміяй навук Рэспублікі Беларусь у серыі «Беларуская народная творчасць». Нямала каштоўнага матэрыялу з гэтай галіны знаходзіцца і ў розных архівах. Разам з тым увесь гэты багацейшы матэрыял не сістэматызаваны і не абагульнены, ён застаецца амаль недаступным для шырокага кола чытачоў.

Аўтары гэтай работы імкнуліся перш за ўсё даць па магчымасці поўнае апісанне асноўных свят календара, а таксама прывесці адпаведныя фальклорныя тэксты, якія б маглі знайсці практычнае выкарыстанне. Пры гэтым аўтары не ставілі перад сабой задачу паглыбленага, уласна навуковага аналізу паходжання і структуры народных свят: галоўным для сябе яны лічылі іх на-

пулярызацыю праз лаказ таго, як гэтыя святы адзначаліся яшчэ не так даўно нашымі продкамі, якім багатым, паэтычным было іх светаўспрыманне. Прадметам асобнай, самастойнай работы павінны стаць метадычная распрацоўка і рэкамендацыі па вывучэнні звестак аб святах народнага календара; аўтары спадзяюцца, што ўдумлівы чытач зможа творча выкарыстаць прыведзены ў гэтай брашуры матэрыял.

Пры рабоце над брашурай былі выкарыстаны матэрыялы акадэмічных выданняў з серыі «Беларуская народная творчасць» і манаграфічных даследаванняў сучасных этнографаў і фалькларыстаў; акрамя таго, прыводзяцца звесткі з дарэвалюцыйных выданняў, матэрыялы архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі і архіва кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

Работа адрасавана супрацоўнікам устаноў культуры, настаўнікам сярэдніх школ, выкладчыкам сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, выхавацелям дзіцячых садкоў і ўсім, хто цікавіцца багатай духоўнай спадчынай беларускага народа.

## КАЛЯДНЫЯ СВЯТЫ

Калядныя святы займаюць асобнае месца сярод іншых свят народнага календара. Яны адзначаюцца ў пачатку каляндарнага году, у перыяд зімовага сонцазвароту, калі дзень пачынае паступова павялічвацца, а сонца ўсё часцей з'яўляецца на небе. З гэтымі святамі нашы продкі звязвалі свае надзеі на шчаслівае жыццё ў будучым годзе, на багаты ўраджай і дабрабыт сям'і, на перамогу лета над зімой, цяпла — над холадам, святла — над цемрай.

Сам тэрмін «каляда», як зазначае А. І. Гурскі ў прадмове да кнігі «Земляробчы каляндар (Абрады і звычаі)», паходзіць ад лацінскай назвы «календы»: «У старажытных рымлян першы дзень кожнага месяца называўся «календа». Усе календы святкаваліся, але асабліва ўрачыста адзначаліся календы навагоднія. Гэтая назва разам са святкваннем у розныя часы была засвоена славянскімі народамі».

Слова «Каляда» ў беларускай мове ўжываецца ў некалькіх значэннях. Па-першае, гэта свята, якое адзначаецца 6-7 студзеня (Ражаство, Нараджэнне Хрыстова) — «галодная куцця»; па-другое, Калядамі называлі ўвесь перыяд зімовых свят з 6 па 19 студзеня — «святыя», або «шчодрыя» вечары. Акрамя таго, каляды— гэта і навагодняя абрадавая ежа, атрыманая калядоўшчыкамі за выкананне навагодніх велічальных песень. У некаторых мясцовасцях Беларусі калядным і лічылі толькі тры дні: перад уласна Калядамі (6 студзеня), перад Новым годам (13 студзеня) і перад Вадохрышчам (18 студзеня).

Такім чынам, Каляды ахопліваюць тры святы: уласна Каляды (Ражаство), Новы год і Вадохрышча (Хрышчэнне). Да кожнага з гэтых свят гатавалася абавязковая рытуальная ежа — куцця — каша з тоўчаных ячменных круп. Вучоныя лічаць, што прыгатаванне куцці — абавязковай ежы ў памінальных абрадах — сведчыць аб сувязі калядных свят з культам продкаў. Пры гэтым да Каляд і Вадохрышча гатавалася «галодная», або посная куцця (прыпраўлялася посным алеем), а на Новы год — «шчодрая», або мясная, тоўстая (з маслам ці салам). Адпаведна адзначаліся і

тры Каляды ( тры куцці) — першая, другая і трэцяя. На ўсе тры куцці каша варылася ў адным гаршку і з аднолькавай колькасці круп. Звараная каша да заходу сонца ставілася на покуці (адсюль і яе назва — «куцця») на сена і накрывалася хлебам. Каштаваць яе забаранялася не толькі да пачатку вячэры, але і ў час гатавання.

## КАЛЯДЫ (РАЖАСТВО)

Першая Каляда — 6-7 студзеня — гэта канец шасцітыднёвага Піліпаўскага посту, пачатак святочных дзён і вечароў. Гэтае свята вядома і пад назвай «Вялікая куцця», паколькі яно было пачаткам усіх Каляд і адзначалася з асаблівай урачыстасцю. Значны адбітак на старажытнае язычніцкае свята Каляды накладвалі і традыцыйныя хрысціянскія ўяўленні, згодна з якімі менавіта ў гэты дзень святкуецца нараджэнне Ісуса Хрыста. Нездарма ў народзе гаварылі: «Святое Ражаство — людзям хараство».

Напярэдні Каляд з самай раніцы ў кожнай хаце старанна прыбіраліся, уся сям'я мылася, а пасля пачыналі гатаваць вячэру. Атмасфера падрыхтоўкі да радаснага, доўгачаканага свята выразна адлюстравалася ў некаторых калядных песнях:

Блізка Каляды,
Усе людзі рады:
Вяпручкі смаляць
І Бога хваляць.
Радуйся, зямля,
Бо жыта родзіць!

Пастаўлю каляску —
Дастану кілбаску.
Пастаўлю драбінку —
Дастану сланінку.
Радуйся, зямля,
Бо жыта родзіць!

А калядачкі, а скарэйце вы,
А калядачкі, а барджэйце вы!
Нашы бабачкі пасядзець хочуць,
Нашы дзевачкі пагуляць хочуць.

(Песні народных свят і абрадаў, с. 12)

За стол садзіліся, як толькі на небе з'яўлялася першая зорка. У гэтым звычаі адлюстраваліся вядомыя хрысціянскія ўяўленні аб цудоўнай зорцы, якая паказвала вандроўнікам шлях да месца, дзе нарадзіўся Ісус. У Евангеллі ад Мацвея (2, 9—11) чытаем: «Яны, паслухаўшы цара, пайшлі. І вось, зорка, якую бачылі яны на ўсходзе, ішла перад імі, як нарэшце прыйшла і спынілася над месцам, дзе было Дзіця. Убачыўшы зорку, яны ўзрадаваліся радасцю вельмі вялікаю. І зайшоўшы ў дом, убачылі Дзіця з Марыяю, Маці Яго, і ўпаўшы, пакланіліся яму...» Прыведзены біб-

лейскі сюжэт пакладзены ў аснову песні «Звязда», якая запісана ў наш час у вёсцы Мохаў Лоеўскага раёна:

Ішла звязда чудна
З вастока на полудзень.
Над вярцепам сіяла,
Хрыста цара ўслаўляла.
Новая радасць стала,
Як на небе хвала.
Над вярцепам звязда
Ясна свяціла, васіяла.
Дзе Хрыстос радзіўся,
Бог ад Дзевы ваплаціўся.

Там чалавек з пелянамі
Перад Богам явіўся.
Перад Божым дзіцяткам
Пастушка з ягняткам
На калені ўпала,
Хрыста праслаўляла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Просім цябе, Цару,
Прымі нашу хвалу,
Пашлі ў гадах
Шчасце гаспадару!

Песню, прысвечаную нараджэнню Хрыста, спявалі і ў вёсцы Прыбалавічы Лельчыцкага раёна (запісана ад М. І. Акуліч):

Учора із вячора
Ў нас настала навіна:
Божа Маці Ісуса радзіла,
А парадзіўшы, у Ядрані скупала,
А скупаўшы, да ў шаўкове спавіла.
На зыход сонца прыязджае тры цары
Ды прывозяць Божай Маці тры дары:
Што едзін цар Божым мірам міраваў,
А другі цар кветачкай надзяляў.
А што кветачка, то святое Ражаство,
То ўсяму свету вяселенька і радасна.
А за ўсім словам, святкуйце здаровы!

Пад абрус на святочны стол абавязкова падкладвалі сена, што асэнсоўвалася як напамін аб тым, што Ісус адразу пасля нараджэння быў пакладзены на сена ў хляве.

Святочная вячэра складалася з няцотнай колькасці страў, сярод якіх найчасцей былі квас з грыбамі, аўсяны кісель, адвар з сушаных яблык і — абавязкова — куцця.

У некаторых мясцовасцях Беларусі выконваўся вельмі цікавы і, несумненна, старажытны звычай, які меў важнае магічнае значэнне — ад імя самога Бога спрыяць добраму надвор'ю і багатаму ўраджаю. Перш чым пачаць вячэру, гаспадар браў гаршчок з куццёй і тройчы абыходзіў хату, затым стукаў у акно, а жонка з хаты пытала: «Хто там стукае?» Гаспадар адказваў: «Сам Бог стукае з цёплай, мокрай вясною, з гарачым небурлівым летам, з сухой і багатай восенню». Жонка павінна была сказаць: «Просім дахаты».

У час вячэры, на якую збіралася звычайна ўся сям'я, елі спачатку іншыя стравы, а куццю — пад канец. Кожны павінен быў пакаштаваць усіх страў, якія падаваліся на стол.

На першую куццю было прынята таксама да ўсходу сонца віць вяроўкі і абматваць імі стол у хаце, каб летам коні не разбягаліся і не рабілі шкоды на засеяных палях. У гэты ж дзень імкнуліся не хадзіць у чужыя хаты, каб жывёла не збягала з двара і не прападала.

Існавалі шматлікія народныя прыкметы, звязаныя з надвор'ем на Каляды (Ражаство). Калі, напрыклад, першы дзень Каляд выдаецца пагодлівы, ясны — будзе неўраджайны год, а калі пахмурны і снег ідзе — ураджайны. Калі ў калядны вечар і ноччу на небе шмат зорак — летам будзе шмат грыбоў; калі ў другой палове дня ў першы дзень Каляд пасыплецца град — гарох дасць вялікі ўмалот; калі снег — будуць добра раіцца пчолы.

## НОВЫ ГОД

Новы год, або, як часцей гавораць, «стары» Новы год, святкуецца ў ноч з 13 на 14 студзеня. Вечар напярэдадні Новага года называецца Шчодрым вечарам, або Шчадрацом, Шчадрухай. Гэтую назву свята атрымала ад шчодрай куцці — абрадавай вячэры, якая гатуецца да Новага года. У адрозненне ад беднай («галоднай», «поснай») куцці гэтая куцця сапраўды была шчодрай (існавалі і іншыя назвы — тоўстая, мясная, ласая, сытая): на стол ставілі смажаныя каўбасы, свежаніну, сыр, яечню, бліны з верашчакай, крывянку. У цэнтры навагодняй абрадавай ежы знаходзілася мяса свінні, якая з-за сваёй пладавітасці ўспрымалася як сімвал урадлівасці.

Кожная гаспадыня імкнулася нагатаваць да Шчодрага вечара як мага больш страў, таму што, згодна са старажытным павер'ем, у залежнасці ад таго, як чалавек праводзе стары год і сустрэне новы, такім будзе для яго і ўвесь надыходзячы год.

На багатую куццю, калі ўжо ўсе святочныя стравы (у тым ліку і «тоўстая» куцця) стаялі на стале, гаспадар адчыняў акно або дзверы і запрашаў да святочнай вячэры мароз, імкнучыся тым самым уздзейнічаць на сілы прыроды: «Мароз, мароз! Хадзі куццю есці! Улетку не бывай, бо мы будзем цябе біці железнымі пугамі!» Або: «Мароз, мароз! Хадзі куццю есці! Каб ты не марозіў ячменю, пшаніцы, гароху, проса, грэчкі і ўсяго, што мне трэба пасеяць». Гаспадыня таксама, набраўшы лыжку куцці і падышоўшы да акна, павінна была пастукаць і звярнуцца да мароза: «Мароз, мароз, хадзі куццю есці, каб не марозіў расады, агуркоў, гарбузоў, морквы, буракоў і ўсяго, што мне трэба пасеяць».

Для таго, каб куры нesліся дома, а не на чужых дварах, пасля святочнай вячэры прыносілі ў хату абруч, выкладвалі ў яго рэшткі вячэры (асабліва — куцці) і кармілі ў гэтым абручы курэй.

Вядомы беларускі фальклярыст і этнограф П. В. Шэйн больш ста гадоў назад запісаў вельмі выразны навагодні звычай — рытуальны дыялог, выкананне якога, на думку яго ўдзельнікаў, павінна было паўплываць на будучы багаты ўраджай:

«А як павячэраюць, то ўсе павінны адысці ад стала. Гаспадар, тройчы перахрысціўшыся, павінен сесці на покуці, а жонка насупраць яго і запытаць:

— Чы бачыш ты мяне?

А ён павінен сказаць:

— Не бачу!

— Каб жа ты не бачыў за стагамі, за капамі, за вазамі, за снапамі свету!

Тады гаспадар пытае ў жонкі:

— Баба! Чы бачыш ты мяне?

Не бачу!

— Каб жа ты не бачыла за агуркамі, за гарбузамі, за капустай, за буракамі свету!

Затым жонка брала качаргу і штурхала гаспадара. А ён хутка падаў на лаўку і гаварыў:

— Дай, Божа, каб твае снапы так хутка падалі на ніве!»

Сустрэча Новага года абавязкова суправаджалася шчадраваннем. Шчадроўшчыкі (гурты моладзі па 5—7 і болей чалавек) абыходзілі ўсе хаты ў вёсцы, віншуючы гаспадароў са святам. Цэнтральнай «дзеючай асобай» шчадроўнага гурту была «каза» — жвавы, здатны да танцаў хлопец, апрануты ў вывернуты кажух. Ён трымаў у руках зробленую з дрэва або з паперы галаву казы. «Казу» суправаджаў павадыр, які павінен быў умець складна гаварыць. Павадыра, або «дзеда» апраналі ў старое адзенне, прымацоўвалі яму бараду з пянькі, давалі ў рукі посах. У гурт уваходзілі таксама механоша, музыканты, песельнікі, якія падтрымлівалі галоўных дзеючых асоб.

Першым заходзіў у хату павадыр (прывязаная да плоту «каза» і ўвесь гурт заставаліся на двары), які, прывітаўшыся з гаспадарамі і павіншаваўшы іх з Новым годам, пытаў у іх дазволу зайсці ў хату ўсяму гурту:

З новым годам, будзьце здаровы!  
Жадаем дабра ў новым гаду  
Таму, хто жыве ў гэтым даму!  
Пець ці не пець?

(В. Мохаў Лоеўскага раёна)

Атрымаўшы такі дазвол, натоўп уваходзіў у хату, і песельнікі пачыналі пець абрадавую песню, услаўляючы «казу» за тое, што яна спрыяе будучаму ўраджаю:

— О-го-го, каза,
О-го-го, шэра!
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.
А соль дарагая,
А мера скупая.

О-го-го, каза,
О-го-го, шэра!
Дзе каза нагою —
Там жыта капою.
Дзе каза скок —
Там жыта сем коп.
Дзе каза праходзіць —
Там жыта родзіць.

(г. Лоеў)

Го-го-го, каза,
Го-го, серая!
Ну-тка, козачка,
Расхадзіся-тка
Па ўсяму двару
Гаспадарскаму...

Дзе каза ходзе —
Там жыта родзе.
Дзе не бывае —
Там вылягае.

(Земляробчы каляндар. Абрады і звычаі, с. 22).

«Каза» ў час выканання песні танцавала. Але потым яна звычайна наравілася, тупала нагамі, бадала павадыра рагамі, біла яго капытамі, за што павадыр біў «казу» посахам. Нарэшце стомленая «каза» падала і ляжала на падлозе нерухома, як мёртвая. Удзельнікі гурта спявалі песню, заклікаючы «казу» ажыць і падняцца:

Уставай, каза,
Жылы надзімай.
Гаспадар ідзе,
Каляду нясе:
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.

Нашаму козліку
Нямнога трэба:
Сем печ перапеч
І бочка жыта,
Каб каза была сыта...

(Песні народных свят і абрадаў, с. 18—19)

Пасля гэтых слоў «каза» хутка падымалася, скакала, кланялася гаспадарам. Разам з казой увесь гурт выконваў віншавальную калядную песню з пажаданнем гаспадару і яго сям'і дабрабыту ў новым годзе: напрыклад, каб добра раіліся пчолы (калі гаспадар меў пчальнік) або шчаслівага шлюбнага жыцця дачцы (калі тая была на выданні) і г. д.:

Будзь ваша здароў,
Як рыжы бароў!
Гэй, каляда, калядзіна!*
Май торбу грошай,
Жыві ў раскошы!
Май усяго даволі,
А бяды ніколі!
Стары год канчаем,
Новы зачынаем:

З ранняю вясною,
З буйнаю травою,
З збожжам каласістым,
З зярном ядраністым,
Ды з прыятным летам
І з громам пры гэтым!
І з восенню яснай,
І з долечкай шчаснай!

(г. Ветка)

Гаспадары шчыра дзякавалі калядоўшчыкам, дарылі ім каўбасы, сала, бліны, цукеркі, грошы і на развітанне казалі: «Дай, Божа, дождаці, і на тое лета спяваці!».

Нельга не заўважыць, што значная роля ў калядаванні адводзіцца казе. І гэта зусім невыпадкова. А. І. Гурскі наконт гэтага слушна зазначае: «Вывучэнне дахрысціянскіх культаў паказала, што «каза» ў старажытнасці шанавалася за яе нібыта здольнасць узмацняць урадлівасць зямлі. Адсюль і паходзяць магічная роля «казы» ў старажытнай навагодняй абраднасці і звязаныя з ёю спробы людзей выкарыстаць сілу жывёлы для паляпшэння ўрадлівасці палёў. «Смерць» «казы», а затым «ажыўленне» яе з прыходам вясны і павінны абазначаць сувязь жывёлы з раслінным светам. Акрамя таго, як вынікае з тэкстаў абрадавых песень, прысвечаных «казе», ёй прыпісвалася здольнасць адводзіць няшчасці ад дому. Паводле народных павер'яў, чэрці не любяць і баяцца казы, а поўнасць казы — магічны сродак, які абараняе ад варожых уплываў».

Акрамя песень, галоўным персанажам якіх была каза, у шчодры вечар выконваліся і ўласна шчадроўныя песні, якія маюць пераважна велічальны і заклікальны характар:

Ходзе Ілля на Васіля,
Нося пугу драцяную,
Драцяную, плеценую.
Дзе пугаю махне —
Там жыта расце.
А дзе не махае —
Там жыта ўлегае.
Няхай табе, дзядзечка,
Бог памагае!

(Песні народных свят і абрадаў, с. 33—34)

— Добры вечар, пане гаспадару!
А ці ў доме пану гаспадару?
— Няма ў доме, паехаў на поле,
Паехаў на поле паляваці.
Паляваці, жыта аглядаці.
Усіх жыта ядраное,
А ў нашага гаспадара — найлепшае...

(Песні народных свят і абрадаў, с. 19—20)

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага двухрадкоўя.

— Добры вечар, гаспадынечка,
А што ў цябе за навіначка?
— Сорак кароў ацялілася,
А йшчэ сорак назначылася...

(Песні народных свят і абрадаў, с. 22 )

Нярэдка шчадроўныя песні маюць жартаўлівы характар:

Калядзін, калядзін,
Я ў бацькі адзін.
Кароценькі кажушок.
Дайце мне піражок.
А наверх каўбасу,
А то хату разнясу.

Шчадрую, шчадрую,
Каўбасу чую.
Дайце каўбасу,
Дамоў панясу.
Дайце другую,
Толькі даўгую.
Дайце трэцюю —
Хоць авечую.

Шчадрыначка шчадравала,
Што ты, баба, гатавала,
Што варыла, што пякла —
Давай зразу да вакна!

(Песні народных свят і абрадаў, с. 34—35 )

У тым выпадку, калі падарунак гаспадароў здаваўся калядоўшчыкам занадта бедным, або яны ўвогуле заставаліся без падарунка, выконваліся песні іншага зместу. Напрыклад:

Шчодры, бодры,
Пабіў дзед вёдры,
А баба гаршкі,
А свіння мяшкі.
Не дала ты сала —
Каб свіння не ўстала!

(Песні народных свят і абрадаў, с. 35 )

Дзень Новага года — 14 студзеня — мае назву «Васілле», або «Васілёва куцця» — у гэты дзень праваслаўная царква адзначае дзень святога Васіля Вялікага. На Васілле вясковыя дзеці хадзілі па хатах з навагоднімі віншаваннямі («Сею-вею, пасяваю, з Новым годам паздраўляю!»): у хаце яны раскідвалі жменямі зярняты жыта або ячмяню, жадаючы гаспадарам дабрабыту і шчасця.

Традыцыйнай для каляднай абраднасці з'яўляецца тэма шлюбнага саюзу, стварэння новай сям'і. Гэта знайшло адлюстраванне ў некаторых калядных песнях:

Скача гарабейка па сметнічку,
Калядо, калядо!*
Кліча дзевачак на гулянейко:
Вы, дзевачкі, на гулянейко ідзіце.
Вы, малодачкі, дома сядзіце.
Дома сядзіце, кудзельку прадзіце.
А вы, дзевачкі, замуж ідзіце.

(Песні народных свят і абрадаў, с. 31)

Калядачкі, калядачкі,
Да ў ліпнічку прынадкі.
Да прынадачка дзевачка,
Да прынадзіла хлопчыка:
Дыбком, дыбком цераз сені,
Да к хлопчыку на калені.

(Песні народных свят і абрадаў, с. 34)

У час навагодніх святкаванняў папулярнай у моладзі была гульня «Жаніцьба Цярэшкі» — сапраўдная інсцэніроўка шлюбнага абраду. Вобраз недарэкі Цярэшкі сустракаецца ў шмат якіх калядных песнях жартаўлівага характару: «Цярэшка валочыцца, жаніцца не хочацца...», «Цярэшку бяда стала: Дзе ж яго жана спала?» і інш. Месцам гульні звычайна была нанятая для гэтай мэты хата або карчма. Гульнёй кіравалі больш сталыя, жанатыя мужчына і жанчына — «бацька» і «маці», якія, быццам сапраўдныя сваты, пачыналі падбіраць пары, папярэдне ведаючы ўзаемныя схільнасці хлопцаў і дзяўчат. Кожная пара падыходзіла да «бацькі» і «маці», якія, седзячы на куце, «благаслаўлялі» «маладых»: «Дай Бог вам шчасця ў нянасце, харошую долю ў волю, уцечкі на печкі, дзеткі ў клеткі!». Агульныя «вяселлі» за сталом суправаджаліся песнямі, жартамі, танцамі; хлопцы частавалі сваіх «жонак» цукеркамі, баранкамі, пернікамі. Нярэдка здаралася так, што выбраная такім жартаўлівым спосабам пара на самой справе стварала новую маладую сям'ю.

## ВАДОХРЫШЧА (ХРЫШЧЭННЕ, КРАШЧЭННЕ)

На свята Вадохрышча — 18-19 студзеня — прыпадае трэцяя (посная, як і першая) куцця, якая таксама мае назву «вадзяная». Хрысціянская рэлігія звязвае Вадохрышча з крашчэннем Ісуса Хрыста Іаанам Хрысціцелем у рацэ Іардане. У царквах у гэты дзень адбываецца асвячэнне вады, якую бралі з бліжэйшай ракі, прасякаючы на лёдзе вялікі крыж. Свяцілі і іншымі споса-

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

бамі. Напрыклад, у г. Брагіне і навакольных вёсках на Крашчэнне на рэчцы выраблялі са снегу і ільду вялікі крыж, які спачатку палівалі вадой, а потым — бураковым расолам, каб ён набыў чырвоны колер. Побач знаходзілася вялікая бочка з вадой, якую асвячаў святар.

У хрысціянскім свяце Вадохрышчы знайшлі адбітак старажытныя язычніцкія вераванні ў магію вады. Апоўначы, пад Вадохрышча, гаспадыні хадзілі на рэчку ці на возера (дзе іх не было — да калодзежа) і чэрпалі ваду, якую пасля захоўвалі ўвесь год як лекавую. Хрышчэнскую ваду давалі піць хворым, ёю апырсківалі поле перад сяўбой, хатнюю жывёлу, новую хату перад засяленнем, труну перед тым, як пакласці ў яе нябожчыка.

На Вадохрышча хадзілі ў царкву і імкнуліся як мага хутчэй вярнуцца дадому — тады ураджай гаспадар збярэ першым. Сена, на якім на працягу Каляд стаяла куцця, паступова аддавалі хатняй жывёле як ахоўны сродак ад хвароб і ад шкоднага ўплыву ведзьмаў. Падсохлы верх куцці здымалі і аддавалі курам, «каб добра яйкі неслі».

У гэты дзень выконваўся таксама абрад «запісвання Каляды», мэтай якога была засцярога дома, усёй гаспадаркі ад уздзеяння нячыстай сіле. Дзеля гэтага гаспадар, выняўшы з печы гаршчок з куццёю, ставіў у ім зроблены з лучыны крыж, які на другі дзень апускаўся ў ваду — у раку ці студню. Вечарам гаспадар, узяўшы першы блінец ці верх куцці, абыходзіў усе свае будынкі і маляваў на сценах крыжы крэйдай.

## КАЛЯДНЫЯ ВАРОЖБЫ

Варажба, якой займаліся ў асноўным дзяўчаты, доўжылася на працягу ўсіх Калядаў, але найчасцей яна адбывалася напярэдадні Вадохрышча. Мэта варажбы — вызначэнне будучага лёсу дзяўчат, іх жыцця ў шлюбе. Газета «Наша ніва» ў пачатку стагоддзя так пісала аб «вечары варожбаў»: «Дзяўчаты стараюцца пазнаць з варажбы, што іх чакае, які будзе муж: удавец ці маладзец? Ці хутка гэты суджаны-раджаны прыедзе ў сваты? І ці якога няшчасця не здарыцца маладзенькай дзяўчыне? Такія пытанні вельмі цікавяць маладых дзяўчатак. Кожная з іх з вялікай нецярплівасцю чакае, каб як найхутчэй прышоў вечар Васілёвай куцці (вечар напярэдадні Новага году) і каб хутчэй адкрылася перад вачыма нязнаная і таямнічая будучыня...»

Варажба часцей за ўсё адбывалася ў незвычайнай, таямнічай атмасферы і суправаджалася такімі ж незвычайнымі, «чароўнымі» дзеяннямі, што і павінна было, на думку варажбітак, абавязкова забяспечыць яе поспех.

Звычайна яе мэтаю было атрыманне адказу на пытанне аб тым, ці «ўвогуле» выйдзе замуж дзяўчына ў новым годзе. Для гэтага выкарыстоўваліся розныя прадметы або звярталіся да дапамогі жывёл. Напрыклад, ставілі пасярод хаты дзяжу, і дзяўчаты па чарзе, стаўшы тварам да парога і павярнуўўшыся да яе спіной, ішлі да дзяжы. У тым выпадку, калі дзяўчына «трапляла», г. зн. садзілася на дзяжу, гэта прадказвала вяселле. Апісаны звычай выразна нагадвае беларускі вясельны абрад, які называецца «садзіць на пасад» і заключаецца ва ўрачыстым саджэнні нявесты на дзяжу, напоўненую зернем і пакрытую кажухом.

Для таго, каб даведацца, ці будзе дзяўчына ў будучым годзе «ў пары», яна брала, не лічачы, на двары палённі і несла іх у хату. У тым выпадку, калі колькасць іх аказвалася цотнай, дзяўчына была ўпэўнена, што ў новым годзе да яе абавязкова прыйдуць сваты і яна выйдзе замуж. У адваротным выпадку (пры няцотнай колькасці паленняў) дзяўчына лічыла, што застанецца ў будучым годзе «не ў пары». Падобны да прыведзенага яшчэ адзін спосаб гадання: дзяўчына імкнулася, не лічачы, абхапіць рукамі як мага большую колькасць дошак у плоце, а пасля іх падліку высвятлялася — «цот ці не цот».

На Лоеўшчыне вядомы такі варыянт варажбы з «дапамогай» дошак у плоце. Дзяўчаты бралі міску з куццёй, выносілі на двор і ставілі каля сметніка, а самі беглі да плоту і, беручыся рукой за кожную дошку па чарзе, гаварылі: «Хлопец, удавец, распушчанец». На якое з гэтых слоў выпадала апошняя дошка ў плоце, такога лёсу і чакалі для сябе дзяўчаты. (Звяртанне да смецця або выкарыстанне яго ў варожбах, як і ў іншых абрадах, мае вялікае магічнае значэнне. Смецце асэнсоўвалася людзьмі як прадмет, які меў непасрэднае дачыненне да чалавека, нават як частка самога чалавека. Звычайнае месца знаходжання смецця — каля парога — сведчыць аб яго сувязі з культам продкаў, да якіх сімвалічна, праз смецце, і звярталіся пры вызначэнні лёсу.)

Нярэдка сяброўкі-варажбіткі выцягвалі зубамі саламінкі з новай страхі, а пасля параўноўвалі іх: чыя саламінка была больш доўгаю, той дзяўчыне прадказвалі, што яна хутчэй за іншых выйдзе замуж.

Выкарыстоўвалі для варажбы і абутак: знятыя з нагі чаравікі ці лапці дзяўчаты кідалі праз вароты на дарогу і назіралі, у які бок паказвае насок чаравіка. У залежнасці ад гэтага вызначалі, адкуль (з якога канца вёскі або з якой суседняй вёскі) прыедуць да іх сваты.

Асабліва часта дзяўчаты ў сваёй варажбе звярталіся за «дапамогай» да жывёл: курыцы, сабакі, каня. Напрыклад, некалькі дзяўчат, сабраўшыся ноччу ў адной хаце, клалі на парозе свае пярсцёнкі, пасля чаго прыносілі ў хату курыцу або пеўня і ўваж-

ліва назіралі, чый пярсцёнак птушка спрасоння «клюне» першым—той дзяўчыне і замуж першай у будучым годзе ісці.

Даставалі з падпечча курыцу і ставілі яе на стол, на якім загадзя раскладвалі розныя прадметы. У залежнасці ад таго, які прадмет курыца першым пачынала кляваць, дзяўчаты і вызначалі свой лёс: вуголле — грошы, багацце; крэйду — багата будзе адзення, хлеб — заўсёды на стале будзе ежа, соль — будзе горкая доля.

Папулярнай была ў вясковых дзяўчат і варажба з удзелам сабакі: гэтая жывёла лічылася ў народзе не толькі здольнай прадказваць лёс, але і надзейнай засцярогай ад уздзеяння нячыстай сілы, хваробы і нават смерці. Каб даведацца аб сваёй будучыні, дзяўчаты пяклі з рэшткаў цеста маленькія булачкі, клалі іх на парозе хаты, затым прыводзілі ў хату сабаку і назіралі: чыю булачку ён з'есць раней, тая дзяўчына першай і замуж пойдзе.

Часта пры варажбе звярталіся не да канкрэтнага сабакі, а да сабачага брэху. Для гэтага дзяўчына ноччу выходзіла на двор (на сметнік або на папялішча, дзе смалілі перед Калядамі забітую свінню) і ўважліва прыслухоўвалася, з якога боку забрэша сабака: адтуль і сватоў чакаць.

Вось яшчэ адзін, больш складаны варыянт такой варажбы, занатаваны збіральнікамі фальклору ў канцы мінулага стагоддзя: «Дзяўчаты на багатую куццю варожаць пра свой лёс. Бяруць першы спечаны блін, вымятаюць хату, смецце кладуць на заслонку і нясуць на сметнік. Там становяцца на заслонку са смеццем, ядуць блін і адначасова прыслухоўваюцца, дзе брэшуць сабакі: з якога боку брэшуць, адтуль і жаніхі прыедуць».

Найбольш смелыя дзяўчаты выходзілі ў калядную ноч слухаць сабачы брэх на ростані — вельмі небяспечнае месца, звязанае з дзейнасцю нячыстай сілы. Гэты начны выхад на ростані з мэтай варожбаў асэнсоўваўся як вядзьмарства, аб чым сведчыць тое, што дзяўчаты не проста ішлі, а «ехалі», як ведзьма, вярхом на веніку або на качарзе. З'явіўшыся такім чынам на ростані, звярталі ўвагу не толькі на тое, з якога боку чутны сабачы брэх, але і якім ён быў на слых: калі задзірысты, звонкі — будзе жаніх малады; калі глухі, грубы — жыць у пары прыйдзецца са старым. Заўважалі таксама, ці здалёк сабачы брэх, і ў залежнасці ад гэтага вызначалі, зблізку ці здалёку прыедуць сваты.

Каня пры варажбе «выкарыстоўвалі» наступным чынам: яму папярэдне завязвалі вочы хусткай, дзяўчына садзілася і не кіруючы, выязджала на кані за вароты. У залежнасці ад таго, у які бок накіроўвалася жывёліна, адтуль і чакалі сватоў.

Хадзілі ноччу ў хлеў і лавілі авечак: калі зловяць барана — выйдзе замуж, а калі авечку — не. А як лавілі старую авечку — муж будзе стары або ўдавец, маладую—малады.

Варта сказаць і аб варажбе, заснаванай на веры ў незвычайныя, магічныя ўласцівасці слова. У адпаведнасці з гэтым лічылася, што словы, пачутыя варажбіткамі, маюць асаблівы, вялікі сэнс, а пачутае імі абавязкова збудзецца. Напрыклад, для таго, каб даведацца, якім будзе імя суджанага, дзяўчына ўпотайкі брала першы спечаны на патэльні блін і, паклаўшы яго на галаву, падыходзіла да акна суседзяў, каб прыслухацца да іх размовы. Калі ў хаце ў час гутаркі гучалі словы тыпу «ідзі», «заходзь», «прыходзь», то гэта прадказвала вяселле; калі ж чуліся словы «стой», «сядай», «не хадзі», то гэта, адпаведна, не абазначала для дзяўчыны нічога добрага: у надыходзячым годзе яна будзе «сядзець у дзеўках».

Вельмі часта мэтаю дзявочай варажбы былі адказы на хвалюючыя дзяўчат канкрэтныя пытанні: «Хто менавіта будзе жаніхом?», «Якім па знешнасці, характару і прафесіі будзе суджаны?». Пры гэтым звычайна зыходзілі з «прадказальнасці» дзявочых сноў. Вось як апісваў варажбу з дапамогай сну і выкарыстаннем калядnай куцці М. Я. Нікіфароўскі: «Калі пачнуць варыць куццю, дзяўчына кладзе першую лыжку не ў рот, а за пазуху; зберажоную такім чынам куццю яна рассыпае па хаце пасля таго, як усе хатнія заснуць, прыгаворваючы: «Дай, Божа, знаці, з кім буду спаці»; абавязкова прысніцца суджаны».

З гэтай жа мэтай (каб прысніўся суджаны) дзяўчына ў адзін са святочных вечароў спецыяльна ела якую-небудзь салёную страву або выпівала шклянку салёнай вады і загадвала перад сном: хто ёй прысніцца і напоіць у сне вадой — той і будзе жаніх.

Клалі пад падушку таксама рэшткі ежы і, засынаючы, запрашалі жаніха прыйсці на вячэру. Хто ў дзявочым сне прыйдзе вячэраць — той і жаніх.

Распаўсюджанай была варажба дзяўчат з дапамогай люстэрка. Дзеля гэтага апоўначы, звычайна ў лазні (месцы, асабліва небяспечным менавіта ў гэты час, калі там актывізуецца нячысцік— лазнік), ставілі на стале люстэрка, а перад ім — свечку. Насупраць люстэрка ставілі яшчэ адно, меншае памерам, такім чынам, каб, гледзячы ў яго, можна было бачыць бясконцы «тунэль»: углядаючыся ў люстэркі, дзяўчаты імкнуліся ўбачыць жаніха, нават пачуць яго голас.

Не менш вядомая і варажба з дапамогай растопленага воску, які лілі ў халодную ваду, і па фігуры, якая ўтваралася на вадзе ад застывання воску, меркавалі (засноўваючыся, зразумела, на багатай дзявочай фантазіі) аб тым, які (і якім) будзе жаніх.

Пры варажбе імкнуліся таксама вызначыць схільнасці, звычкі, узрост і сацыяльнае становішча жаніха. Для гэтага кармілі зернем пеўня. Калі той старанна дзёўб зярняты, то лічылі, што муж будзе спакойны, працавіты; калі ж певень часта падыходзіў

да пастаўленай перад ім міскі з вадой, то чакалі, што муж будзе п'яніца.

Ішлі да калодзежа або рэчкі і кідалі ў ваду камень. Калі ён падаў ціха, то і муж будзе ціхі, добры чалавек; калі ж з шумам — не будзе згоды ў сям'і.

Акрамя таго, заплюшчыўшы вочы, бралі на двары палена і прыносілі яго ў хату. Гладкае, з тонкай карой палена «прадказвала» маладога, прыгожага жаніха; з тоўстай карой — багатага; без кары — беднага; крывое — старога або з фізічнымі недахопамі; з суччам — вялікую (па колькасці суччa) сям'ю.

Сярод апісанняў каляднай дзявочай варажбы, зробленых у сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Магілёўскай губерні, знаходзім наступнае: «Дзяўчына з блінам у руцэ, калоцячыся ад страху, бяжыць да лазні, прасоўвае руку ў ваконца і стараецца што-небудзь намацаць. Калі намацае што-небудзь касматае — выйдзе замуж за багатага. Калі ж пад руку трапіць камень ці дрэва, ці што-небудзь голае — усё жыццё пакутваць ей за бедняком. Тыя дзяўчаты, якія баяцца ісці ноччу да лазні, уваходзяць у хлеў і, выставіўшы рукі ўперад, падыходзяць да каровы і ад яе чакаюць разгадкі сваіх задум: калі рукі перш за ўсё намацаюць рогі каровы ці галаву, то дзяўчына выйдзе замуж за добрага, паважанага чалавека; калі сярэдзіну — за пасрэднага; калі абмацае зад — за самага нізкага і беднага».

У вёсцы Мохаў Лоеўскага раёна ўжо ў наш час запісана ад М. Ю. Афанасенкі даволі цікавая варажба з прыгаворам: «На галодную куццю (перад Вадохрышчам) у розных месцах ставілі крэйдай меткі (крыжыкі) — там, дзе знаходзіліся розныя прадметы (у хаце, хляве, на падвор'і): сена, мука, ніткі, венік і г. д. Перад варажбой з таго месца, дзе стаяла метка, трэба было што-небудзь узяць, напрыклад, венік. Венік выносіцца на двор і сячэцца сякераю. Частку сечанага смецця трэба пасыпаць на двары, частку — на вуліцы, а астатняе — вынесці на ростані і стаць на яго. Пры гэтым гаварыліся наступныя словы:

Што рабілась — разрубісь,
Што круцілась — раскруцісь,
Што шылась — расшыйся,
Адкуль будзе мілы — дай знаць.

Стаялі і слухалі: што пачуецца — тое і будзе».

## ГУКАННЕ ВЯСНЫ

У фальклоры рускіх, украінцаў і беларусаў значнае месца займае веснавая каляндарна-абрадавая паэзія, якая і сёння адрозніваецца жыццяздольнасцю, актыўнасцю бытавання. У ёй можна

вылучыць два вялікія цыклы, адзін з якіх звязаны з заклікальнымі абрадамі і песнямі (веснянкамі-заклічкамі, велікоднымі, валачобнымі, юраўскімі, мікольскімі, сёмушна-траецкімі, купальскімі, русальнымі), а другі складаецца з песень пад назвай «вясна» сямейнай і любоўнай тэматыкі і не мае выразнай абрадавай функцыянальнай акрэсленасці.

Асабліва багата прадстаўлена веснавая паэзія на тэрыторыі Гомельшчыны. Аб гэтым сведчаць апісанні веснавых абрадаў і звычаяў і запісы тэкстаў, зробленыя дарэвалюцыйнымі збіральнікамі і сучаснымі фалькларыстамі.

Уласна веснавы цыкл пачынаўся з выканання абрадавых песень пад назвай «вяснянкі», якімі «загукалі» вясну. Даследчыца Г. А. Барташэвіч падкрэслівае, што «менавіта ў абрадзе гукання вясны найбольш яскрава праяўляецца роля народнай песні як часткі абраду, такой жа неабходнай і магічнай па сваёй прызначанасці, як і тыя рытуальныя дзеянні, з якімі песня спалучаецца».

Заклікание вясны — гэта адзін з першых веснавых абрадаў, які адбываўся ў розных мясцовасцях Беларусі ў розныя дні, напрыклад, на Аўдоццю Вясноўку («на Аўдакею») 1 сакавіка па старому стылю (14 сакавіка, н. ст.), на Саракі 9 сакавіка па ст. ст. (22 сакавіка, н. ст.), на Дабравешчанне 25 сакавіка па ст. ст. (7 красавіка, н. ст.). Паводле інфармацыі, атрыманай у фальклорных экспедыцыях, загуканне вясны на Гомельшчыне і ў шматлікіх іншых рэгіёнах Беларусі адбывалася ў асноўным на Дабравешчанне. Існуючыя мясцовыя адрозненні ў абраднасці і песеннасці загукання вясны не кранаюць самой сутнасці абраду. Тое агульнае, што яднае асноўныя яго кампаненты, — гэта пэўныя магічныя дзеянні, ідэйна-тэматычная накіраванасць песень-вяснянак, іх матывы і вобразы.

Асноўная атрыбутыка абраду заклікання вясны — узвышаныя мясціны (горка ці пагорак, дахі лазняў, стрэхі гумнаў, берагі рэк і азёр), дзе збіралася моладзь, вогнішча, печыва ў выглядзе птушак, арэлі, на якіх іншы раз гушкаліся цэлы дзень, спяваючы веснавыя песні.

Адам Багдановіч адзначаў, што даўней пасля Пасхі дзяўчаты і хлопцы па вечарах збіраліся на ўзгорках і песнямі заклікалі вясну. Напрыклад, у тэксце вяснянкі, запісанай вядомым вучоным у Барысаўскім павеце, ярка адлюстраваны перажыткі міфалагічных вераванняў народа. Для селяніна вясна з'яўлялася не толькі «прыгажосцю прыроды», але была пачаткам жыццёва важных для чалавека палявых гаспадарчых работ. Таму так шчодра яго фантазіяй вясна надзелена атрыбутамі земляробства, такой доўгачаканай і жаданай паўстае з «яснымі дзянёчкамі, частымі дажджочкамі, зялёнымі травамі». Менавіта ад яе просты чалавек чакаў

палёну, таму і імкнуўся ўшанаваць і задобрыць важную пару года ў прыродзе і сваім жыцці:

Дзякуй табе, Божа,
Што зіму скончаем,
Што вясну даждалі!
Памажы нам, Божа,
У добры час пачаці.
Вясну выклікаці!
— Прыдзі, прыдзі, вясна,
Прыдзі, прыдзі, красна,
К нам у таночык!
Прынясі нам збожжа,
Прынясі нам красак,
Каб нам звіць вяночак!
Ездзіць вясна, ездзіць,
На залатым кані,
У зялёным саяні.
На сасе седзячы,
Сыру зямлю аручы,
Правай рукой сеючы,
А смыкам скародзячы...
Вязець, вязець вясна,
Вязець, вязець красна
Ясныя дзянёчкі,
Частыя дажджочкі,
Зялёныя травы,
Красныя цвяточкі
Нам на вяночкі.

Адам Багдановіч у сваёй працы «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў: Этнаграфічны нарыс» прыводзіць успаміны аб абрадзе гукання вясны адной з сялянак Барысаўскага павета, якая ў свой час у маладосці сама была актыўнай удзельніцай загукання вясны. Пад вечар у вясновы святочны дзень моладзь збіралася на полі, прызначаным пад яравыя пасевы. Хлопцы і дзяўчаты раскладвалі вогнішча, выбіралі «вясноўку» — прыгожую і працавітую дзяўчыну, упрыгожвалі вянком з вясенніх кветак і траў, саджалі на «смык» (першабытную барану), на якім вазілі вясноўку па полі вакол кастра і пад акампанемент дуды дзяўчаты выконвалі вышэйпрыведзеную вяснянку. Затым вадзілі вакол вясноўкі карагоды, скакалі разам з ёю недалёка ад кастра. Завяршалася гулянне застоллем. Такім чынам, вясну сустракалі з хлебам, а распаленыя вогнішчы выконвалі функцыю ачышчэння агнём.

Цікавае апісанне гукання вясны змешчана на старонках кнігі П. Шэйна «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», т. 1. Веснавы звычай быў запісаны настаўнікам Стара-Юркавіцкага вучылішча П. С. Батурыным у Гомельскім павеце Магілёўскай губерні. Па яго ўспамінах, звычайна само гуканне адбываецца так: гурты дзяўчат збіраюцца на самым высокім месцы ў сяле, каля гумнаў, высцілаюць іх саломай і, пасеўшы там у рад, пяюць да позняй ночы вясеннія песні, якія можна пачуць тады па ўсіх навакольных месцах збору. Іншы раз спяваюць па чарзе: у адным месцы пачнуць і спыняцца, у другім — прадоўжаць пачатую песню. Хлопцы ж з дудкамі і гармонікамі акампануюць, пераходзячы ад аднаго зборнага месца на другое.

А вось што паведаміла аб старажытным абрадзе гукання вясны жыхарка в. Васілевічы Жлобінскага раёна Аксіння Герасімаўна Новік: «На Благавешчанне збіраюцца дзяўчаты гуртам. Выбіраюць з дзяўчат Вясну. Ёю становіцца дзяўчына, якая ўмее спяваць веснавыя песні і самая прыгожая. Ідуць за сяло, але перад тым, як ісці, пытаюцца дазволу і благаславення ў бацькоў:

Мама, тата!
Благаславіце маці-вясну гукаці,
На ціхае лецечка,
На буйнае жытачка.

На гэты заклік бацькі адказваюць: «Благаслаўляем вас, дзеці! Ідзіце, вясну гукайце, зіму праважайце». Дзяўчаты ідуць за сяло і пяюць веснавыя песні».

Е. Раманаў дае наступныя звесткі аб абрадзе гукання вясны: «На Благавешчанне дзяўчаты ў другой палавіне дня пачынаюць гукаць вясну, выходзяць да гумнаў, узбіраюцца на дахі і, седзячы на іх, спяваюць веснавыя песні. У апошні час іх пяюць, седзячы ў сябе на прызбе. Гукаюць вясну кожны вечар, пачынаючы з дня Звеставання да тых часоў, пакуль не стане магчымым араць зямлю».

У XIX і на пачатку XX ст. гуканне вясны насіла ярка выражаны абрадавы характар. Аб гэтым сведчаць тэксты песень-загуканняў з характэрнымі для іх зваротамі, у якіх адчуваецца подых глыбокай старажытнасці, часоў, калі вялікае значэнне надавалася ў час ажыццяўлення калектыўных дзеянняў, работ згодзе старэйшын («Благаславі, маці», «Благаславіце, стары дзяды», «Ці пазволіце, старыя людзі» і інш.). У некаторых песенных варыянтах паклікальных песень пад уплывам хрысціянства з'явіліся новыя вобразы (Бога, Прачыстай). Аднак названая акалічнасць не змяніла сутнасці самой песні-вясноўкі, яе «старадаўняга язычніцка-

га характару» (Г. А. Барташэвіч). Прывядзем прыклады названых веснянак:

Ці дазволіце, старыя людзі,
Нам вясну-красну выгукаці,
Студзёную зіму ў каморачку,
А цёплае лета на вулачку.

(в. Мікалаеўка Буда-Кашалёўскага раёна)

Благаславі, Божа,
Благаславі, Божа,
Божа мілы, песеньку запець,
На новае лета, на новае лета,
Божа мілы, на буйнае жыта.

(в. Вербавічы Нараўлянскага раёна)

Благаславі, маці,
Вясну гукаці,
Цёплага лета дажыдаці.
Цёплае лета ў каточку,
Халодная зіма ў палазочку.

(в. Лапаціна Гомельскага раёна)

Благаславі, маці,
Вясну загукаці,
Зіму замыкаці.
Лета ў карэце,
Зіма ў вазочку
Па белым сняжочку.

(Веснавыя песні, № 35, с.95)

Благаславі, маці,
Вясну гукаці,
Цёплага лета
Дажыдаці.

(Бел. фальклор у суч. запісах, № 51. с. 39)

У шматлікіх тэкстах веснянак, запісаных на тэрыторыі Беларусі, асабліва на Гомельшчыне, увасоблены матыў чакання шчодрых дароў, якія прыносіць вясна. У сувязі з гэтым названая разнавіднасць веснянак вылучаецца яркім этнаграфічным характарам, дае ўяўленне аб сялянскай працы, розных відах земляробчых заняткаў, радасцях, надзеях, уцехах з нагоды прыходу доўгачаканай пары. Песенны сюжэтны тып «Вясна, што ты нам прынясла» распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі ў вялікай колькасці варыянтаў. Тэксты, запісаныя у в. Бярэжцы Жыткавіцкага р-на, в. Стаўбун Веткаўскага р-на, в. Вышамір Рэчыцкага р-на, в. Букча Лельчыцкага р-на, в. Углы Брагінскага р-на, в. Васілевічы Жлобінскага р-на і інш., адлюстроўваюць надзённыя бытавыя клопаты селяніна, яго спадзяванні, прадчуванні. Вясну чака-

лі з нецярплівасцю і старыя, і маладыя, з ёй людзі звязвалі надзеі на добры ўраджайны год, на дастатак у хаце, плён на ніве:

Гей, вясна, гей, красна,
Што ты нам вынесла?
Ці по яечэчку, ці по
пірожэчэчку,
Ці сыра кусок, ці масла
брусок?
Гей, вясна, гей, красна.

(в. Бярэжцы Жыткавіччкага раёна)

Агу, вясна, агу, красна,
Што ты нам прынесла?
— Малым дзеткам — па яечку,
А дзевочкам — по вяночку,
А старым бабкам — па кіёчку.

(в. Букча Лельчыцкага раёна)

Ой, вясна-красна,
Што нам прынесла?
Дзевачкам — красу,
А хлопцам — каросту,
Што б яны не гулялі,
Да па росту бралі.
Ні вяліку, ні малу,
Як дубову кару.

(в. Дзяражычы Лоеўскага раёна)

Ой, вясна-красна,
Што нам прынесла?
Маладзіцам — кросны ткаць,
А дзевачкам — палотны бяліць.
Старым да малым —
На прызбе сядзець,
А дужым мужчынам —
Поле араць

(в. Дзяражычы Лоеўскага раёна)

Да, вясна красна,
Дзе ж ты была?
Да што ты нам прынясла?
Прынесла хлопцам па
лесачцы,
А малым дзецям па кружочку,
Малоданькам па чэпчыку,
А дзевачкам па кветачцы,
Каб хлопчыкі ў войска
пайшлі,
А малыя дзеткі хутка раслі,
Малоданькія ўбраны былі,
Красны дзеўкі замуж пайшлі.
(в. Углы Брагінскага раёна.)

Гэй, вясна, гэй, красна,
Што ж ты нам прынесла?
— А прынесла, прынесла
Цёпла лета ціхае,
І цёплую вадзіцу,
З зямліцы травіцу,
Старым бабкам па кійку,
А пастушкам па яйку.

(г. Гомель)

Паклон добрай вясне,
Яна шчасце нясе.
Маладзічкам — ваду
з крынічкі,
Умывацца, красавацца.
Дзевачкам — вяночкі,
Малойцам — чароўны ночкі,
Мужчынам — праз брод
па кладцы,
Каб да любай
не спазняцца,
Малым дзеткам —
па платочку,
А старэнькім — па кіёчку.

(в. Васілевічы Жлобінскага раёна)

Да, вясна красна, дзе ты была,
Што ты нам прынясла?
— Маладым малодкам — па бярдзечку, бярдзечку,
А дзевачкам — па пранічку, па пранічку,
А малым дзеткам па кіёчку, па кіёчку,
Маладым мужчынам — па плужочку, па плужочку,
А хлопцам — па пужачцы, па пужачцы.
Маладым малодкам — красёнцы ткаць,
А дзевачкам дый палотны рабіць,
Маладым дзеткам з яечкамі гуляць,
Старым дзядам — на муражочку сядзець.
Маладым мужыкам — поле араць,
А хлопчыкам — на пастку гнаць.

(в. Вышамір Рэчыцкага раёна)

Заслугоўваюць увагі вяснянкі на сюжэт «Вясна, дзе твая дачка», тэматыка якіх носіць гаспадарча-бытавы характар. Звернемся да тэкстаў названых песень, у якіх цэнтральнае месца займаюць рэалістычныя малюнкі веснавых занятказ:

— Вясна, вясна, вясняначка,
Дзе ж мая дачка Мар'яначка?
— Твая дочка
Сядзіць у садочку,
Шые сарочку
Шоўкам па беллю
К сваму вяселлю.

(в. Крапіўня Рэчыцкага р-на)

— Вясна, вясна, вясняначка,
Дзе твая дочка паненачка?
— Ох, вона сядзіць у садочку
Дай шые рубашочку,
Ой, яку, яку — ільняную
Свайму міломy, каханому.

(в. Прыбалавічы Лельчыцкага раёна)

— Ой, вясна, вясна,
вясняначка!
Дзе твая донька
Мар'яначка?
— Дзесь у садочку шые
сарочку
Свайму сыночку Васілёчку.
Дзесь на даліне шые
пярыны
Сваёй дзеваццэ Кацярыне.

(в. Каралін Гомельскага р-на)

— Вясна, вясна, вясняначка,
Дзе ж твая Уляначка?
Пагнала бычкоў
на паляначку.
Пасіся, бычок, сам
да вечара,
Я ж буду прасці тычку
Старому дзеду
на рукавічку,
А старэнькай бабульцы
На новую спаднічку.

(в. Стаўбун Веткаўскага раёна)

Вылучаецца група вяснянак з матывам замыкання зімы і адмыкання вясны, лета:

Ой, вясна, вясняначка,
Пчолачка ты сізакрылая,
Вылець з-за мора,
Вынесі ключыкі залатыя.
Замкні зімачку халодную,
Адамкні вясну і лецейка
цёплае.

(г. Лоеў)

Ты, пчолачка ярая,
Ты вылець за мора,
Ой, ляло, ляло,
Ты вылець за мора,
Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя,
Ой, ляло, ляло,
Ключыкі залатыя.
Адамкні лецечка,
Лета цёплае,
Ой, ляло, ляло,
Лета цёплае.
Замкні зіманьку,
Зіму сцюдзёную,
Ой, ляло, ляло,
Зіму сцюдзёную.

(Веснавыя песні, № 41. С. 97)

Немалая роля ў вяснянках адводзілася і птушкам, магічным вестунам вясны, да якіх звярталіся з просьбай прыляцець, «цёпла лецейка прынесці, зімачку прыбраць»:

Жавароначкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце,
А зімачку прыбярыце,
Бо зімачка надаела,
Нам хлебушак пераела.
Жавароначкі, прыляціце,
Зямлю-матушку абудзіце,
І дождыкам напаіце,
Каб травачкі парасцілі,
Каб волікаў накармілі.

(Веснавыя песні, № 158. С. 156)

Сярод вяснянак надзвычай пашыраны матыў сустрэчы зімы з летам. Дыялог гэтых дзвюх пор года вызначае структуру твораў, падкрэслівае ўласцівы ім драматургічны элемент. Песні акрэсленай групы маглі мець карагодную форму выканання:

Зіма з лецечкам сустракалася — у!
Зіма ў лецечка дай пыталася — у!
Пыталася, чаго рана на вулку не выходзіць — у!
— Мяне мамачка не пускае — у!

Шчэ й у каморачку замыкае — у!
А ў каморачцы дый кватэрачка — у!
А ў кватэрачцы дый вакенічка — у!
А па вуліцы ручаёк цячэ,
Божая маці танок вядзе — у!

(в. Любань Буда-Кашалёўскага раёна)

Лета краснае ідзе
І вясняначку заве:
Устань, пaглядзі,
Карагод з намі вядзі.
Вось тут жыла вясняначка,
Вось тут расла вясняначка,
Тут яна ўпала,
Ды сняжком прапала.
Устань, устань, вясняначка,
Пратры вочкі, як шкляначкі,
Кругом паглядзі, кругом паглядзі,
А ўжо кветкі цвітуць.

(в. Буразь Жыткавіцкага раёна)

Амаль паўсюдна на тэрыторыі Беларусі ў вялікай колькасці бытуюць песенныя варыянты вяснянкі «Вол бушуе—вясну чуе». Простыя па кампазіцыі, сціплыя ў выкарыстанні мастацкіх сродкаў, аднак дакладныя ў вобразных формах, гэтыя песенькі-заклікі ў некаторых варыянтах даволі ўдала спалучаюць з'явы веснавога адраджэння прыроды з глыбока ўнутраным светам чалавечых пачуццяў і перажыванняў:

Вол бушуе,
Вясну чуе.
Воран грача,
Сыра хоча.
Свіння рые,
Корань чуе.
Дзеўка плача,
Замуж хоча.

(в. Стаўбун Веткаўскага раёна)

Бугай раве — у поле хочэ,
Курка сокочэ — несціса хочэ,
Дзеўка плачэ — замуж хочэ.
Не рэві, бугай, напасеса,
Не сокочы, курка, нанесеса,
Не плач, дзяўчына, нажывеса,
Добра будзе — нажывеса,
Пагано будзе — наплачэса.

(в. Прыбалавічы Лельчыцкага раёна)

У песнях веснавога цыкла сустракаецца не толькі аграрна-гаспадарчая тэматыка, але і сямейна-бытавая, любоўная:

Як стаяла белая й бярозачка
Над вадою.
Папускала яна голейка
Ўніз да долу.

Вой там дзеўка-чарнаброўка
Воду брала
Да й з белаю бярозаю
Размаўляла.
Забылася белае бярозачкі
Наламаці.
Забылася я свайму міленькаму
Прыказаці
— Не пі, мілы, гарэлкі-
Палыноўкі,
Не любі-ка чужой жонкі-
Чарнаброўкі.

(Бел. фальклор у суч. зап.,
№ 45, с. 45)

Ой, вясна, ой, красна,
Не сядзіцца ў хаце,
Выйдзеш ты, выйду я
Вясну сустракаці — гу-у!
Выйшаў ты, выйшла я,
Выйшла мая маці
З вялікаю ламакаю
Мяне заганяці — гу-у!
А я малада ўцякала
Праз тры гароды,
Патаптала руту-мяту,
Нарабіла шкоды — гу-у!
На карыта спатыкнулася,
А на жлукта ўпала,
На жупаны паўпавала,
Горушка спазнала — гу-у!

(в. Лутава Лоеўскага раёна)

А ўжэ вясна, а ўжэ красна,
А са стрэх вада капля,
Што нашаму да й хлопчыку
Вандровачка пахне.
Завандраваў да й хлопчык
Да й босы па полю.
А за ім жа дзяўчыначка:
«Вярніся са мною!»
— Не вярнуся, не азірнуся,
Гардуеш ты мною,
Будзе твае гардаванне
Усё перада мною.
Будзе твая руса каса
Ў мяне пад нагою,
Будзе тваё белае ліцо
Ў мяне на далоні.

(в. Буда Рагачоўскага раёна)

Спецыфіка зместу вяснянак абумовіла асаблівасці іх мастацкай формы. Названая жанравая разнавіднасць песень адрозніваецца тым, што ў іх паяднаны прыкметы песенных велічанняў і замоўных заклінанняў, гучаць яны светла, радасна, заключаюць у сабе значную інфармацыю аб з'явах веснавой прыроды, а таксама адлюстроўваюць светапогляд чалавека, яго непасрэдныя дачыненні да кругавароту часу, свет яго паэтычных уяўленняў, душэўных перажыванняў.

Своеасаблівую магічную функцыю ў абрадзе загукання вясны выконвала абрадавае печыва ў выглядзе жаўрукоў ці іншых пе-

ралётных птушак. Людзі ў старажытнасці былі перакананы, што абрадавыя дзеянні, звязаныя з выпечаным хлебам ці іншымі хлебнымі вырабамі, з'яўляюцца пэўнымі стымуламі прылёту птушак, надыходу цяпла, абуджэння прыроды. Невыпадкова ў многіх вяснянках прадстаўлены гіпербалізаваныя карціны вяртання жаўранкаў з выраю, якім пад сілу было нават «крыгі крыламі разбіць», «маразы нагамі растаптаць». З прылётам птушак былі звязаны надзеі чалавека на цяпло, хутчэйшы надыход вясны, урадлівасць глебы, будучы добры ўраджай.

Спынімся на такім важным прысвятку, які адзначаецца 9 сакавіка па ст. ст. (22 сакавіка н. ст.) праваслаўнымі хрысціянамі ў гонар 40 пакутнікаў, па-народнаму — «Саракі», «Соракі».

Лічбе 40, якая даволі шырока сустракаецца ў павер'ях і абрадавых дзеяннях, надавалі магічнае значэнне. Калі на Саракі былі замаразкі, то лічылі, што «адбудзецца яшчэ 40 маразоў». У многіх месцах Беларусі выпякалі пячэнне — 40 «жаўранкаў», пасля чаго іх раздавалі дзецям, а адну з выпечаных птушак кідалі ў печ (Е. Раманаў). У в. Броніца Буда-Кашалёўскага р-на выпякаюць 40 галушак. Гэты ж звычай адзначаны даследчыкамі і ў Рагачоўскім р-не. У в. Смалегаў Нараўлянскага р-на, па словах інфарматараў, ламаюць 40 дошак, качаюць 40 калёс, вераць у прылёт 40 выраяў птушак.

Дзяўчаты на Саракі перарывалі 40 вяровачак і шнуркоў. Пераломленыя і перарваныя прадметы, па народных уяўленнях, сімвалізавалі сабой тыя сілы, якія скоўвалі зямлю. Выкананне названых дзеянняў павінна было наблізіць цяпло, абудзіць прыроду.

Цікавымі звычаямі ўшаноўваліся Саракі на Слонімшчыне. Дзяўчаты ў гэты дзень выпякалі з цеста галёпы-піражкі і пазначалі іх. Затым клалі іх у адзін рад і ўпускалі сабаку. Адбывалася своеасаблівая варажба. Сачылі за тым, чыя галёпа будзе з'едзена першай, што і сімвалізавала хуткае замужжа. Варожачы, дзяўчаты прыгаворвалі:

Веець, веець
Вясенні вецярок.
Прыйдзі, мой міленькі,
Дам табе піражок,
З мёдам сычаным,
З ласкаю дзявічаю.

На Слонімшчыне бытаваў і звычай выганяць зіму на цэлы год: з гэтай нагоды рабілі снежную бабу і разбівалі яе на часткі з патрабаваннем, «каб зіма на дзевяць месяцаў ад нас пайшла». Затым бралі старыя гаршкі і кідалі знаёмым на парог, гаворачы:

Гаспадынька наша,
Кідай сваю пражу.
Зіма ўжо прагнана,
Адчыняй свае дзверы,
Заві нас у госці,

што і з'яўлялася своеасаблівым доказам, што зіма прагнана.

Магічнае значэнне надавалася не толькі печыву піражкоў, але і шматлікім іншым прыкметам. Напрыклад, паводле інфармацыі дарэвалюцыйных збіральнікаў, у дзень 9 сакавіка паілі жывёлу з палонкі, дзе мыўся спачатку сам гаспадар; дзяўчаты, адрэзаўшы валасы з хваста каровы, прыкладвалі іх да галавы, спадзеючыся, што будуць доўгія косы; рассыпалі па дарозе жыта і апілкі, што прадвызначала плён у полі, добры ураджай і багацце лесу; кідалі саломай у сцяну хаты і сачылі за колькасцю трапіўшых саломінак. Колькі іх стукнецца аб сцяну, столькі курыца знясе яек за год; прывязвалі курам прыгожыя стужкі, каб напаткаўся прыгожы жаніх.

## БЛАГАВЕШЧАННЕ (ДАБРАВЕШЧАННЕ, ЗВЕСТАВАННЕ)

Свята Благавешчання адзначаецца ў народным календары штогод 7 красавіка. Назва свята паходзіць ад словазлучэння **«благая** (г. зн. добрая, шчаслівая, радасная) **вестка»** і звязваецца з агульнавядомым хрысціянскім сюжэтам аб цудоўным зачацці сына Божага — Ісуса Хрыста.

Згодна з Евангеллем ад Лукі (1, 26—38), з такой шчаслівай (благой) весткай звярнуўся да дзевы Марыі, якая жыла ў горадзе Назарэце і вяла дзявочы лад жыцця, пасланец Бога — архангел Гаўрыіл, які паведаміў ёй, што ў вызначаны час яна народзіць збавіцеля свету і выратавальніка людзей — Ісуса. Спачатку Марыя разгубілася ад такой нечаканай навіны («Як жа гэта будзе, калі я мужа не ведаю?»), але даведаўшыся, што зачацце адбудзецца цудоўным чынам — ад духа святога і ўсведамляючы сваю выключную ролі Маці Божай, яна дае згоду: «Няхай будзе мне па слову твайму». Лічыцца, што той момант, калі Марыя ўспрыняла благую вестку і згадзілася з наканаваным ёй лёсам, і з'яўляецца момантам яе цудоўнага зачацця, пачаткам яе цяжарнасці. Невыпадкова, што Каляды (Ражаство, Ражство) — дзень нараджэння Ісуса Хрыста — адзначаецца менавіта праз дзевяць месяцаў пасля Благавешчання — 7 студзеня.

Свята Благавешчання асабліва шануюць жанчыны, якія бачаць у дзеве Марыі ідэал Маці, самаадданай жанчыны з цяжкім, шматпакутным і шчаслівым лёсам.

Але яшчэ задоўга да прыняцця хрысціянства нашы продкі адзначалі гэты дзень як свята надыходу вясны. У старажытнасці ў гэты красавіцкі дзень людзі выпускалі на волю птушак, якія на працягу зімы знаходзіліся ў клетках: лічылася, што гэта паскорыць набліжэнне вясны, канчаткова прагоніць зіму. На Беларусі вядома павер'е аб тым, што на Благавешчанне абавязкова прылятае з выраю бусел — птушка, якая карыстаецца ў народзе з даўніх часоў любоўю і павагай. «Бусел прыляцеў — вясна будзе», — гаворыць беларус, заўважыўшы першае з'яўленне гэтай птушкі. Добра вядомая і народная прыкмета: на чыім двары паселіцца бусел — там заўжды будзе шчасце, дабрабыт і поўны парадак. Менавіта таму на стрэхах многіх дахаў або на высокіх дрэвах у вёсках і зараз можна ўбачыць старую барану або старое кола, на якіх буслы маглі б звіць сабе гняздо. Па народнаму павер'ю, асабліва пашчасціць таму, хто на Благавешчанне ўбачыць бусла ў палёце: такі чалавек увесь год будзе «лёгкі на ногі». Разбураць гняздо бусла, тым больш забіваць яго — вялікі грэх. Гэта, па перакананню народа, тое ж, што і забіць чалавека, бо бусел, паводле падання, — гэта ператвораны ў птушку чалавек. Наш народ захаваў шмат легенд аб паходжанні бусла з чалавека. Вось адна з іх, запісаная ў канцы мінулага стагоддзя вядомым фалькларыстам

і этнографам М. Я. Нікіфароўскім: «Етае было тады, як Бог па зямле хадзіў. На зямлі развялася такая многасць гадаў, што не стала ад іх жыцця ні людзям, ні жывёле. І парашыў Бог знішчыць іх, патапіўшы ў якойсьці бяздонніцы. Бог сабраў гадаў у торбу, завязаў яе, узваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае месца. Як толькі чалавек рушыў з месца, то ўся сволач, якая была ў торбе, засквірлася, засіпела, засвітала, і ўзяла цікавасць, што ён такое прэць.

Чалавек развязаў торбу да і аслупянеў ад страху. Гады ж тым часам вылезлі з торбы і распаўзліся ізноў па зямлі. Бог не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь, і ён накінуў на чалавека парожнюю торбу і загадаў збіраць у яе паўцякаўшых гадаў. Дзеля гэтага ён дапасаваў цела неразумнага чалавека так, каб той мог дастуліцца да гада ў любым месцы. І ходзіць гэты пераватвораны чалавек з накінутай паміж плеч торбай па лугах, палях, балотах ды збірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць не можа, нягледзячы на тое, што Бог для дапамогі паслаў яму жонку і дзяцей. З прычыны сваёй крэўнасці з чалавекам гэты пярэварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей».

На Палессі раней існаваў звычай выпякаць на Благавешчанне рытуальнае печыва — «галёпа», «го́лепа» — з выявай лапы бусла (адсюль яшчэ адна яго назва — «буськовы лапы»). Убачыўшы на Благавешчанне ляцячага бусла, дзеці крычалі, звяртаючыся да яго і трымаючы ў руках гэтае печыва: «Буську, буську, на́ табе галёпу, дай мне жыта копу!».

На Благавешчанне забаранялася выконваць якую б то ні было работу: «На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе» — гаворыць народная прыказка. Да Благавешчання строга забаранялася капаць зямлю, г. зн. пачынаць сельскагаспадарчыя работы: «...нельга чапаць зямлі-маткі, бо яна можа прагневацца да й не зарадзіць», — чытаем аб гэтым звычаі ў кнізе А. К. Сержпутоўскага «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў». Больш таго, да гэтага дня забаранялася забіваць колле ў зямлю (напрыклад, пры пабудове агароджы): «каб не забіць спор у зямлі» і не выклікаць тым самым улетку засухі. Апошняе вераванне было настолькі моцным, што ў тым выпадку, калі летам доўгі час не было дажджоў, сяляне разбуралі агароджу таго гаспадара, які ставіў або рамантаваў яе да Благавешчання.

Цікавыя звесткі аб Благавешчанні ўтрымліваюцца ў рабоце А. Шыманоўскага «Минская губерния и ее народное творчество в связи с описанием народных праздников и обрядов» (1898), рукапіс якой знаходзіцца ў архіве геаграфічнага таварыства ў Санкт-Пецярбурзе. Як зазначае збіральнік, у гэты дзень не пякуць і не вараць: у адваротным выпадку ўсё паселішча будзе спалена сонцам; калі на Благавешчанне курыца знясе яйка, то яго не кладуць пад квахтуху, бо выведзецца кураня-калека. Напярэ-

дадні Благавешчання пякуць перапечкі, выносяць іх на двор і кладуць на хлеў, а ў дзень Благавешчання аддаюць каровам, каб давалі больш малака. Калі ў дзень Благавешчання ёсць яшчэ снег на стрэхах, то яго збіраюць у посуд, а калі гэты снег растане, паліваюць расаду гародніны, каб яе не елі вусеніцы. І яшчэ некалькі забарон звязана з днём Благавешчання: гаспадыням нельга расчэсваць валасы, каб куры не разграбалі смецця; нельга таксама нікому што-небудзь пазычаць, каб на працягу года мець усё неабходнае ў сваёй гаспадарцы. Забаранялася таксама выносіць смецце з хаты, каб куры ў летні час не гублялі яек па чужых дварах.

Благавешчанне лічылася днём, спрыяльным для прадказання надвор'я: яно вызначалася як на бліжэйшы час, так і на ўвесь год. Верылі перш за ўсё ў тое, што благавешчанскае надвор'е абавязкова паўтараецца на Вялікдзень. Калі на Благавешчанне прайшоў снег — будзе мокрае лета; калі ж у гэты дзень назіралася сухое, цёплае надвор'е, лічылі, што лета будзе засушлівае, а восень марозная. Згодна з народнымі прыкметамі, захаванне снегу да Благавешчання абяцае грыбное лета і цёплую, сонечную восень.

# ПЕРАДВЕЛІКОДНЫ ТЫДЗЕНЬ

Тыдзень перад Вялікаднём — апошні тыдзень Вялікага посту — гэта своеасаблівая кульмінацыя падрыхтоўкі да аднаго з галоўнейшых свят народнага календара. Пачынаўся гэты тыдзень з Вербнай нядзелі, або з Вербніцы. У цэнтры абрадаў гэтага святочнага дня была асвечаная ў царкве вярба. Тлумачыцца гэта тым, што галінкі менавіта гэтага дрэва нагадваюць пальмавыя галінкі, з якімі народ сустракаў Ісуса Хрыста пры яго ўездзе ў Ерусалім за тыдзень да свайго цудоўнага ўваскрэсення. Вось што расказваецца аб гэтай падзеі ў народнай легендзе, запісанай у в. Васілевічы Жлобінскага раёна ад жыхаркі гэтай вёскі А. Г. Новік: «У гэты дзень Ісус Хрыстос пайшоў у Ерусалім. Вестка аб тым, што ідзе Спасіцель у Ерусалім, пранеслася па гораду, і шмат людзей выйшла насустрач таму, хто васкрэсіў Лазара. У лікаванні людзі зрывалі галінкі з дрэў, усцілалі імі дарогу Спасіцеля. Таму Вербную нядзелю мы сустракаем у храме з галінкамі ў руцэ. Гэтыя галінкі напамінаюць нам не толькі аб радаснай сустрэчы Госпада жыхарамі Ерусаліма, але і аб тым, што зіма не вечная, што прыйшла вясна, і зноў усё зазелянее, зацвіце і будзе прыносіць плады».

У гэты дзень галінкамі асвечанай у царкве вярбы дакраналіся да сваіх родных і знаёмых, «пахлёствалі» іх і прыгаворвалі пры гэтым, калі «вербахлёст» адрасаваўся дзецям:

Не я б'ю — вярба б'е.
За тыдзень — Вялікдзень.
Будзь багаты, як зямля,
Будзь здаровы, як вада,
Як лёд — на ўвесь год.

Або:

Не я б'ю — вярба б'е.
За тыдзень — Вялікдзень.
Будзь вяліка да страйна,
Як вярба.
Будзь здарова, як вада,
Будзь багата, як зямля.

Людзі верылі, што праз такое рытуальнае «біццё» галінкамі вярбы чалавеку (у першую чаргу — дзіцяці) перадаецца моц, жыццяздольнасць і прыгажосць гэтага дрэва, якое з'яўляецца сімвалам здароўя і дабрабыту.

На Вербніцу дзяўчаты варажылі: сцябалі галінкамі вярбы незнаёмых хлапцоў і пыталіся пры гэтым іх імя, вызначаючы імя будучага мужа.

Асвечанай у царкве вярбой хлясталі таксама і хатнюю жывёлу, каб яна была здаровай і пладавітай; галінкі вярбы падмеш-

валі жывёле ў ежу, іх падвешвалі да столі ў хаце і хляве. Гэтыя ж галінкі спецыяльна захоўвалі да вясенняга свята Юр'я: імі ўпершыню выганялі жывёлу ў статак.

Гаючыя ўласцівасці, якімі надзялялася асвечаная вярба, выкарыстоўваліся ў народнай медыцыне. Так, гэтай вярбой пахлёствалі хворых, прыгаворваючы: «Не я б'ю—вярба б'е. Хвароба ў лес, здароўе ў косці». Беларусы-пінчукі ад зубнога болю і ліхаманкі з'ядалі з асвечанай вярбы па дзевяць пупышак, называючы іх «авечкамі». Шырока распаўсюджаным было павер'е аб тым, што асвечаная вярба надзейна засцерагае дом ад усякай нечысці.

Першы панядзелак Перадвялікоднага тыдня носіць назву Чысты панядзелак. На Гомельшчыне ў гэты дзень сяляне пазбягалі трымаць у доме што-небудзь бруднае, нячыстае, каб на людзей і на жывёлу не напалі паршы.

У сераду Перадвялікоднага тыдня клалі пад страху хлеб, соль і мыла. З гэтым хлебам на Юр'я выганялі жывёлу з хлява, соль выкарыстоўвалі ў будучым як сродак ад сурокаў, а мылам на наступны дзень да ўзыходу сонца мыліся ў лазні, каб быць чыстымі здаровымі ўвесь год.

Наступны дзень Перадвялікоднага тыдня — Чысты чацвер — звязаны са старажытным звычаем ачышчэння, амывання перад «вялікімі днямі» — пачаткам вясенніх палявых работ. У гэты дзень абавязкова чысцілі і прыбіралі хату, падворак, а сабранае ў хаце смецце спальвалі на сметніку. Мылі і жывёлу, асабліва коней, каб увесь год былі дужымі. Каровам, каб былі малочнымі, абмывалі вымя вадою, зачэрпнутай да ўсходу сонца з месца зліцця двух ручаёў. Да сонечнага ўсходу ўсе члены сям'і павінны былі вымыцца ў лазні, што лічылася лячэннем і засцярогай ад захворвання скуры. Верылі, што той, хто адважыцца ў гэты дзень пакупацца ў палонцы ці вымыцца на досвітку ў лазні, кінуўшы ў пасудзіну серабро, не будзе хварэць увесь год. Распаўсюджаным было павер'е аб тым, што ў гэты дзень раніцай воран купае ў рэчцы сваіх дзяцей, і трэба спяшацца набраць вады, «пакуль воран дзяцей не купаў». Беларусы верылі, што калі хто-небудзь убачыць купанне ворана і прыдбае хаця б кроплю вады з вараняці, той будзе не толькі здаровы на ўсё жыццё, але і ўсё будзе ведаць.

На сцянах дамоў і хлявоў малявалі крэйдай крыжы для засцярогі ад нячыстай сілы. У канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя беларусам быў вядомы і такі старажытны звычай, апісаны, у прыватнасці, вядомымі фалькларыстамі П. В. Шэйнам і Е. Р. Раманавым: у Чысты чацвер да світання голая жанчына (гаспадыня) абыходзіла вакол свайго дому і абсыпала яго зернем, каб на працягу ўсяго года ў дом не магла трапіць нячыстая сіла.

У чацвер Перадвялікоднага тыдня перапякалі на патэльні ў печы соль, збіралі яе і выкарыстоўвалі ў далейшым як важны сродак народнай медыцыны, асабліва пры лячэнні ад сурокаў. Асвячалі таксама ў царкве свечы, якія лічыліся засцярогай ад маланкі; іх давалі таксама ў рукі паміраючым.

На Чысты чацвер імкнуліся абавязкова што-небудзь пасеяць на полі ці ў агародзе, спадзеючыся, што ўсё вырасце чыстым, без пустазелля.

Надвор'е гэтага дня, паводле народных назіранняў, павінна абавязкова паўтарыцца на Вялікдзень, а таксама на Ушэсце (саракавы дзень пасля Вялікадня).

У пятніцу на Перадвялікодным тыдні — у Вялікую пятніцу — асабліва строга пасцілі, у гэты дзень нельга было выконваць нават многія работы ў доме. Асаблівая значнасць гэтага дня звязана перш за ўсё з тым, што, паводле Бібліі, менавіта ў пятніцу Ісус Хрыстос быў распяты на крыжы.

У Вялікую пятніцу вясковыя дзяўчаты на досвітку мыліся халоднай вадой, каб быць здаровымі на працягу ўсяго году.

Пасеяны ў гэты дзень хлеб, як лічылі на Віцебшчыне, не баіцца ні ветру, ні дажджу, ні граду. Палешукі былі пераканаты, што, калі на Вялікую пятніцу пасеяць гарох, то ён вельмі добра зародзіць.

Субота перад Вялікаднём цалкам прысвячалася прыгатаванню святочнай ежы, якой пасля асвячэння ў царкве разгаўляліся на Вялікдзень: фарбавалі ў шалупінні цыбулі яйкі, пяклі ўпрыгожаныя крыжамі булкі, смажылі мяса, каўбасы. Асаблівая ўвага надавалася прыгатаванню ў суботу **пасхі (паскі)** — высокага круглага хлеба, на верхняй скарынцы якога выкладваўся з цеста крыж. Пры гэтым уважліва назіралі: калі пасха «ўдаецца», то ўсё ў сям'і будзе добра, калі ж яна ў печы не падыйшла або трэсне скарынка — трэба чакаць непрыемнасцей.

# ВЯЛІКДЗЕНЬ (ВЯЛІКАННЕ, ВЯЛІЧКА)

Вялікдзень з'яўляецца самым значным і ўрачыстым народным святам, якое адзначалася старажытнымі славянамі ў гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх дзён» палявых работ. Гэтае свята не мае пэўнай, пастаяннай прымеркаванасці ў народным каляндары: у залежнасці ад месячнага календара яно прыпадае на час ад 4 красавіка да 8 мая.

Урачыстасць Вялікадня тлумачыцца і яго рэлігійным зместам. У адпаведнасці з хрысціянскімі ўяўленнямі, гэтае свята праслаўляе цудадзейнае ўваскрасенне Ісуса Хрыста, які быў пакараны распяццем на крыжы. Згодна з евангельскім тэкстам, на трэці дзень пасля смерці Ісуса да саркафага, дзе знаходзілася яго цела, прыйшлі жанчыны, каб у апошні раз абмыць і нацерці духмянымі рэчывамі нябожчыка. Але, да іх вялікага здзіўлення, труна, у якой знаходзілася цела Ісуса, аказалася пустой. Анёлы ж, якія знаходзіліся побач, паведамілі жанчынам, што Ісуса шукаць тут не трэба, бо ён уваскрэс, г. зн. ажыў пасля смерці, а яго вучні неўзабаве ўбачаць яго.

Гэтай падзеі — цудоўнаму вяртанню да жыцця Ісуса Хрыста — і прысвечаны разнастайныя хрысціянскія звычаі і абрады на Вялікдзень (Пасху). Не выпадкова, што і вітацца ў гэты дзень прынята словамі: «Хрыстос уваскрэс!».

Разам з тым гэтае веснавое свята ўключае многія дахрысціянскія (язычніцкія) ўяўленні і вераванні. Гэтае свята, як ужо адзначалася, нашы продкі-земляробы прысвячалі (як на Купалле або на Каляды) сонцу, яго цудадзейнаму, жыватворнаму цяплу. Менавіта таму да сённяшніх дзён захаваўся звычай запальваць у вялікодную ноч вогнішчы, якія сваім святлом быццам бы ўздзейнічаюць на сонца і выклікаюць хутчэйшы надыход вясны.

У вялікоднай абраднасці ўвогуле даволі цесна перапляліся хрысціянскія і язычніцкія ўяўленні. Беларускі этнограф А. Я. Багдановіч (бацька Максіма Багдановіча) у канцы мінулага стагоддзя ў сувязі з гэтым пісаў: «Рэшткі старажытнаязычніцкіх звычаяў і поглядаў захаваліся ў народных святкаваннях хрысціянскіх свят і да цяперашняга часу. Беларусы і зараз глядзяць на святы і святых праваслаўнай царквы праз прызму сваіх культурна-земляробчых інтарэсаў, лічачы іх памагатымі ў сваёй сельскагаспадарчай працы, абаронцамі статкаў, ахоўнікамі пчол, пасылальнікамі дажджоў...».

Падрыхтоўка да Вялікадня адбывалася на працягу Перадвялікоднага тыдня і заканчвалася ў Вялікую суботу прыгатаваннем святочнай ежы, якую неслі ў царкву, дзе гэтая ежа ў час службы асвячалася. Святочнай ежы на Вялікдзень увогуле надавалася вялікае значэнне: невыпадкова, што слова «пасха» вядома бела-

рускай мове і як абазначэнне свята, і як назва ежы, якую гатавалі да гэтага свята.

Пасля асвячэння пасхі ў царкве кожны гаспадар імкнуўся як мага хутчэй бегчы з ёю дадому. Гэты звычай быў заснаваны на народным павер'і: хто першы прыбяжыць з пасхаю дамоў, у таго будзе лепшы ўраджай, і той гаспадар першы скончыць палявыя работы. Існавалі ў сувязі з гэтым звычаем і некаторыя іншыя павер'і: хлеб будзе расці так хутка, як бяжыць гаспадар; хто пераганіць іншых, у таго конь будзе моцным цэлы год і будзе ў рабоце пераганяць суседніх.

Раніцай на Вялікдзень назіралі таксама, як «іграе» сонца: па павер'і, яно ў гэты дзень быццам бы расцягваецца ў даўжыню і шырыню, распадаецца на некалькі асобных сонцаў, пераліваецца ва ўласных промнях, падзяляючы радасць людзей з-за надыходу вясны і адраджэння жыцця. Заўважылі пры гэтым, што калі сонца асабліва прыкметна «іграе», то гэта прадказвае добрае лета, багаты ўраджай і шчаслівыя вяселлі.

Асвечаная ў царкве ежа («свянцонае») надзялялася незвычайнымі, магічнымі ўласцівасцямі. Напрыклад, скарынкі ад пасхі ніколі не выкідвалі, а сушылі, таўклі і клалі ў гарэлку — гэта, па народнаму павер'ю, засцерагала ад уздзеяння ведзьмароў. Косці ад мясных святочных страў звычайна закопвалі на полі, што павінна было абараніць ніву ад граду і заломаў, забяспечыць добры ўраджай. Гэтыя ж косці, як лічылася, засцерагаюць сабак ад шаленства.

Абрус, на якім стаялі велікодныя стравы, захоўваўся ў недатыкальнасці на працягу ўсяго года: ён, згодна з народнымі вераваннямі, ахоўвае ад граду, і таму пры з'яўленні градавых хмар гэты абрус рассцілалі на двары.

У цэнтры велікоднай абраднасці знаходзіцца яе своеасаблівы сімвал — пафарбаванае яйка. У ім надзвычай цесна перапляліся хрысціянскія і больш старажытныя язычніцкія ўяўленні. Згодна з біблейскім сюжэтам, пачатак звычаю фарбаваць і дарыць на Вялікдзень чырвоныя яйкі быў пакладзены святой Марыяй Магдалінай, якая звярнулася да імператара Ціверыя з прывітаннем «Хрыстос уваскрэс!» і, паднесшы яму ў падарунак чырвонае яйка, пачала сваю пропаведзь. Паводле хрысціянскіх уяўленняў, велікоднае яйка сімвалізуе жыццё, перамогу жыцця над смерцю, а яго чырвоны колер нагадвае аб крыві Хрыста, якая была праліта дзеля выратавання людзей.

Разам з тым нашымі продкамі яйка яшчэ з дахрысціянскіх часоў усведамлялася як увасабленне жыцця. Рускі фалькларыст і этнограф А. М. Афанасьеў пісаў у кнізе «Паэтычныя погляды славян на прыроду»: «Яйка, як метафара сонца і маланкі, лічыцца ў міфалогіі сімвалам вясенняга адраджэння прыроды, крыніцай яе творчых сіл. Прыпадабняючы круглы купал неба верхняй палове

яйкавай шкарлупіны, меркавалі, што ніжняя яго палова спускалася ўніз і замыкала сабою падземны свет. Такім чынам, не толькі сонца, але і ўвесь сусвет уяўляўся адным вялікім яйкам».

Нашы продкі надавалі яйку чароўныя, магічныя ўласцівасці: людзі верылі, што яно магло ўплываць на здароўе, прыгажосць, пачуцці, на ўрадлівасць зямлі. Напрыклад, у дзень першага выгану жывёлы ў поле гаспадар дакранаўся яйкам да галавы каровы або каня і прыгаворваў: «Як гэтае яйка гладкае і круглае, так і мая кароўка будзь гладкай і круглай». Пачуўшы першы гром, дзяўчаты з курыным яйкам у руцэ беглі да крыніцы і ўмываліся крынічнаю вадою, дакранаючыся пры гэтым да твару яйкам. Ад гэтага, як лічылася, твар будзе прыгожым і белым.

Асабліва шанавалася велікоднае, фарбаванае яйка. Асвечанае ў царкве яйка елі першым пасля вяртання з усяночнай службы, пачынаючы святочнае застолле. У першы дзень Вялікадня лічылася неабходным мыцца вадою, у якую пакладзены залатыя і сярэбраныя рэчы, а таксама чырвонае велікоднае яйка, каб увесь год быць багатым, чыстым і прыгожым, як яйка. Маці гладзілі чырвоным яйкам, якое вымалі з вады, па твары сваіх дзяцей, каб яны былі заўсёды румянымі і чырванашчокімі.

Фарбаваныя велікодныя яйкі і зараз дораць родным і знаёмым. Абмен такімі яйкамі-падарункамі паміж хлопцамі і дзяўчатамі азначае іх прызнанне ва ўзаемным каханні. Важнае значэнне мела велікоднае яйка, атрыманае ад каго-небудзь першым: верылі, што яно не псуецца на працягу ўсяго года і мае цудадзейную сілу. Лічылі, напрыклад, што пажар ад маланкі можна патушыць, кінуўшы ў агонь такое яйка. Велікодныя яйкі клалі ў зерне, прызначанае для сяўбы; у час сяўбы раскідвалі на полі шкарлупінне ад велікодных яек, якое, паводле народных уяўленняў, не толькі павялічвае ўраджай, але і зберагае яго ад граду і злога вока. Беларусы лічылі таксама, што такое шкарлупінне трэба затыкаць у шчыліны бярвенняў у хаце, «каб не вадзіліся прусакі».

Вельмі распаўсюджаным было і застаецца рытуальнае біццё велікодных яек. Пераможцам пры гэтым лічыцца той, у каго аказваецца больш моцнае яйка («мацак») і хто адпаведна становіцца ўладальнікам большай колькасці выбітых яек.

Не менш папулярнае і качанне велікодных яек з горак, якое пачынаецца ў першы дзень Вялікадня і працягваецца цэлы тыдзень. Пераможцам у гэтай гульні лічыцца той, чыё яйка пакоціцца далей, чым у іншых удзельнікаў гульні. На думку вучоных-этнографаў, у глыбокай старажытнасці качанне яек па зямлі ўспрымалася не як забава, гульня, а як сур'ёзны магічны акт. Вядомая даследчыца абрадаў усходніх славян В. К. Сакалова так тлумачыць змест такога звычаю: «Яйка, што сімвалізуе нараджэнне новага жыцця, дотыкам да зямлі павінна абудзіць яе ад зімовага сну».

Надаванне яйкам чароўных, жыватворных уласцівасцей назіраецца і ў іншых абрадавых дзеяннях. Напрыклад, у некаторых вёсках вясной качалі яйкі па руні ў полі: лічылі, што ад гэтага жыта будзе лепш і хутчэй расці. Вядомы і такі старажытны звычай: на Вялікдзень хадзілі «хрыстосавацца» з памёршымі і пры гэтым качалі яйкі па магіле, як бы заклінаючы мёртвых ажыць і прыняць удзел у сумесным абедзе.

Моладзь у гэты дзень абавязкова гушкалася на арэлях, што таксама ўсведамлялася як важнае магічнае дзеянне: пад'ём, узлёт на арэлях угору павінен быў, на думку людзей, стымуляваць рост расліннасці, пасеваў, дапамагчы ім хутчэй падняцца.

З велікоднага тыдня пачынаюцца летнія гулянні, ваджэнне карагодаў і заклікание вясны.

На другі і трэці дзень Вялікадня па вёсках хадзілі валачобнікі — велікодныя спевакі-славельшчыкі. Для выканання абраду валачобніцтва ствараўся валачобны гурт, галоўным у якім быў пачынальнік (запявала). Акрамя таго, у гурт уваходзілі музыкі, якія іґралі на скрыпцы і дудзе, а таксама механоша, які насіў «валачобнае» — святочныя дарункі гурту. Валачобнікі абыходзілі ўсе хаты ў вёсцы і перад кожнай хатай спявалі, услаўляючы гаспадара, членаў яго сям'і, жадалі плённай працы, добрага ўраджаю, прыплоду жывёлы. У адказ гаспадары дзякавалі валачобнікам і давалі ім дарунак — валачобнае (фарбаваныя яйкі, каўбасы, сыр, булкі). Па свайму зместу валачобныя песні маюць земляробчы характар. Аб гэтым сведчыць і паходжанне самой назвы **валачобны** — ад старажытнага тэрміна **валачоба,** г. зн. баранаванне. Выкананне валачобнага обраду, як лічылася, спрые ўраджаю, дабрабыту сям'і, засцерагае ад розных нягод.

У вёсцы Лутава Лоеўскага раёна спявалі такую валачобную песню:

Валачобнікі валачыліся,
Хрыстос васкрэс, Сын Божы!*
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі да бабкі, падсушыліся.
Была ў бабкі курачка-рабушка,
Нанесла яечак поўны запечак.
Усім валачобнікам па яечку,
Аднаму Ванечку дай не выстalaся.
«Дам табе, Ваня, пару коней» —
А ён не бярэ і дамоў не ідзе.
«Дам табе, Ваня, стада авечак» —
Ён авечак не бярэ і дамоў не ідзе.
«Дам табе, Ваня, красную дзеўку» —
Ён дзеўку бярэ і дамоў пайшоў.

---

* Гэтыя словы паўтараюцца пасля кожнага радка.

# РАДАЎНІЦА

Радаўніца (Радуніца, радуніцкія Дзяды) займае важнае месца ў велікоднай абраднасці і адзначаецца ў аўторак паслявелікоднага тыдня. Гэта веснавое язычніцкае свята ўсходніх славян, звязанае з культам продкаў, своеасаблівы рытуал памінання памерлых, вытокі якога знаходзяцца ў першабытна-абшчынным ладзе. Хоць і ўзнікла Радаўніца ў далёкія старажытныя часы, аднак на працягу стагоддзяў свайго існавання амаль не страціла сваіх асноўных сімвалічных абрадавых дзеянняў, данесла да нашых дзён усведамленне продкамі глыбокай нябачнай унутранай еднасці нябожчыкаў са светам жывых, іх перакананне ў тым, што памерлыя («чыстыя», «дзяды», што памерлі сваёй смерцю; і «нячыстыя», «мерцвякі», што памерлі не сваёй смерцю: самагубцы, тапельцы, апойцы) не страцілі здольнасці сачыць за тымі, хто жыве.

Звычай ушанавання продкаў быў арганічнай часткай жыцця жывых, і, як сведчаць шматлікія факты, пэўным чынам суадносіўся з канкрэтнымі датамі календара — народнага і царкоўнага. Вучоныя спрабавалі знайсці адказ на пытанне, які характар мела гэта сувязь. Тлумачэнні былі самымі рознымі. Адны спрабавалі такую прымеркаванасць, прывязанасць да календара абумовіць псіхалагічным фактарам (зіма—смерць—памерлыя); другія бачылі гэту «асацыяцыю ідэй» (С. А. Токараў) у тэзісе «вясенняе адраджэнне прыроды — надзея на ўваскрэсенне памерлых»; трэція лічылі, што памінальныя абрады, як і каляндарныя, маюць аграрна-магічную функцыю (імі імкнуліся ўздзейнічаць на ўраджай). Даследчык С. А. Токараў перш за ўсё характарызуе памінальныя абрады як сямейныя. Рыхтуючыся да памінак, людзі імкнуліся ў гэтыя дні запрасіць памёрлых членаў сям'і на сямейную святочную трапезу, прычым рабілі гэта па-рознаму. Напрыклад, уяўлялі сабе, што душы нябожчыкаў сядзяць разам з жывымі за сталом, іншы раз пакідалі рэшткі ежы на стале ці на падаконніку для душ, якія пажадаюць прыйсці ў госці да нашчадкаў ці рыхтавалі стравы і неслі на могілкі, дзе елі, пілі, частавалі памерлых.

У любым выпадку, хоць, магчыма, і наіўна, але спрадвеку было вялікае жаданне памянуць нябожчыкаў, ушанаваць іх памяць, а яшчэ даўней — нават улагодзіць іх душы, каб яны не чынілі шкоды, а дапамагалі. Абрады памінання продкаў народжаны не рэлігійнымі вераваннямі, а маюць больш глыбокія карані, узыходзяць да эпохі абшчынна-родавага ладу, да традыцый сямейна-родавага культу.

У адрозненне ад іншых дзён памінання на Радаўніцу (аўторак на Фаміным тыдні) звычайна пасля паўдня кожная сям'я памінала памерлых родзічаў на могілках, якія папярэдне прыбіраліся, прыводзіліся ў парадак. Святочна апранутыя людзі (старыя, ма-

лыя) моўчкі рассаджваліся каля белага абруса, якім засцілалі насып. Стравы рыхтаваліся разнастайныя — мяса, пафарбаваныя яйкі, сыр, куцця, хлеб, масла, кулічы, гарэлка. Па апісанні А. Багдановіча, у гэты дзень гаспадыні абавязкова пякуць «грыбкі» (тоўстыя бліны з пшанічнай мукі на масле і яйках). Названыя стравы абавязкова адкладваюцца ці адліваюцца для нябожчыкаў, каб засведчыць павагу да іх з боку жывых. Трапеза працягваецца доўга, напрыклад, паводле этнаграфічных звестак, запісаных М. Дзмітрыевым, гаспадар сям'і, праліўшы некалькі кропель віна на абрус, звяртаецца з заклікам да Дзядоў:

Святыя радзіцелі,
Што ад нас паляцелі,
Хадзіце к нам,
Будзем есці, што Бог даў!

Паабедаўшы, рэшткі ежы аддавалі вандроўным жабракам, якія выконвалі набожныя песні. Верылі, што шчодра аддадзенае ўсё роўна дойдзе да памерлых сваякоў. Развітваючыся, некаторыя члены сям'і жадалі нябожчыкам, каб зямля для іх была лёгкай, не давіла грудзі, каб яны маглі свабодна дыхаць вясеннім паветрам. Аднак многія заставаліся на могілках да позняй ночы. Адны з іх качалі на магіле чырвоныя велікодныя яйкі, якім надавалася сімвалічнае значэнне адраджэння жыцця, а другія, успамінаючы памерлых родзічаў, моцна галасілі. Прычым, М. Дзмітрыеў падкрэсліваў, што, галосячы, сірата, нявестка смела скардзіліся на тых, хто іх крыўдзіць, а помсціць за гэта нельга было, лічылася цяжкім і недаравальным грахом.

А. Багдановіч, апісваючы «нябожчыцкі вялікі дзень», адзначаў такія дэталі ў абрадзе памінання продкаў: на магілу іншы раз лілі гарэлку, калі нябожчык любіў выпіць; сыпалі табак, калі быў курыльшчыкам ці нюхальшчыкам, але часцей за ўсё рэшткі памінальных страў аддавалі жабракам, пакідаючы на магіле толькі адно велікоднае яйка. Святкаванне Радаўніцы заканчвалася звычайна дамашнім застоллем вечарам у хаце або ў карчме.

Падрабязна апісвае Радаўніцу М. Косіч, якая назву «радуніца» тлумачыць тым, што гэта «самае радаснае свята памерлых: «йета йіх веліка дня». З раніцы на Радуніцу ўсе мужчыны яшчэ на рабоце, а жанчыны рыхтуюць стравы; але як толькі раздаўся звон на абедню, з кожнага двара панеслі ў царкву 5 патэльняў на паніхіду, памінальнічку і чарку мёду. Пасля абедні за грэх лічылася рабіць работу. Усе—і малыя, і старыя—ішлі на могілкі, дзе раскладвалі на абрусах кавалкі пасвечанай «пасхі», чырвоныя яйкі, ялавічыну і тварог.

Па сведчанні М. Косіч, у гарадах гэты дзень («радуніцкія дзяды») быў падобны на гаманлівы кірмаш, а ў вёсках памінанне

продкаў праходзіла спакойна, маўкліва. Свяшчэннік служыў на могілках паніхіду, а пасля гэтага ўсе стравы зносілі ў адно месца. Хрысціянскія абрады на гэтым заканчваліся, пачыналася па старой памяці язычніцкая трызна: «ядуць, запіваюць, прыгаварваюць: «пакойнічак Аўтух Сідаравіч, няхай яму там лёгенька згадаецца, любіў гарэлачку, — заўпакой жа яго душачкі, царства яму нябеснае». Наеўшыся і напіўшыся, ідуць з могілак у вясёлым настроі. Дзе-небудзь па дарозе на прыгорку старыя бабы-весялухі (з тых, у каго няма свежых магілак) і дзяўчаты водзяць карагод, спяваюць песню «Пасеялі дзеўкі лён», «каб лён радзіў»:

Пасеялі дзеўкі лён,
Дзеўкі лён.
Стой пряма,*
Дзяржысь брава,
Гавары, што сеялі.
Пасеяўшы, палолі,
Палолі, палолі.
Стой пряма,
Дзяржысь братва,
Гавары, што палолі,
Белы ручкі калолі,
Калолі, калолі.
Стой пряма,
Дзяржысь брава,
Гавары, што калолі.
У вялікам у горадзі,
Звізаў лянок у вянок,
Стой пряма,
Дзяржысь брава,
Гавары — звізаў у вянок.

Іншы раз жанчыны нават ішлі ў скокі, прыпяваючы:

У вялікім у горадзі,
На пріекраснай вуліцы,
Там і Ганна гуляла,
Там Іванаўна гуляла
І арэшкі цатала
С сям'ю картамі йграла,
Казыряла, падказырлівала.
Як пріешоў к ей татухна —
Полна, Ганна, гуляць,
У арэшкі цатаць,
Сям'ю картамі іграць,
Казыряць, падказырліваць.
Ні ўвойміш мяне, татухна,
Ні ўвойміш мяне, родненькі,
Тут і мёд салодкі,
Парнішачка малады,
Пад ім конік вараны,
Сядло кованая,
Атмулёваная,
Самавары залатыя,
Півавары маладыя.
Як прішла к ей матухна,
Як прішла к ей родная —
Полна, Ганна, гуляць,
У арэшкі цатаць
. . . . . . . . . . . . .

Не выпадкова наконт памінання продкаў на Радаўніцу іранізавалі, што «раніцайаруць зямлю, у абед плачуць, а вечарам скачуць». Той факт, што пасля памінання і галашэнняў пачыналася шумнае «гульбішча» з песнямі і скокамі, яшчэ раз пацвярджае старадаўнасць памінальных дзеянняў. У старажытных пахавальных рытуалах абавязковымі заключнымі элементамі былі, пад-

* Тут і далей у фальклорных тэкстах захоўваюцца напісанні, якія адлюстроўваюць фанетычныя асаблівасці беларускіх гаворак.

крэслівае даследчыца В. К. Сакалова, рытуальны смех, жарты, весялосць. Гэтым, па народных вераваннях, імкнуліся пераадолець смерць, не дапусціць яе шкоднага ўплыву, сцвердзіць жыццё.

На тэрыторыі Усходняй Беларусі Радуніца падмянялася траецкімі дзядамі. На Палессі паміналі нябожчыкаў у чацвер велікоднага тыдня. Радаўніца звязвалася з праваслаўным святам уваскрэсення Хрыстова, гэта т. зв. «наўскі вялікдзень», звесткі пра якія мы знаходзім у працах М. Нікіфароўскага («Прастанародныя прыкметы і павер'і), які адзначаў, што чацвер на велікодным тыдні называўся «навским воскресеньем»; Д. Булгакоўскага («Пінчукі»), па словах якога беларусы-пінчукі (каталікі) адзначалі гэты дзень у чацвер пасляпелікоднага тыдня, П. Гільтэбранта («Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі»), па сведчанні якога «увесь тыдзень па гэтаму дню называўся «Навски Велико-день».

З Радаўніцай было звязана шмат народных павер'яў і назіранняў. Напрыклад, забаранялася ў гэты дзень садзіць і сеяць, меркавалі аб добрым ураджаі, калі прыход Радаўніцы супадаў з маладзіком.

# ЮРАЎСКІЯ АБРАДЫ І ПЕСНІ

Шырока вядомае ўсім славянам Юраўскае свята прымеркавана да 23 красавіка ст. ст. (6 мая н. ст.). Згодна з Бібліяй, у гэты дзень у 303 г. н. э. загінуў рымскі афіцэр Георгій Перамаганосец, які ў народнай памяці застаўся як мужны святы — спавядальнік веры Хрыста. Вучоныя лічаць, што менавіта гэты хрысціянскі святы замяніў язычніцкае боства Ярылу — апекуна жывёлы і земляробства — і пераняў усе яго якасці. Спакон веку гэты дзень св. Георгія (св. Юры, Юрай, Ягорый) — надзвычай важны ў жыцці сялян. У народных уяўленнях св. Георгій паўстае як апякун жывёлы і земляробства. Ён надзелены лаўнамоцтвамі пасля зімняй «спячкі» адамкнуць зямлю, выпусціць расу, якая вельмі карысная і для ўрадлівасці глебы, і для здароўя. Не выпадкова хлопцы і дзяўчаты качаюцца па ёй, каб быць прыгожымі і здаровымі. У юраўскай песні, запісанай у в. Вышамір Рэчыцкага р-на, гучыць зварот да Юр'я як да чалавека, які здольны зразумець адвечны клопат селяніна пра добры ўраджай:

Юрай, уставай рана,
Адамкні зямлю,
Выпускай расу
На цёплае лета,
На буйнае жыта.
Завівай вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ядраністае,
На каласістае,
На ячмень каласісты.
Пойдзем, дзявочкі,
У лугі-лужочкі,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую.

Сярод іншых веснавых свят дзень св. Георгія больш чым іншыя прэтэндуе на сапраўдны пачатак вясны. У беларусаў у параўнанні з іншымі славянскімі народамі найбольш поўна захаваліся архаічныя абрадавыя дзеянні і песні юраўскага свята. Шмат засцерагальных магічных рытуалаў звязана з гэтым днём. Звернемся да этнаграфічных звестак, запісаных дарэвалюцыйнымі беларускімі збіральнікамі. Выклікаюць цікавасць абрадавыя дзеянні ў юраўскі дзень, запісаныя А. Шыманоўскім на Міншчыне ў 1898 г.: «У дзень св. Георгія запрашаюць свяшчэнніка служыць малебны з «акрапленнем святой вадой па чатырох баках поля ў вёсцы»; у першы раз пасля зімы выганяюць скаціну ў поле, у сувязі з чым і малыя, і старыя выходзяць на вуліцу, а самі гаспадары галінкамі пасвечанай на Вербніцу вярбы лёгенька сцёбаюць жывёлу. І гаспадар, і гаспадыня абавязкова пасцяць у гэты дзень».

Падрабязнае апісанне юраўскага свята, запісанага М. Нікіфароўскім на Віцебшчыне, змешчана на старонках зборніка П. Шэй-

на «Беларускія народныя песні...». Яно сведчыць аб тым, што гэты дзень святкаваўся ў Беларусі не толькі ўсім народам, але і спецыяльна пастухамі. Само свята і звязаныя з ім абрады адбываюцца ў полі каля статка (пастухі ў Юр'еў дзень знаходзіліся ў цэнтры ўвагі, асабліва распаўсюджаным было іх частаванне ў полі).

Атрыманыя ад сялян дары (хлеб, сыр, масла, яйкі), якім надавалася магічнае значэнне, пастухі складваюць разам і рыхтуюць на раскладзеным вогнішчы на шырокім полі абрадавую страву— яечню. Затым старэйшы з пастухоў, «стаднік», абкручвае гаршчок з яечняй і ставіць сабе на галаву; меншы з пастухоў бярэ палаючую галаўню ў рукі, а другі пастушок — у правую руку соль. Калі статак ляжа, адбываецца тройчы яго абход пастухамі з пэўнымі атрыбутамі ў руках. Пасля абрадавага абходу статка кідаюць соль, галаўню ў поле, прыгаворваючы «Соль жну ў вочы, гылыўня жну ў зубы», і садзяцца абедаць. Апісаны абрад пастухоў у дзень св. Георгія павінен быць абавязковым. Калі ж, па народных уяўленнях, назіралася нават нязначнае парушэнне абраднасці ў прыгатаванні яечні, у абходзе з ёю вакол статка, то св. Юры лічыў сябе зняважаным і аддаваў статак і пастухоў у распараджэнне ваўкоў.

На Гомельшчыне раней пастухі ў Юр'еў дзень пасцілі, а на другі дзень збіраліся да старэйшага пастуха і наладжвалі вечарынку. Па словах акадэміка Я. Карскага, названая пагулянка пастухоў — водгалас ранейшых ахвярапрынашэнняў у гонар боства, апекуна жывёлы. У язычніцкай славянскай міфалогіі Ярыла—бажаство вясенняй урадлівасці. У часы хрысціянства ён заменены, як ужо адзначалася, святым Юрыем, які, па народных уяўленнях беларусаў, быў прыгожым маладым чалавекам, у белай вопратцы і на белым кані, мог заступіцца за жывёлу і гаспадарку.

Выклікае цікавасць апісанне першага выгану жывёлы на пашу, зробленае фалькларыстам У. Дабравольскім. Пасля прыгатавання абрадавай стравы — яечні — пастух прызначае, каму з падпаскаў быць зайцам, сляпым, храмым, замком, калодай, расстаўляе іх каля статка. Пасля гэтага, узяўшы яечню, падыходзіць да кожнага і пытае:

— Заяц, заяц, ці горкая асіна?

Заяц адказвае: «Горкая».

— Дай Бог, каб і наша скацінка для звера была горкай.

Потым пытае ў сляпога:

— Сляпы, сляпы, ці бачыш ты?

Сляпы адказвае: «Не бачу».

— Дай Бог, каб і наша скацінка не бачыла звярынка.

Далей пытае ў храмога:

— Храмы, храмы, ці дойдзеш ты?

Храмы адказвае: «Не дайду».

— Дай Бог, каб і звярынка не дайшла да нашай скаціны.

Далей пытае ў замка.

— Замок, замок, ці разамкнешся?

Замок адказвае:

— Не разамкнуся.

— Дай Бог, каб і ў звера не разамкнуліся зубы для нашай скацінкі.

І нарэшце пытае ў калоды:

— Калода, калода, ці павернешся?

Калода адказвае: «Не павярнуся».

— Дай Бог, каб і звер не павярнуўся да нашай скацінкі.

Такім чынам пастух абыходзіў статак тры разы. Пасля гэтага ўсе дзеючыя асобы садзіліся і з'ядалі яечню, а затым, калі прыганялі жывёлу ў вёску, на вуліцах пачыналіся танцы. Прыведзены дыялог пастуха з падпаскамі захаваў сваё старажытнае значэнне, адлюстраваў веру селяніна ў магчымасць з дапамогай магіі слова і дзеяння абясшкодзіць уздзеянне злых сіл.

Па народнаму павер'ю, св. Ягорый сам размяркоўвае, якую авечку могуць з'есці ваўкі. Магчыма, адсюль і вынікае ўзнікненне прыказак і прымавак: «Што ў ваўка ў зубах, то Ягорый даў», «Без Юр'я наказу і шэры сыты не будзе». У сувязі з гэтым прывядзем адно паданне, апісанае на старонках «Віцебскага весніка» (1913, № 89): «У Гомельскім павеце расказвалі, што адзін пастух краў авечак і коз, а гаспадарам гаварыў, быццам бы іх выкрадалі ваўкі. Здарылася аднойчы гэтаму пастуху заблудзіцца ў лесе, і ён вымушаны быў заначаваць там на палянцы. Ад страху ён залез на стог і лёг там спаць. Ноччу яго абкружылі ваўкі. Становячыся адзін на аднаго, ваўкі сталі ўзбірацца на стог. Пастух у адчаі звярнуўся з малітвай да св. Георгія. Святы з'явіўся перад ім на сівым кані і адагнаў ваўкоў. Пастуху ж параіў, каб ён у будучым не краў авечак, бо ваўкі злосныя на яго за гэта, таму што сярод украдзеных былі і такія, якіх св. Георгій прадвызначыў для ваўкоў. А сваім крадзяжом пастух пакідаў іх без здабычы».

У дзень св. Юр'я на Магілёўшчыне выконвалі наступнае абрадавае дзеянне: бралі лусту хлеба ў рукі і тройчы абыходзілі вакол коміна са словамі, якія мелі заклікальны магічны сэнс: «Як печ стаіць на месцы, так штоб і скаціна хадзіла на места!», пасля чаго хлеб аддавалі жывёле.

На Юр'я існаваў звычай абавязковага абходу палёў. Нашы продкі ў гэты дзень лічылі неабходным паглядзець, як растуць

азімыя. Св. Юр'я лічылі не толькі заступнікам хатніх і дзікіх жывёл і звяроў, але і ахоўнікам палёў.

Звычайна яшчэ да ўзыходу сонца гаспадар з настольнікам у руках абыходзіў поле і па вуглах яго закопваў косці ад велікоднага стала, прыгаворваючы: «Святы Божа і святы Ягорый! Захавайце ніўку ад граду». Адам Багдановіч адзначаў, што «на Юр'я, да ўзыходу сонца, кожны гаспадар выганяе пасвечанай вярбой сваю скаціну ў поле на «Юр'еву расу». Ён бярэ з сабой пасвечанае яйка, соль, косці ад велікоднай ежы і вуглі з дамашняга вогнішча. Усё гэта закопвае ў полі з чатырох бакоў, каб засцерагчы яго ад граду, засухі і «заломаў», якія могуць зрабіць ведзьмы.

Надзвычай цікавыя абрадавыя дзеянні, звязаныя з першым выганам жавёлы ў поле на Юр'я, выконваліся беларусамі Мінскага Палесся (Сержпутоўскі А. К. Запасванне гайяда//Живая Старина. СПб., 1908. Вып. 1.). Гаспадар дома апранаў святочнае адзенне і ў сумку сабе клаў кусок хлеба, соль, спечаны з цеста крыж, тры невялікія каменьчыкі, нож, замок, бязмен, сякеру, курынае яйка, грамнічную свечку. Затым выганяў з хлява скаціну, выцягваў з саламянай страхі тры прыгаршчы саломы, вымаў з калодзежа вядро вады і абносіў яго вакол жывёл, перакідваў праз статак камень і пырскаў на жывёл вадой. Апісаныя дзеянні паўтараліся тройчы. Затым гаспадар закопваў каля варот замок, бязмен, сякеру і яйка, запальваў на гэтым месцы вогнішча і кідаў узятую са страхі салому. Зрабіўшы ўсё гэта, ён перадаваў сумку пастуху, і той пераганяў статак праз вогнішча з двара на вуліцу, пасля гнаў у поле, у лес. Першы дзень жывёла знаходзілася ў полі нядоўга. Гаспадар з сям'ёй выходзіў яе сустракаць. Калі закапанае ў зямлі яйка застанецца цэлым, то гэта сімвалізуе захаванасць статка ад дзікіх звяроў.

Як бачым, кожнае з выконваемых абрадавых дзеянняў мае магічны сэнс: і абход вакол скаціны, і перагон яе праз ачышчальны агонь, праз магічныя прадметы. Магічнае значэнне надавалася і абкурванню статка пасвечанай травой ці вярбой. Прадметная атрыбутыка, якая ўжываецца ў юраўскіх абрадах, заклікана забяспечыць, здзейсніць пажаданні гаспадароў. Напрыклад, закопванне яек пад парог дома ці хлява тлумачылася імкненнем чалавека бачыць жывёлу гладкай, круглай і поўнай, як яйка, пладавітай, як курыца. На Гродзеншчыне проста ў падваротні хлява клалі яйка і лусту хлеба ў вывернутым кажусе. Верылі, што, калі дамашнія жывёлы пераступяць іх, то будуць заўсёды гладкія і накормленыя. Замкнёны замок клаўся на падвор'і пад браму, каб засцерагчы жывёлу ад нападу ваўкоў, замкнуць ім пашчу.

У Вяземскім павеце Смаленскай губерні многія жанчыны апраналі вывернутыя шэрсцю наверх шубы і ў такім выглядзе станавіліся каля сваёй жывёлы. Футра — сімвал багацця, пладавітасці статка.

У Парэцкім павеце, паводле інфармацыі У. Дабравольскага, у варотах хлява клалі пояс, патэльню, сякеру, замок і касу, прычым, пояс сімвалізаваў, што «скаціна не будзе адыходзіць далёка ад дома, як пояс не адыходзіць ад цела гаспадара», жалезныя рэчы азначалі, што «як жалеза нельга есці, так і скаціну не можа з'есці ніякі звер».

У. Дабравольскі прыводзіць шматлікія прыкметы, звязаныя з Юр'евым днём. Напрыклад, калі варона схаваецца на Юр'я ў жыце, то апошняе дасць добры ўраджай. За колькі дней да Юр'я расцвітуць сады, за столькі дней да Пятра пойдуць жаць жыта. У Юр'еў дзень абавязкова павінен прайсці дождж ці снег, інакш будзе сухое, неўраджайнае лета.

Пад час юраўскіх свят выконваўся яшчэ адзін рытуал, на які ўказвае Марыя Косіч («Ліцвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх песні і быт»). Кожны гаспадар устае яшчэ да світання і пасвіць скаціну на расе, таму што раса на Юр'я лічыцца гаючай для ўсякай жывёлы. Затым каля табуна коней ці пад зялёнымі ўсходамі жыта ўсе моляцца, «каб і жыцячка ўрадзіла, і скацінка здарова была». Расу ж у Юр'еў дзень лічылі цудадзейнай. Нездарма раніцой качаліся па ёй. Хто пакачаецца, той будзе моцным і дужым, як юр'ева раса.

Заслугоўваюць увагі і сучасныя запісы этнаграфічных звестак пра свята Юраўскага дня. Так, жыхарка в. Броніца Буда-Кашалёўскага р-на Ганна Аляксандраўна Авяр'янава (1912 г. н.) успамінае: «Гадавых Юр'я — два, галодны (вясной) і халодны (восенню). Святкуецца толькі вясенні Юр'я. Звычайна адбываецца святочны абед, на які гатуюць святочныя стравы, увечары ідзе гулянне. А з ранку праводзяць святы ход. З царквы выносяцца пратасэі (царкоўныя рэчы накшталт сцягоў на высокіх жэрдках з царкоўным малюнкам у цэнтры), а таксама «прачыстая» (вялікая ікона з падстаўкай). Пратасэі нясуць хлопцы, а прачыстую — дзяўчаты. Ход праходзіць па ўсёй вёсцы. Царкоўны служка (бацюшка) пасвяцае жыта. Людзі выганяюць кароў і коней са сваіх гаспадарак, якіх бацюшка таксама пасвяцае. А вось свіней і авечак на Юр'я не пасвяцаюць». Не менш цікавая інфармацыя аб першым выгане кароў у поле запісана У. М. Сысовым і Н. У. Яленскай у в. Махава Магілёўскага р-на ад Сафіі Дзмітрыеўны Чарняўскай (1928 г. н.). Па словах жыхаркі, выганяючы кароў на пашу, іх сцёбаюць «вярбовым пасвяцоным пруцікам і абсыпаюць макам, прыгаворваючы: «Абсыпаю макам, штоб ніхто не сабраў мак і ніхто не адабраў малака ў мае каровы». Ета тры разы нада сказаць. Іншы раз бяруць вяровачку, завязваюць на ёй вузельчыкі, вешаюць у пуні, таксама прыгаворваючы: «Вот еты вузялочак завязываю, штоб ніхто не падкрадаўся к маёй карові».

Выкананне многіх юраўскіх абрадаў было звязана з шаптаннем замоў, напрыклад: «Святы Ягоры ездзіў на сваём сівенькім

і бяленькім кані, ездзіў па лясох, па палёх, па чыстых барох, па зялёных лугох і сабіраў сваіх лютых псоў, дзікіх ваўкоў, сабіраў сівых і шэрых, і рудых, і тры сарты. І заганяў іх за сцяну камянную, і замыкаў ім і зявы, і раты, каб ня маглі на маю скаціну ні на якую — ні на сівую, ні на шэрую, ні на чорную, ні на белую зявоў не разявіць, зубоў не разняць, і ў маю скаціну вострых сваіх нечасцівых клыкоў ня ўпушчаць. Не я ж іх за сцяну камянную заганю, і не я ж ім і зявы, і раты замыкаю, — заганяець іх, замыкаець ім сам святы Ягоры. І замкні, святы Ягоры, на ўсё лета ад мае скаціны. Амінь».

У прадмове да кнігі «Веснавыя песні» Г. А. Барташэвіч прыводзіць успаміны аб юраўскіх абрадах і прыгаворах, запісаных у 1958 г. у в. Блошня Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобласці: «Бяруць кажух, надзяваюць воўнай наверх, бяруць пасвяцонага хлеба акрайчык, яйцо сырое, вярбінку пасвяцоную і замаўляюць. Ідуць да ўсходу сонца ў сярэдзіну хлява, тры разы прыгаворваюць: «За гарамі, за барамі стаяць сталы з прыстоламі, скацірками пазасціланыя, чары віна паналіваныя. Як гэтага віна чувасу з чувасіхай не папіці, так маёй скацінцы ў полі крыві не разліці: ні кароўкам, ні цяляткам, ні конікам, ні жарабяткам, ні авечкам, ні ягняткам, ні свінням, ні парасяткам, ні гусям і гусяняткам, ні курам і кураняткам — нікому-нікому не разліці». А гэта ўсё — яйка, хлеб — аддаюць жабракам, а пасвяцонай вярбінкай выганяюць у поле скаціну».

Песні, якімі суправаджаліся абрады і звычаі ў гонар Юр'я, называюцца юраўскімі. Даследчыкі вылучаюць гэтыя творы ў асобны цыкл. Сярод іх сустракаюцца шматлікія варыянты на сюжэт «адмыкання зямлі», у якіх гучыць зварот да Юр'я разбудзіць жыватворныя сілы прыроды:

Ты, Юр'я, светлы ключнік,
Сядай на каня варанога,
Едзь у поле чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу.
Пусці расу на ўсю зямлю,
І густую, і частую,
І цёплую, і мокрую,
І на ўвесь свет,
На кожны цвет.

(в. Васілевічы Жлобінскага раёна)

Ой, ты, Юр'я даражэнькі,
Устань ты рана-ранюсенька,
Умывайся добра да бяла,
Прычашыся роўна,
Вазьмі ключы чароўныя,
Выйдзі ў палі агромныя,
Адамкні хутчэй зямлю,
Выпусці адтуль расу,
Хай зямелька ажывае,
Ды дабром нас асыпае.

(в. Радуга Веткаўскага раёна)

Божа наш, святое Юр'я,
Ідзі да Бога, вазьмі ключы,
Вазьмі ключы, адамкні зямлю,
Адамкні зямлю, выпусці расу.
На Юр'я расу бычка папасу,
Бычок-трацячок, ці поўны бачок?
Цялушачка-дравушачка,
Ці поўнае ў цябе брушачка?

(в. Астражанка Лельчыцкага раёна)

Святы Юрый па межах ходзіць,
Па межах ходзіць,
Жыта родзіць.
Радзі, жыта,
Ядраністае, каласістае,
Зерне да зерня,
Каласок к зямлі.

(в. Васілевічы Жлобінскага раёна)

Іншы раз побач з Юр'ем з'яўляецца міфалагічны вобраз Юр'евай маці, якую просяць падаць ключы, каб адамкнуць таемныя сілы зямлі:

Юрай матку кліча:
— Падай, матка, ключык,
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць расіцу
На лён, на пшаніцу,
На ранняе лета,
На буйнае жыта.

(Веснавыя песні, № 174. С. 163)

У іншых песенных варыянтах Юр'ева маці клапоціцца, каб выпусціць расу «на новае лецечка, на зялёнае жыта, на жыта, на пашаніцу, на усякую пашніцу»:

Ой, Юрай, падай маці ключы,
Да падай маці ключы.

(Бел. фальклор у суч. зап., № 71. С. 51)

Другая тэматычная група юраўскіх песень — гэта творы, аб'яднаныя матывам абрадавага абходу Юр'ем нівы з мэтай паспрыяць добраму ўраджаю, здзейсніць надзеі і спадзяванні чалавека на добры плён:

— Святое Юр'е,
Дзе было?
Ран да рано,
Дзе было?
— Па мяжэ хадзіла,
Жыта радзіла.
З каласочка —
Жыта бочка,
З каласінкі
Поўасьмінкі.
Будзем жыта тачыці,
Будзем віно чыніці.
Будзем хлопчыкаў паіці
Паклічам Бога,
Паклічам.
— Да падай, Божа, ключыкі
Да й адамкнуць
Зямліцу,
Да й выпусціць
Травіцу.
На травіцу —
Расіцу.
Каб кароўкі
З'ядалі,
Каб малачка
Давалі.

(Веснавыя песні, № 189. С. 170)

Вылучаецца група песень, у якіх Юр'я выступае ахоўнікам жывёлы ад нападкаў дзікіх звяроў:

— Святы Юрый! Гдзе ж ты бываў,
Гдзе ж ты бываў, дзе ж прабываў?
— У самачэснага мужа Данілачкі,
Я кароў пасціў і запасаў,
Я, запасціўшы, дамоў прыганю,
Дамоў прыганю, у хлеў заганю,
У хлеў заганю, слоўка скажу,
Гэтаму статку не будзіць упадку
Ні ад мядзведзя, ні ад марозу,
Ні ад гада бягучага,
Ні ад змея лятучага.

(в. Саўгаснае Буда-Кашалёўскага раёна)

У асобную групу можна аб'яднаць юраўскія песні, цэнтральным матывам якіх з'яўляецца шлюбны («О, Юра, не вадзі дзевак у танок», «Было ў Юры тры дачкі», «Юра барадаты» і інш.):

Ой, Юр'я, Юр'я,
Не вадзі дзевак у танок,
Не вадзі дзевак у танок.
Горка наша ваяванне.
Горка наша ваяванне,
Ручкі, ножкі, рукаванне.
Ой, Юр'я, Юр'я.
Не вадзі дзевак у танок,
Не вадзі дзевак у танок.

(Веснавыя песні. № 208. С. 178 )

Юра барадаты,
Стары, не жанаты.
Ажаніся, Юра.
— Матка, дзевак нету,
Толькі адна кветка
І тая ў агародзе,
Садам абсаджана,
Тынам абнесена.
Я сад надрублю,
Я тын паламлю,
Жыта на хлеб сажну,
Кветку к сабе вазьму.

(в. Васілевічы Жлобінскага раёна)

## ТРОЙЦА (СЕМУХА, ЗЯЛЁНЫЯ СВЯТЫ)

Адным са старажытнейшых язычніцкіх свят з'яўляецца Тройца (Сёмуха), прымеркаваная да хрысціянскай пяцідзесятніцы (50-ы дзень пасля Вялікадня). Іншы раз Сёмуху (Тройцу) называюць «Зялёнымі святамі», якія прыходзяцца на канец вясны і пачатак лета.

У беларусаў захаваўся звычай на Сёмуху «завіваць вянкі». Напрыклад, на Магілёўшчыне, паводле апісання А. С. Дзембавецкага, дзяўчаты ішлі ў лес, дзе, выбраўшы дзве невялікія бярозкі, і звязаўшы іх верхавінкі ў выглядзе вянка, утваралі своеасаблівыя «бярозавыя вароты», праз якія праходзілі і спявалі:

Пойдзем, дзевачкі, у луг гуляць,
Зялёных вянкоў завіваць.
Заўем вянкі на ўсе святкі, —
На ўсе святкі, на ўсе празнічкі.

Па словах жыхаркі в. Васілевічы Жлобінскага р-на, М. Р. Яўменавай (1930 г. н.), святкаванне Сёмухі-Тройцы адбывалася так: «Людзі ўпрыгожваюць хаты зелянінай, падлогу ўсцілаюць аерам, за іконы кладуць пасвечаныя кветкі. Па абедзе гурт дзяўчат накіроўваецца ў лес, спяваючы наступныя песні:

Троіца, Троіца, прысвятая Багародзіца,
Да насей лянку, ды няхай зародзіцца.
Як зародзіцца — для мяне маладой,
Не зародзіцца — для бабы старой.

Або:

Пойдзем, дзевачкі,
Во луга-лужочкі,
Завіваць вяночкі
На годы доўгія,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты.

(в. Васілевічы Жлобінскага раёна)

Таксама завівалі вянкі з галінак бяроз».

Праз тыдзень дзяўчаты зноў прыходзілі ў лес і «развівалі вянкі». Пры гэтым варажылі: калі вянок засох, то гэта прыкмета сведчыла аб блізкай смерці, а чый не засох — тая будзе доўга жыць. З вянкамі ж, якія дзяўчаты завівалі з кветак, была звязана іх варажба аб сваім лёсе. З гэтай мэтай кідалі вянкі ў ваду і сачылі: калі патоне вянок, значыць, уладальніцу яго чакае няшча-

сце, калі паплыве — выйдзе замуж. Падчас развівання вянкоў іншы раз спявалі:

— Хадзіце, дзевачкі,
У луг гуляць,
Зялёных вянкоў
Развіваць.
— А мы вяночкі
Развілі,
Мы гарэлачку
Папілі.
А рабятушкам
Не далі.
А рабятушкі —
Барбасы.

(Веснавыя песні, № 244. С. 200)

Галоўны атрыбут траецкага свята — зяляніна. У траецкіх абрадах яскрава адлюстраваўся культ раслінасці, які перш за ўсё выявіўся ў тым, што на Тройцу ссякалі бярозкі і ўтыкалі іх у зямлю каля хат. У беларусаў іх захоўвалі аж да Купалля і спальвалі потым на купальскім вогнішчы. Лічылася таксама, што «май», (так называлі зяляніну) будзе ахоўваць пасевы, садзейнічаць росту і выспяванню збожжа і агародніны.

Звернемся да апісання траецкага свята, зробленага М. Косіч («Ліцвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх быт і песні»). Мужчыны ідуць у лес секчы «май», жанчыны і дзяўчаты збіраюць травы і кветкі ў лесе, жнуць явар на лугах. Вечарам каля варот і ў дварах з'яўляецца амаль лес з клёнаў, бярозак, дубкоў. Па абедзе дзяўчаты гуртам ідуць у бярэзнік завіваць вянкі, захапіўшы з сабой яек, сала на яечню, прычым гучна спяваюць:

Вы, дзеўкі-дзевачкі,
Пойдзем у лужочкі,
Мы заўем вяночкі
Да й на ўсі сваточкі,
Да й на ўсі святые,
Да й на Духовыя.

На Тройцу адбываўся і яшчэ адзін абрад, акрамя «завівання вянкоў» — абрад кумлення, калі дзяўчаты, праходзячы праз бярозавыя вароты, утвораныя звязанымі іх вершалінамі, куміліся — цалаваліся, станавіліся сяброўкамі:

Мы пакуміліся, пагалубіліся,
Ты мне кума, а я табе — кума,
З табою куміліся, не браніліся.

Дзявочы абрад кумлення на Гомельшчыне суправаджаўся наступнымі песнямі:

Ну-ка, кума, пакумімся,
Ну-ка, кума, пагалубімся
Ты кума мне, а я — табе,
З кумою пакуміліся,
Душа з душой злюбіліся.

(в. Васілевічы Жлобінскага раёна)

На достачцы, на ліпавай,
Ой, да на ліпавай
Стаялі дзве кумушкі,
Ой, да дзве кумушкі.
Дзве кумушкі—дзве галубушкі,
Ой, да дзве галубушкі,
Пакуміліся, палюбіліся,
Ой, да палюбіліся.
На залатыя пярсцёнкі
Памяняліся,
Ой, да памяняліся.

(в. Красная Буда Добрушскага раёна)

Апісаныя вышэй абрады завівання вянкоў і кумлення былі звязаны не толькі з ушанаваннем расліннасці, але і ставілі мэту ўздзейнічаць на ўраджай. Не выпадкова іншы раз ссякалі пастаўленыя бярозкі і кідалі іх у жыта, што мела аграрна-магічны сэнс: жыватворная сіла зялёнай бярозы, па народных уяўленнях, павінна была перадацца зямлі і вадзе. Гэта ярка адлюстравалася ў траецкіх абрадах і песнях. Яшчэ са старажытнасці земляроб імкнуўся сілу зялёных дрэў, у першую чаргу, бярозы, перадаць засеяным палям, паспрыяць у будучым добраму ўраджаю. Прывядзем тэксты траецкіх песень, у якіх гучаць матывы ўшанавання раслінасці, сяброўства, дзе знайшлі адбітак надзеі чалавека на ўраджайнасць зямлі:

Господняя Тройца, веселіць молойца.
Прысвятая Тройца.
На зеленэ свято жывеце багато.
Прысвятая Тройца.
Да стаўце дубочкі, шоб шчасліві дочкі.
Прысвятая Тройца.
Да стаўце бярозкі, шоб не лілі слёзкі.
Прысвятая Тройца.
Да сцелеце лепеху Господу на ўцеху.
Прысвятая Тройца.

(в. Бярэжцы Жыткавіцкага раёна)

Ты не радуйся, асіна,
А ты радуйся, бяроза,
К табе дзеўкі ідуць
Ды з аладкамі, ды з яічкамі.
Завівайся ты, бярозка,
Завівайся ты, кудрава.
Мы к табе прыйшлі
Ды з аладкамі, ды з яечкамі
Яечкі тые красныя,
Аладачкі тые здобныя.

(в. Красная Буда Добрушскага раёна)

Тройца, Тройца, святая Багародзіца,
Пасею лёна, няхай зародзіцца.
Што харошы лён, то для маменькі маёй,
А што найхарошы, для мяне маладой,
А што з чарыўкаю, то для свякроўкі ліхой,
Бо свякроўка не родная маці,
Будзе хадзіці да чарыўку вырываці.

(в. Лапаціна Гомельскага раёна)

Дзе дзеўкі ішлі,
Тут іржа густа.
А дзе бабы ішлі,
Там уся вымакла.
Дзе мужыкі ішлі,
Там і вырасла.
А дзе хлопцы ішлі,
Там уся палягла.
Дзе кум прайшоў,
Там авёс узыйшоў,
А дзе кума прайшла,
Там іржа ўзышла.

(в. Красная Буда Добрушскага раёна)

— Зязюлечка, зязюлечка,
Птушка серая, рябушачка,
Каму ты кума, каму
кумушка?
— Красным дзеўкам
і малодушкам.
І дзе дзеўкі ішлі,
Там і рож густа,
І дзе бабы ішлі,
Там і рож пуста,
Ды яшчэ і неўжыніста.

(в. Красная Буда Добрушскага раёна)

Нельга гаварыць пра траецкую абраднасць і паэзію, не характарызуючы свята «куста» як яе разнавіднасць. Менавіта на другі дзень «Зялёнага свята» на Піншчыне, адным з астраўкоў бытавання траецкіх абрадаў, упрыгожваюць кветкамі і зелянінай дзяўчыну і абыходзяць разам з ёю амаль усе хаты з песнямі, збіраюць падарункі, пачастункі. Абрад ваджэння куста суправаджаецца выкананнем спецыяльных куставых песень, накшталт «Да чэраз сяло Багданаўскае», «Павядзем куста пад гай зялененькі», «Выйдзі, выйдзі, слаўны пане, з пакою», «Прывялі куста» і інш.

Куста, куста да пад цёмны лес,
А ў гэтым доме гаспадыня хароша.
— Выйдзі, выйдзі, наша пані, з пакою,
Да вынесь, вынесь тры рублі з сабою,
Да выкаць, выкаць тры барэлі гарэлкі.
Прывялі куста ставецкі чарнаброўкі,
А чыньчаначкі да й усе дзівавалі,
Што стаўляначкі харашо куста ўбралі.
Да на іх вянкі ўсе кляновыя,
А сукні-шаўкі ўсе шаўковыя.

(Веснавыя песні, № 265. С. 210)

Да траецка-семушнай абраднасці прымеркавана і памінанне памерлых продкаў. Па народных павер'ях, у гэты дзень адбываецца іх сустрэча з блізкімі, родным жытлом. Такім чынам, сёмушна-траецкія абрады і песні занатавалі не толькі культ раслiннасці, але і культ продкаў. Адзначаліся так званыя летнія (траецкія, сёмушныя, стаўроўскія) Дзяды ў суботу напярэдадні свята Сёмухі. Найбольш пашырана іх правядзенне ў паўночнай і ўсходняй частцы Беларусі. Паводле цікавых звестак фалькларыста М. А. Дзмітрыева («Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю»), гэта свята «стаўрускіх» дзядоў у гонар памяці аб продках называецца яшчэ Сёмка. У адрозненне ад іншых аналагічных дзён ушанавання дзядоў яно не суправаджаецца такой урачыстасцю і багаццем страў. «Многія просталюдзіны на пытанне, чаму яны на Сёмку не запрашаюць сваіх дзядоў, адказваюць: «Нашто ж іх зваці, калі нечага даці». Дз. Зяленін падкрэсліваў, што ў Сямік адбываюцца абрады ў гонар усіх «заложных» нябожчыкаў, а не толькі тых, што ператварыліся ў русалак. М. Дзмітрыеў тлумачыць, чаму летняе свята памінання продкаў атрымала назву «стаўрускія». Звернемся да апісанай ім версіі паходжання свята. У некаторых месцах Дзісненскага павета так бессвядома звяртаўся гаспадар сям'і ці самы стары чалавек, спусціўшыся з лаўкі так, каб твар яго быў на ўзроўні з ежай, з заклікам: «Стаўры, гаўры, прыходзьце да нас».

Яшчэ з язычніцкіх часоў існуе легенда аб слаўным багатыры, якога звалі Бай, ці Буй, які жыў на Дзвінскіх берагах. Было ў яго два сабакі вялікай пароды — Стаўры і Гаўры. Сабакі былі моцныя і разумныя, ніякі звер не мог іх перамагчы. Яны не аднойчы ратавалі свайго гаспадара ад смерці і ў час палявання маглі нават вывесці з лесу, калі ён заблудзіць. Князь загадаў народу славіць сваіх абаронцаў як найпершых і шчырых памочнікаў. Калі яны загінулі, то князь штогод наладжваў вечарынку свайму народу на тым месцы, дзе былі закапаны сабакі. Далёка за поўнач працягвалася гулянка. Калі людзі разыходзіліся, то рэшткі ежы і косці кідалі ў агонь, заклікаючы ўяўныя душы загінуўшых сабак: «Стаўры, Гаўры!»

Цяжка сёння меркаваць, наколькі праўдападобнае прыведзенае апісанне, але ж важна тое, што гэты абрад памінання продкаў праводзіцца да цяперашняга часу. У гэтым свяце — наша павага, ушанаванне памяці нябожчыкаў і міласэрнасць да жывых. Мы не маем права аб гэтым забываць, бо нашае існаванне вынікае з колішняга. У гэты дзень варта запаліць свечку і пяшчотным словам успомніць памерлых продкаў.

Заканчваючы гаворку пра траецкія абрады і песні, адзначым, што важнае месца ў траецкіх песнях адводзілася тэме кахання, замужжа. Шлюбныя матывы ўводзіліся ў тэксты не толькі з мэтай заклінання сямейнага дабрабыту, але і мелі аграрна-магічны сэнс. Заключэнне шлюбу, па народных уяўленнях, павінна было садзейнічаць урадлівасці зямлі:

Ты не радуйся, зелен дуб!
Не к табе ідзём — к бярозе,
Не цябе заўем — бярозку.
Заўем бярозку сосенкаю —
Звянчаем Аксёнку з Сенічкам.

(Веснавыя песні, № 220. С. 186)

# РУСАЛЬНЫ ТЫДЗЕНЬ

Русальны (або граны) тыдзень адзначалі адразу пасля Тройцы. Абрады з русалкамі разам з Сёмухай утваралі адзіны абрадавы комплекс, які меў аграрна-магічную накіраванасць.

Сяляне лічылі, што русалкі здольны пашкодзіць ніву, знізіць яе ўраджайнасць, таму іх трэба ўлагоджваць, выконваць шматлікія абрадавыя дзеянні, каб абясшкодзіць іх адмоўны ўплыў.

У памяці людзей захаваліся павер'і аб русалках, хаця сам вобраз русалкі ўсё ж даволі цьмяны. Г. А. Барташэвіч падкрэслівае бясспрэчную сувязь русальных абрадаў з ураджайнасцю, з абагаўленнем расліннасці, прыроды: «У аснове вобраза русалкі ляжаць погляды на іх як на нейкія звышнатуральныя сілы, звязаныя з полем, расліннасцю, калі не боствы, то духі палёў».

Хто ж такія русалкі? Напрыклад, М. Косіч, прыводзячы скупыя звесткі аб граным тыдні, заўважае, што народныя ўяўленні палескіх жыхароў малююць русалак голымі жанчынамі, якія жывуць у лясах на дрэвах, праводзячы час у забавах, гушкаюцца і завіваюць вянкі на галінках. Гэта душы нехрышчоных немаўлят.

Звернемся да інфармацыі аб русалках, прадстаўленай П. Шэйнам. У Лепельскім павеце старыя людзі не пускаюць дзяцей купацца на працягу тыдня, які папярэднічае святу Тройцы: «Не хадзіце, дзеткі, купацца, вас русалкі палопаюць. Яны сядзяць на дрэвеваласатыя і калышуцца. Мая баба іх бачыла і мая дзядзіна іх бачыла ў чырвоным ручаі, і яны крычалі: «Хто ў бары, хто ў лесе, хадзі ка мне». Русалкі з'яўляюцца выключна ў поўдзень. Яны купаюцца на паверхні азёр і балот, смяюцца, качаюцца на дрэвах. Сяляне гавораць, што «русалкі з'явіліся ад таго, што, бывае, жонка прыспіць дзіця і робіцца русалка».

У. Дабравольскі апісвае русалак наступным чынам: «Русалкі— маладыя, прыгожыя жанчыны з доўгімі да пят косамі, жывуць яны ў лясах і балотах, але галоўнае месцазнаходжанне русалак— рэчка... Русалкі — душы тапельніц, мёртванароджаных або дзяцей, паміраючых нехрышчонымі». Па словах аднаго з патрыярхаў народазнаўства Расіі, пісьменніка і этнографа С. В. Максімава, «русалкі — людскія дзеці, памершыя нехрышчонымі, ці дзяўчаты, якія ўтапіліся». У многіх месцах думаюць, што гэта — дзеці, якіх абмянялі ў той час, калі парадзіху пакідаюць адну ў лазні, і яна ляжыць без крыжа, а дзіця яе спіць нехрышчоным».

Па народных павер'ях, з пачатку вясны русалкі жывуць у вадзе: рэках, азёрах, студнях, а з дня Тройцы пакідаюць воды і жывуць у лясах на дрэвах. Дз. К. Зяленін прыводзіць наступныя звесткі: «Беларусы Мінскай губерні аб русалках кажуць, што даволі часта гэта бываюць дзяўчаты, якіх бацькі праклялі, і яны пры жыцці не заслугоўваюць даравання». Адам Багдановіч называе русалак «земнаводнымі», таму што жывуць яны ў вадзе толь-

кі з восені да русальнага тыдня (першага пасля Тройцы). Затым яны выходзяць з вады, пасяляюцца на галінках дрэў, асабліва на бярозах, гушкаюцца, запрашаюць падыйсці да сябе людзей, якія праходзяць недалёка ад іх: «Чалавек! Чалавек! Хадзі калыхацца!». А калі хто падыйдзе да іх блізка, то заказычаць яго да смерці. Як сведчаць этнаграфічныя звесткі аб русалках, сабраныя выкладчыкамі і студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, «саму русалку ўяўлялі часцей за ўсё старой, агіднай жанчынай, адзінае адзенне якой — доўгія валасы» (Петрыкаўскі, Жлобінскі, Лоеўскі раёны). Многія жыхары Ельскага і Лоеўскага раёнаў перакананы, што русалак у сапраўднасці няма, іх выдумалі дзеля таго, каб прыстрашыць дзяцей, бо «яны (русалкі) могуць зацягваць у жыта, каноплі». Па словах некаторых інфарматараў з Жлобінскага раёна, русалка — тая ж вядзьмарка, якая шкодзіць у купальскую ноч.

У беларусаў побач з павер'ямі аб русалках існаваў і даволі цікавы абрад «праводзін русалкі». Падрабязныя звесткі аб гэтым відовішчы змешчаны на старонках зборнікаў такіх дарэвалюцыйных фалькларыстаў, як Е. Раманаў, З. Радчанка. Хоць і назіраліся мясцовыя адрозненні ў абрадзе, але агульны стрыжань быў адзіным — русалку заўсёды праводзілі ў жыта.

Напрыклад, па апісанню ўдзельніц абрада ў Краснабудскай воласці (Гомельскага павета), змешчанаму Е. Раманавым у «Беларускім зборніку», (вып. 8), «на русалку выбіраюць дзеўку маторную. Косы ёй распусцяць, адзежу знімуць, на плечы толькі андарак ускінуць. І плятуць вянок із васількоў, хмелю, зорачак... Надзенуць ёй, русалцы, етый вянок і вядуць у жыто. І пяюць, і барабаняць у дошкі, у заслонкі, і агні паляць. Ну прывядуць яе к жыту і піхнуць у жыта; вянок знімаюць, андарак разрываюць і бягуць уцікаць. А яна (голая) за імі да ў ладкі плешча».

Падрабязную інфармацыю аб абрадзе праводзін русалкі запісала студэнтка Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Т. І. Гірко у в. Дзяражычы Лоеўскага р-на ад пенсіянеркі Т. Р. Афоневай (1927 г. н.): «У канцы русальнага тыдня ў некаторых вёсках Лоеўскага р-на рабілі «провады русалак». Дзяўчаты выбіралі са свайго гурту статную прыгожую дзяўчыну, убіралі яе кветкамі, на галаву надзявалі вялікі вянок. Чарадою з распушчанымі валасамі, у белых суканках ішлі да жыта, дзе палілі агні, стукалі ў розныя прадметы (пужалі, выганялі русалак), спявалі. Потым, зняўшы з русалкі вянок, штурхалі яе ў жыта, а самі ўцякалі. Ру-

салка гналася, плешчучы ў ладкі, нібы збіралася «заслакатаць» іх». У час провадаў русалкі спявалі русальныя песні:

Павяду русалку з лесу,
Рана, рана з лесу,
З лесу да ў ядронае жыта,
Вот там і русалцы жыці.

Або:

Выведу русалку ў цемны бор,
А сама вярнуся к татку ў двор.
Ой, рана, не рана
К татку ў двор.
Выведу русалку са двара,
А сама вярнуся да двара.
(г. Лоеў)

Цікавыя звесткі аб абрадзе праводзін русалкі ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на прыводзіць Р. М. Кавалёва: «... русалку заманьвалі на поле і выганялі ў лес. Спачатку дзяўчаты і маладыя жанчыны прыбіралі русалку ў лесе ў зялёныя галінкі і кветкі, распускалі ёй валасы. З песнямі вялі яе ў вёску, але не абыходзілі дамы, а наладжвалі на вуліцы карагод, у час якога русалка павінна была выбраць сабе пару. Затым русалку з абраным хлопцам вялі за вёску, а самі вярталіся дамоў. Увечары пасля заходу сонца іх шукалі там, дзе расце самае густое жыта. Русалка выходзіла з жыта з хлопцам, і шэсце накіроўвалася ў лес, да таго месца, дзе днём русалку прыбіралі».

Галоўнае ў беларускім абрадзе праводзін русалкі — гэта тое, што русалку заўсёды праводзілі ў жыта. Даследчыца В. К. Сакалова, выказваючы думку аб блізкасці паўднёварускага абраду праводзін русалкі да беларускага, падкрэсліла, што русалкі, па народных павер'ях, павінны былі садзейнічаць лепшаму ўраджаю. Не выпадкова ў некаторых песенных варыянтах русалка выступае падаўцай добрага плёну на ніве, урадлівасці глебы. Менавіта ад яе залежыць плоднасць поля:

Там русалкі ў жыце
Зялёным сядзелі,
Рана-рана,
Зялёным сядзелі.

А мой каласочак,
Як яварочак,
Рана-рана,
Як яварочак.

А мая жыцінка
Як праскурачка,
Рана-рана,
Як праскурачка:
У печцы піражком,
На стале калачком,
Рана-рана,
На стале калачком.

(Веснавыя песні. № 281. С. 219—220)

У першапачатковых народных уяўленнях дэманалагічны вобраз русалкі абагаўляўся і звязваўся з клопатамі пра пладаноснасць зямлі, пра ўраджайнасць. Але з цягам часу, як сведчаць вучоныя, у выніку ўзаемадзеяння язычніцкіх і хрысціянскіх вераванняў многія старажытныя боствы захавалі ў сабе дваістыя рысы: выступаюць то як памочнікі чалавека, то як яго ворагі. Па словах Г. А. Барташэвіч, русалкі — загадкавыя істоты, якія выклікаюць да сябе дваякае стаўленне—«пачцівае, як да боствў (пра што сведчыць прысвячэнне ім абрадаў і песень), і пагрозліва-засцерагальнае (выгнанне і рытуалы ахоўнай магіі)». Маючы на ўвазе апошні момант адносін да русалак, спашлемся на цікавыя віды засцярог, якія існавалі ў свой час на Смаленшчыне. У. М. Дабравольскі паведамляе: «Каб выратавацца ад русалак у час іх нападу, трэба было абвесці вакол рысаю, у гэтым крузе і стаць. Русалкі тады не падступяцца, паходзяць, паходзяць каля рысы і схаваюцца». Далей фалькларыст прыводзіць канкрэтныя прыклады духаўскіх песень, у якіх дзяўчаты просяць бабулю абвесці іх чарадзейным кругам і абсыпаць аўсом і хмелем:

А ты, бабушка Купріяноўна,
Ты ж абчарці нас залатым нажом,
Ты ж абсей нас ярым аўсом.

У адказ бабуля абвяла рысаю дзяўчат у крузе, гаворачы:

Хто ў чарце — то нашы,
За чартою — то не нашы!»

Па сведчанні У. М. Дабравольскага, на Духаўскім тыдні, згодна з народнымі павер'ямі, ходзяць па лесе голыя жанчыны і дзеці, пры сустрэчы з якімі трэба абавязкова накінуць на іх хустку ці якую-небудзь анучку. Калі ж нічога з сабой няма, то трэба адарваць рукаў ад сукенкі і кінуць русалкам, бо ў адваротным выпадку пагражае непазбежная смерць. Павер'е аднюсна стогнучых дзяцей русалкі было надзвычай распаўсюджаным. Напрыклад, сялянка з в. Данькава Фёкла Маркаўна расказала У. М. Дабравольскаму наступнае: «Я ехала праз лес са сваім бацькам; праязджаючы

каля адной вялікай ёлкі, мы пачулі жалобны стогн, быццам маленькія дзеці плакалі. Бацька шапнуў мне на вуха: «Гэта дзеці русалкі плачуць!» Мы прыкрылі месца каля ёлкі хусткай, і іх плач сціх».

Іншы раз вінавацілі русалак і тады, калі згубіцца скаціна. Тады старыя людзі кажуць, што трэба пакласці «аднос» русалкам, каб яе знайсці. «Аднос» раілі рабіць так: «Спляці лапці, седзячы ў лесе на пні, разарві новую жаночую сарочку і зрабі з яе анучы, і разам з хлебам і соллю ўсё гэта закруці ў чыстую анучку, перавяжы чырвонай лентай і аднясі на перакрыжаванне ў лес. Там, паклаўшы ўсё гэта на якое-небудзь дрэва, нахіліся да зямлі, не хрысцячыся, на ўсе чатыры бакі і гавары: «Прашу вас, русалкі, мой дар прыміце, а скаціну вярніце!».

З вялікай пачцівасцю людзі ставіліся да свята русальнага тыдня. Забаранялася на граным тыдні гарадзіць платы, упраўляцца з баронамі, віць, круціць, гнуць, сноваць кросны. Калі ж хто-небудзь ігнараваў названыя засцярогі, то кара не абыходзіла гэтага чалавека. У гаспадара здараліся, на думку жыхароў, недарэчнасці, напрыклад, «радзілася хатняя жывёла рознага выродлівага выгляду: з дзвюма галовамі, з незлічонай колькасцю ног або без іх» і г. д. Нельга было пляскаць у далоні, купацца ў рэчках на русальным тыдні, каб не наклікаць на сябе гневу русалак. У асноўным у русальных абрадавых дзеяннях прымалі ўдзел дзяўчаты, хлопцы не асмельваліся да іх падыходзіць, бо баяліся прагнявіць русалку.

Па павер'ях сялян, у таго, хто будзе араць зямлю ў гэты тыдзень, можа загінуць скаціна, хто будзе сеяць, у таго град паб'е хлеб, хто будзе гарадзіць тын, віць вяроўкі, вязаць бароны, той зачахне і сагнецца ў дугу.

Самыя значныя па колькасці варыянтаў русальныя песні, якія суправаджалі абрад праводзін русалкі, — гэта песні на сюжэт «На граной нядзелі русалкі сядзелі»:

> На граной нядзелі русалкі сядзелі,
> Ой рана, рана русалкі сядзелі.
> Русалкі сядзелі, на Бога глядзелі.
> А ў Бога дарога торная, шырока.
> Ой рана, рана торная, шырока.
> Торная, шырокая ад Бога далёкая,
> Ой рана, рана ад Бога далёкая.
> А на той дарогі зяць да цёшчы едзе.
> Ой рана, рана зяць да цёшчы едзе.
> Зяць да цёшчы едзе з яравой свячою.
> Ой рана, рана з яравой свячою.
> З яравой свячою, з маладой жаною.
> Ой рана, рана з маладой жаною.
>
> (в. Стаўбун Веткаўскага раёна)

На граной нядзелі русалкі сядзелі,
На Бога глядзелі.
А Бог сына жэне, а Ілля дочку аддае.
На новай сялібе пшаніца стаяла,
Пшаніца стаяла, галаском гукала,
Каласком ківала,
Дзевачкі-сястрычкі з халодныя крынічкі,
Цяжка мне стаяці, галаском гукаці,
Каласком ківаці.
Вы ж мяне сажніце, у снапочкі сажніце,
У капочкі складзіце,
Цапамі аббіце, жарнамі змяліце,
Праскуркі намяліце, у храм гасподні аднясіце
І ўсіх бедных накарміце.

(в. Стаўбун Веткаўскага раёна)

Вылучаюцца і песенныя варыянты на сюжэт «Праваду русалку». Праводзілі русалку не толькі ў жыта, напрыклад, на Лоеўшчыне вадзілі карагод і каля капусты, каб «качан быў крэпкі»:

Павяду русалку ў жыта,
А сама вярнуся да двара.
Правяду русалку ў капусту,
А сама вярнуся ў хату пусту.

(г. Лоеў)

Прыведзеныя творы непасрэдна звязаны з абрадам, аднак ёсць яшчэ група песень, якія выканаўцамі адносяцца да русальных, але яны не выяўляюць такой сувязі.

Нягледзячы на тое, што абраднасць і паэзія русальнага тыдня заключаюць у сабе шмат таямнічасці і загадкавасці, усё ж гэта адна з найбольш прыгожых і паэтычных старонак беларускага земляробчага календара.

## КУПАЛЛЕ

У ноч з 23 на 24 чэрвеня па ст. ст. (з 6 на 7 ліпеня н. ст.) святкавалася Купалле, якое з'яўлялася своеасаблівай кульмінацыяй летніх падзей у народным жыцці. Гэта адно са старажытнейшых свят, якое здаўна прыцягвала ўвагу вучоных, пісьменнікаў, аб ім упамінаецца ў першых крыніцах пісьмовай культуры ўсходніх славян. Падрабязна разглядалася даследчыкамі розных спецыяльнасцей праблема паходжання Купалля. Былі прапанаваны самыя розныя думкі, меркаванні, канцэпцыі. Фалькларыст Арсень Ліс, вывучыўшы розныя навуковыя накірункі па праблеме генезісу купальскага свята, адносна паходжання слова «Купала», прааналізаваўшы матэрыялы гісторыкаў, міфолагаў, этнографаў, лінгвістаў-этымолагаў, а таксама іншых фалькларыстаў, пагадзіўся з высновамі тых вучоных, якія паняцце «Купала» звязвалі з агнём, салярнымі ўяўленнямі старажытнага чалавека: «Будзе апраўдана шукаць генезіс абрадаў і назвы купалля ў салярных уяўленнях старажытнага чалавека, якія былі калісьці вызначальнымі ў свяце летняга сонцастаяння».

Звернемся непасрэдна да купальскіх абрадаў і звычаяў. Вельмі старанна вялася падрыхтоўка да гэтага свята на працягу дня, бо сама ўрачыстасць прыпадала на вечар і ноч.

Яшчэ з раніцы 23 чэрвеня дзяўчаты і жанчыны з песнямі накіроўваліся ў поле, на луг з мэтай збору купальскіх зёлак. Калі збіралі браткі, руту, васількі, купалінкі, багаткі, папаратнік, салодку, то ўвесь час спявалі. Па народных вераваннях, неабходнасць выканання песень у час збору траў і кветак была выклікана імкненнем перадаць ім лекавую і цудадзейную моц. Нават у купальскіх песнях гаварылася пра збіранне зёлак:

Ой, на Купалле, на Яна<br>
Дзевачкі зелле збіралі.<br>
Яны збіралі, не знал,<br>
У старога дзеда пыталі:<br>
— Што гэта, дзядулька, за зелле,<br>
Чорны галоўкі насенне?<br>
— На што вы яго збіралі,<br>
Калі вы яго не зналі?<br>
Ваша дзявоцкая красата,<br>
Вашаму сэрцу сухата.

Сабраныя травы і кветкі напярэдадні купальскай ночы выкарыстоўвалі і для вогнішча, і для асвячэння ў царкве, каб ужываць потым ад хвароб і чарадзейства і каб адвесці ад свайго дому ведзьмаў. З гэтай мэтай клалі пад вароты ці наверх іх выкапаную з коранем асіну, бо верылі, што ведзьмы баяцца асінавага кала,

а таксама клалі на вокны крапіву-жычку, каб «ведзьма пастрыкала морду, як будзе лезці». У Слуцкім павеце з гэтай мэтай на полі ўтыкалі асінавыя галінкі. Каб ведзьмы не пашкодзілі будучага ўраджаю, не зрабілі заломаў, іншы раз у жыта кідалі галавешкі ад купальскага вогнішча.

Дз. К. Зяленін прыводзіць цікавыя звесткі, звязаныя з магічнай сілай раслiннасці і дрэў: «Асіна, так як і расліны, напрыклад, лопух, крапіва, палын, ахоўваюць у гэту ноч кароўнікі і іншыя хлявы ад ведзьмаў і астатніх злосных духаў». Не выпадкова лопух утыкалі ў стрэхі дамоў, рабілі паясы з палыну, каб не балела спіна, палын уплятали і ў вянкі, насілі іх з сабою ў якасці засцярогі ад русалак і ведзьмаў.

Аднак купальскае свята было звязана не толькі з культам раслiннасці. Важнае значэнне спрадвеку надавалася агню, а менавіта купальскі агонь з'яўляўся своеасаблівым ахоўна-магічным ачышчальным сродкам. Фалькларысты, збіральнікі падкрэсліваюць, што для купальскага вогнішча зносілі «старызну» — зношаныя кажухі, світкі, дзіравыя начоўкі, стары абутак, іншае начынне, засохлы «май», якім убіралі хаты на Сёмуху. Вучоныя тлумачылі гэту абставіну тым, што, па народных уяўленнях, спальваючы старыя рэчы, можна запрасіць да агню памерлых продкаў. Дз. К. Зяленін быў упэўнены, што звычай спальваць старое начыненне на купальскім вогнішчы меў філасофскі сэнс, сведчыў аб вечным абнаўленні жыцця.

Каля купальскага агню ладзілі ў многіх месцах абрадавую вячэру, «пяклі яечню», пасля ж пачыналі весяліцца, вадзіць карагоды, спяваць купальскія песні, скакаць цераз агонь, варажыць, сачыць за гульнёй сонца пад раніцу, купацца. Рэгіянальныя апісанні фалькларыстамі прыкладаў дзявочай варажбы сведчаць аб вялікай творчай сіле народнай фантазіі. Дзяўчат цікавіў іх будучы лёс, яны марылі аб хуткім замужжы, добрым выбранніку. З гэтай нагоды і скакалі ўпары хлопец з дзяўчынай цераз агонь. Калі не расчэпяць пры гэтым рук, значыць, пажэняцца, Для варажбы выкарыстоўвалі вянкі, напрыклад, у в. Сальнікі Горацкага р-на дзяўчаты рабілі так: «На вянок клалі дзве палачкі накрыж, пасярод якіх прымацоўвалі запаленую свечку. Затым, пусціўшы вянок на ваду, прамаўлялі: «Плыві, мой вянок, то ўніз, то ўгару, к свякровінаму двару». Па тым, што адбудзецца з вянком (паплыве, спыніцца, круціцца, патоне), меркавалі аб сваім лёсе. Калі вянок круціцца, значыць, быць у старых дзевах, калі паплыве — выйдзе дзяўчына замуж, калі стаіць на месцы — замуж пакуль не пойдзе. Існавалі і іншыя віды варажбы, напрыклад, у в. Сукавічы Мінскага р-на раніцой дзяўчаты голымі качаліся па роснай пшаніцы, затым хуценька апраналіся і, не аглядваючыся назад, беглі дадому, папярэдне загадаўшы на суджанага. Крыху прасцей купанне-варажба практыкавалася ў в. Чарнёва Лагойска-

га р-на, дзе дзяўчаты бралі рукамі расу з пшаніцы і мылі сабе твар, затым, не размаўляючы ні з кім, ішлі і клаліся спаць. Хто прысніцца ў тую ноч, той і будзе жаніхом. У в. Вялікая Слабада Крупскага р-на на ростанях ірвалі трыпутнік, прыгаворваючы: «Трыпутнічак-лупутнічак, прысніся мне мілы». Пасля гэтага ішлі дадому і моўчкі клалі трыпутнік сабе пад галаву, засыналі.

Шмат прыгожых у паэтычных адносінах легенд і паданняў запісана фалькларыстамі пра Купалле. У іх ярка адлюстраваліся міфалагічныя ўяўленні нашых продкаў. Асаблівай мастацкай дасканаласцю адрозніваюцца паданні пра папараць-кветку, якая зацвітае роўна а дванаццатай гадзіне ў лясным гушчары. Хто здолее схапіць позіркам зіхатлівы светла-белы агонь гэтай цудадзейнай кветкі, той стане празорліўцам і будзе разумець говорку дрэў, птушак, траў, звяроў. Фалькларыст А. Кіркор апублікаваў запісанае яшчэ да яго паданне пра аднаго селяніна, які, шукаючы коней на Купалле, зайшоў далёка ў лес і выпадкова зачапіў лапцем папараць-кветку. Прыйшоў да хаты і здзівіў усіх сваёй празорлівасцю. Але як толькі ён разуўся, пакінулі яго дзівосная сіла і прадбачлівасць. Здзіўленыя людзі пачалі аглядаць лапаць, а нехта селянін Сцяпан схапіў імгненна кветку і ўцёк. Не менш паэтычнае паданне было запісана і А. Багдановічам, які падкрэсліваў, што, па ўяўленнях народа, папараць-кветка зацвітае на адно імгненне, пялёсткі яе гараць як агеньчыкі, завалодаць гэтай кветкай надзвычай цяжка, бо нячыстая сіла на шляху шукальнікаў уздымае розныя перашкоды. Часцей за ўсё той, хто шукае кветку, памірае ў гушчары ад страху. Аднак, паводле народнага падання, без усялякіх цяжкасцей збірае гэтыя кветкі добры купальскі дзядок, і кошык з яго кветкамі гарыць, як жар. Калі раптам сустрэнешся з ім, то трэба разаслаць белы абрус, куды ён і кіне кветку. Не задумваючыся, застанецца толькі хутчэй схапіць яе і схаваць пад скурай, разрэзаўшы далонь правай рукі.

Шмат маляўнічых апісанняў купальскіх абрадаў і звычаяў пакінулі фалькларысты мінуўшчыны. Запісаная імі інфармацыя даносіць да нас водгаласы святкавання Купалля ў старадаўнія часы, атмасферу разгульнай купальскай весялосці, таямніцы шматлікіх абрадавых дзеянняў далёкіх продкаў у ноч на Яна. Напрыклад, заслугоўваюць увагі назіранні Адама Багдановіча, згодна з апісаннямі якога, ў святкаванні Купалля ў Барысаўскім павеце можна вылучыць дзве часткі. Напачатку каля вогнішча дзяўчаты рыхтуюць яечню, вячэраюць, пасля запальваюць высока на жардзіне старое кола, прычым, калі згарыць першае, насаджваюць другое, танцуюць вакол яго, узяўшыся за рукі, і спяваюць купальскія песні. Затым хлопцы і дзяўчаты скачуць цераз агонь, на чым і заканчваецца першая частка.

Другая частка пачынаецца з карагода. Дзяўчаты ў вянках з кветак і жытніх каласоў становяцца ўпярэмешку з хлопцамі, утвараючы

такім чынам новы карагод, і спяваюць песню, у якой усхваляюць вартасці адных хлопцаў і высмейваюць недахопы другіх. Затым з карагода выходзіла засватаная ўжо дзяўчына (а дзяўчаты загадзя запасаліся ручніком ці кавалкам тонкага палатна) і закрывала сабе твар «чубром», пакрывалам з палатна:

Ішла купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі чубром, чубром,
Давала хлопцам чалом, чалом (кланялася
на ўсе бакі).

Купалка выбірала сабе да пары хлопца, які здымаў з купальшчыцы пакрывала і павязваў сабе цераз плячо або рукаў як на вяселлі, так званы падарунак «на рукавы», як гаварылі ў Беларусі. Удзельнікі карагода спявалі песню «На моры вутка купалася»:

Млада Ганулька зажурылася,
Што яе дары не прадзены,
Хоць прадзены, не снованы,
Хоць снованы, дык не тканы,
А хоць тканы — не белены...

Затым адбываліся астатнія абрадавыя моманты Купалля — купанне ў рацэ на зары, пусканне вянкоў на ваду і варажба па іх, назіранне за ўзыходам сонца.

Падрабязна апісаў абрады і звычаі Купалля на Міншчыне М. Дзмітрыеў. Моладзь збіралася на двары распарадчыка свята — «урадніка», па загаду якога і зносілі з усёй вёскі розныя старыя рэчы: паношаныя боты, лапці, анучы, адзенне, сасновую кару і інш. Затым на зборным возе, які майстравалі па частках (ад аднаго гаспадара прыводзілі старую клячу, ад другога—калі калёсы, у трэцяга — бралі аглоблі і г. д.), вывозілі ўвесь названы хлам на поле і скідвалі ў кучу. Вечарам уся моладзь адпраўлялася на вызначанае месца, рвучы дарогаю горкі палын, з якога рабілі паясы і падпярэзваліся. Ішлі з песнямі, напрыклад:

На святога Яна
Дзевачкі зелле капалі,
А што ж гэта за зелле,
Чырвонае карэнне?
Гэта зелле купальнае,
Дзявоцкае гулянне,
Дзецюкова ўздыханне.
Ходзіць Ян па вуліцы, дай памалу,
Просіць дзяўчат на Купалу.
Сягоння Купала, заўтра Ян...

Вакол кучы, прызначанай пад касцёр, утыкалі зялёныя дрэўцы. Запаліўшы агонь, вячэралі, затым пачыналі спяваць песні і танцаваць. Калі разгаралася яркае полымя, «ураднік» раздзяляў дзяўчат і хлопцаў, ставіў іх асобна па два бакі ад вогнішча адзін супраць аднаго. Пачыналіся скокі цераз агонь, спачатку скакалі дзяўчаты, затым хлопцы. Калі здаралася, што дзяўчына не магла пераскочыць, яе называлі ведзьмай. Амаль да XX ст. захаваўся ў Беларусі гэты звычай. Ю. Ф. Крачкоўскі тлумачыў названы факт імкненнем маладых людзей хутчэй уладкаваць асабістае жыццё, выйсці замуж ці жаніцца; Д. Булгакоўскі бачыў у гэтых скоках пэўную засцярогу ад русалак; А. Багдановіч абумоўліваў апісаную з'яву ачышчэннем, прадухіленнем ад «немочей, порчи и заговоров».

Увесь час, пакуль моладзь скакала, спяваліся наступныя радкі:

Цяпер Купала, заўтра Ян
...кідаў хлопцаў праз баркан

**(спявалі дзяўчаты)**

Цяпер Купала, заўтра Ян,
...кідаў дзевак праз баркан

**(спявалі хлопцы)**

Між іншым, на ігрышчы знаходзілася самая старая жанчына («ведзьма»), якая спецыяльна прыходзіла за агнём. Яна падкрадвалася, хацела выхапіць галавешку з кастра, але моладзь пільна вартавала вогнішча, праганяла ведзьму, біла яе палыном.

Людзі раней верылі, што «ведзьмы» сапраўды існуюць, што ў купальскую ноч яны імкнуцца адабраць малако ў кароў. М. Косіч, спасылаючыся на гутаркі з вясковымі жыхарамі, сцвярджала, што рэдка хто з іх сумняваўся ў тым, што ёсць некалькі жанчын у сяле, якія «скідваюцца» ведзьмамі. Каб даведацца, хто з іх гэтым займаецца, трэба набраць попелу з купальскага кастра і стаць з ім «на ростаньках», то зараз жа збягуцца ўсе мясцовыя ведзьмы і будуць прасіць аддаць ім попел. Верылі простыя людзі і ў разгул ведзьмаў у купальскую ноч каля жыта, у іх імкненне зрабіць заломы. Менавіта з гэтай мэтай і адбываліся пэўныя абрадавыя дзеянні, якія мелі ахоўна-магічны характар. Аб гэтым сведчыць інфармацыя, запісаная П. Шэйнам. У Чашніцкім р-не ўвесь час напярэдадні Купалля спяваюць купальскія песні. Як толькі сонца за лес зойдзе, тады пастух гоніць кароў дамоў. Гаспадыня выходзіць з хаты, бярэ крапіву і дзядоўнік, якія перад парогам хлява разарве і кіне, каб ведзьма не адабрала малака ў кароў. Пасля ж вячэры запальваюць кола, якое мужыкі кладуць

высока на плечы, і разам з жанчынамі ідуць у поле, там абыходзяць жыта, спяваючы:

Ні хадзі, ведзьма, у наша жыта,
Ні хадзі, а то будзеш біта,
Ці, адрэзаўшы, калоссем наб'ём,
Ці дуб'ём зусім заб'ём.

Ачышчальная сіла, па народных вераваннях, належыла не толькі агню, але і вадзе. Таму купанне пад раніцу з'яўлялася абавязковым момантам святкавання Купалля. Людзі верылі, што купальская вада не толькі ачышчае, але і здольна выгнаць з цела хваробу, умацаваць яго фізічна. Існавала павер'е, што якраз на зары ў гэты дзень купаецца сонца, таму вада і валодае такімі незвычайнымі, чарадзейнымі лекавымі ўласцівасцямі.

Купалле — старажытнае свята, вытокі якога карэняцца ў родавым грамадстве. У сувязі з распаўсюджаннем хрысціянства гэта язычніцкая ўрачыстасць у гонар летняга сонцастаяння была прымеркавана да дня Іаана Прадцечы. Гэтым тлумачыцца ўжыванне іншы раз здвоенага імя: «Іван Купала».

Сярод купальскіх песень, якія адрозніваюцца тэматычнай разнастайнасцю, больш за ўсё твораў, прасякнутых клопатамі чалавека аб будучым ураджаі і сямейным дабрабыце.

Прывядзем узоры купальскіх песень, запісаных у апошнія гады ў фальклорных экспедыцыях. Вылучаецца група твораў, у якіх гучыць заклік да дзяўчат ісці ў «зялёны гай» і навіць вяночкаў:

Да сягоння Купалле, а заўтра Ян,
Да хадзем, дзевачкі, у зялёны гай.
Да наўем, дзевачкі, вяночкі
Святому Яну, Купалу,
Маладым дзевачкам із руты,
Адной із ружы,
Як будзеш ісці замуж, то ўзложым.

(в. Вышамір Рэчыцкага раёна)

Сягоння Купала, заўтра Ян.
Ды пойдзем, дзевачкі, у зялёны гай,
Ды нарвем купала па пучочку,
Ды саўем, дзевачкі, па вяночку.
Каб нашыя вяночкі харошыя былі,
Каб нашыя хлопцы нас любілі.

(в. Перагон Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобл.)

У некаторых песенных варыянтах цэнтральнае месца займае вобраз Купалкі, якая з'яўляецца жаданай госцяй на гулянні, яе велічаюць за прынесеныя ёю «цяпло і дабро»:

Ішла Купала сялом, сялом,
Закрыўшы вочы пяром, пяром.
На Івану Купалу.
Закрыўшы вочы пяром, пяром,
Пытала хлопцаў чалом, чалом.
На Івана Купалу.
Пытала хлопцаў чалом, чалом,
Свяціла ночы агнём, агнём,
Пляла вяночкі шаўком, шаўком,
Слыла Купалка цяплом, дабром,
Славу Купалу пяём, пяём.

(в. Астражанка Лельчыцкага раёна)

Па народных павер'ях, на Купалле адбываецца разгул розных нечысцяў, ведзьмароў, таму не выпадкова многія купальскія песні праклінаюць іх і засцерагаюць ад шкоднага ўплыву:

Купалечка, цёмныя ночы,
Што б паўпірала ведзьмам вочы,
Што б па ночы не хадзілі,
Чужых кароў не даілі,
Сыру, масла не збіралі,
Што б году не даждалі.

(в. Вышамір Рэчыцкага р-на)

Ой, ды гэтыя купальскія ночы,
Дый лагарацъ у ведзьмаў вочы,
Каб у ночку не блудзілі,
Не краналіся да расы,
Каб у печцы не сушылі,
Не грукалі ў малаты,
Каб і страву не рабілі
І дзіцятак не кармілі,
Ведзьмачкоў каб не пладзілі.

(в. Радуга Веткаўскага р-на)

Матыў варажбы на вянках гучыць у песенным варыянце рускай купальскай песні, запісаным у в. Лутава Лоеўскага р-на:

Как на этой на долинке,
На широкой луговинке,
На мятой траве
Молодой Иван.

Там же девочки гуляли,
На лугу цветочки они рвали,
Веночки плели
Из разных цветов.

На венках девки гадали,
Венки в речку ранёнько бросали,
Чей венок всплывет,
Мил не обманет.

Одна девка не смолчала,
Громким голосом она
«А мой потонул», — вскричала,
«Милый обманул».

К ней подружки ее собирались,
Уговаривать ее старались:
— Не плачь, глупая,
Неразумная,
Твой венок волна теряет,
Милый клятвой тебя уверяет.

Значнае месца сярод купальскіх песень займаюць творы сямейна-бытавой тэматыкі:

Перад янаўскай ноччу
Я брала ягадкі,
Да бяру я ягадкі,
Да не ведаю каму.
Занесла б я бацэньку,
Да далёка ад мяне.
Ох, дала б я свёкару,
Да не схочыў ад мяне.
— Ох, нявеста небагата,
Твае ягадкі кіслы,
Твае ягадкі кіслы,
Жываткі мае сціслі.

Да Купалы ночка невялічка,
Да не выспалася дзевачка.
Да ягадкі брала — і драмала,
А перабірала — заснула,
Прыехаў кавалер — не чула.
Махнуў хусткаю—не дамахнуў,
А злез з коніка — разбудзіў:
— Да ўстань, дарагая,
доўга спіш,
Чым сваю свякроўку
надарыш?»
— Надару свякроўку, надару,
Я па новых сенях пахаджу,
Да рукаў золата набяру,
Да сваю свякроўку надару.

(ст. Даманава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобл.)

## ЖНІВО

Жніўныя песні ў адрозненне ад іншых відаў каляндарна-абрадавай паэзіі называюць яшчэ песнямі працы. Гэта паэзія, якая суправаджала земляроба ў час збору ўраджаю жыта — важнай хлебнай культуры ў жыцці беларусаў.

Выклікаюць сёння цікавасць этнаграфічныя запісы жніўных абрадаў у розных мясцовасцях Беларусі, зробленыя фалькларыстамі П. Шэйнам, Е. Раманавым, М. Нікіфароўскім, Ю. Крачкоўскім і інш., якія падрабязна ахарактарызавалі асноўныя моманты такіх этапаў жніва, як зажынкі і дажынкі. Уласна жніво не вылучалася пэўнымі абрадавымі цырымоніямі, уяўляла сабой цяжкую, напружаную працу.

Перад пачаткам жніва, па сведчанні П. Шэйна, гаспадар ішоў у поле агледзець ураджай, даведацца, ці час пачынаць работу па яго збору. Даўней у мясцовасцях Віцебскай і Мінскай губерняў, паводле апісанняў П. Шпілеўскага, адбываўся абрад пакрывання поля, калі жанчына, што нядаўна выйшла замуж, нажынала ў прысутнасці дзяўчат сноп жыта і накідвала на яго ручнік ці проста намітку, прамаўляючы пры гэтым:

Пакрыла ніўку
На добрую спажыўку,
Парадзі, Божа,
Наша збожжа!

Дзяўчаты спявалі пры гэтым, кружачыся:

Пашлі, Божа, многа збожжа
Нарадзі хлеба пры дарозе,
Штоб было ўсім гожа
І не пуста на кожным возе.

Пасля гэтага ўдзельнікі абрада адпраўляліся да селяніна, поле якога пакрывалі. Увайшоўшы ў хату, спявалі:

Крыта, крыта!
Поўна, сыта!
Божа, памажы,
Хлеба ўрадзі!

Затым маладзіца перадавала сноп гаспадыні, якая адорвала яе грашыма, палатном, а гаспадар частаваў усіх гарэлкай. Абрад пакрыцця поля звязвалі з імкненнем забяспечыць яго ўраджайнасць, плоднасць. Этнаграфічныя апісанні П. Шпілеўскага дапамагаюць найбольш поўна ўявіць, як адбываліся зажынкі. Праз два дні пасля пакрывання поля дачка гаспадара з сяброўкамі

ішлі вечарам у поле і звязвалі невялічкі снапок з малой колькасці каласкоў. Акрапіўшы гарэлкай, неслі ў хату, прыпяваючы:

Галубок-снапок
Нажалі малажайкі
Да іх белыя ручайкі.
Месяц-месячыку!
Свяці ж нам дарожачку,
Што б мы не заблудзілі,
Снапочка не згубілі,
Бо наш снапочак красны,
Як месячык ясны,
Яшчэ высшы ад плота,
Яшчэ дарожшы ад злота,
Яшчэ высшы ад гары,
Ясней ад зары.

Прынесены сноп ставілі на покуці пад абразамі. Затым гаспадары частавалі дзяўчат булкамі, гарэлкай. Пры гэтым спявалі:

Слаўся, гаспадарку, слаўся!
Што малажаек не стыжаўся,
Як яны не стыжалі,
Ніўку тваю зажыналі...

Цікавыя звесткі аб абрадзе зажынак прыводзіць Е. Раманаў у «Беларускім зборніку» (вып. 8). Напрыклад, у Быхаўскім павеце старанна рыхтаваліся да зажынак, вымывалі хату, засцілалі стол чыстым абрусам, клалі хлеб і соль, запальвалі перад абразамі свечку. Ідучы на ніву, жняя брала з сабой таксама хлеб, соль, кавалак сала і свечку. Усё гэта яна клала пад першы нажаты сноп, гаворачы: «Стаўлю сноп на сто коп, на тысячу мерак».

У Рагачоўскім павеце зажынкі пачынала самая старэйшая жанчына ў сям'і, якая, прачытаўшы вядомыя ёй усе малітвы, нажынала адзін сноп і пакідала яго ў полі, а раніцай уся сям'я працягвала далей жаць жыта.

У Себежскім павеце гаспадыні, прыйшоўшы на поле, моляцца і пачынаюць зажынаць са словамі: «Дай жа, божа, што б лёгка жалась! Сярэдзінка не балела, ручанькі не млелі, ножанькі не дзервянелі, галава не гарэла!» Зжаўшы тры жмені жыта, звязваюць іх у сноп і аддаюць гаспадыні, якая адносіць яго дамоў і кладзе на абразы.

Звернемся да сучасных запісаў зажынак на Гомельшчыне, зробленых Т. І. Гірко у 1992 г. у в. Дзяражычы Лоеўскага р-на ад В. А. Буйніцкай (1913 г. н.). Па ўспамінах інфарматара, «спачатку ішла адна жняя, так сказаць, адкрыць работу. Баяліся вельмі, каб хто-небудзь не перайшоў дарогу. Калі здарыцца гэта, і ў

час жніва работнік парэжа сабе руку, то няшчасце прыпісвалі зламыснасці таго, хто перайшоў дарогу. Пры адкрыцці жніва гаспадыня хрысціла ўсё поле і прасіла ў бога дапамогі. З сабою прыносіла кавалак хлеба, а нявестка ў першы год свайго замужжа — кавалак палатна, якім абкручвала першы сноп, прызначаны для гаспадара поля. Першы раз жняя большай часткай жне такую колькасць жыта, каб быў адзін даволі вялікі сноп. Жняя брала яго і вярталася дамоў, ставіла яго на покуці, а пасля вечарам спраўлялі маленькае частаванне — зажынкі. Пасля зажынак уся сям'я выходзіла ў поле працаваць».

Зажыначныя песні нешматлікія, вылучаюцца асабліва зажыначныя застольныя, якія спявалі падчас урачыстага застолля з нагоды пачатку жніва:

Сягоння ў нас зажыначкі.
Жнейкі жыта зажыналі,
У снапочкі павязалі,
Свайго гаспадара
Снапамі звязалі.

Наш гаспадарок маладзенькі,
Яго конік вараненькі.
Ён на полі паязджае,
Сваіх жнейкаў аглядае:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
А сажаўшы, снапочкі павяжыце.
Наш гаспадарок маладзенькі,
Яго конік вараненькі,
Ён на полі лаязджае,
Усё поле аб'ехаўшы,
Сваіх жнейкаў да й гукае:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
А пажаўшы, аддыхніце.

(Шэйн П. Беларускія народныя песні...)

Уласна жніво не вылучалася абраднасцю, хаця гэты працоўны этап суправаджаўся вялікай колькасцю жніўных песень, у якіх знайшлі адлюстраванне і малюнкі прыгоннай рэчаіснасці, і матывы сацыяльнага пратэсту, непасільнай працы на полі, унутрысямейных узаемаадносін, цяжкага жыцця ўдавы і сіраты і інш. Прывядзем у якасці прыкладаў тэксты жніўных песень, змешча-

ныя ў фальклорным архіве Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны:

Ой, я маладзенькая дый жыта жала,
Ой, я маладзенькая дый жыта жала,
Ой, жала, жала, дый шчыравала,
Ой, вочкі потам дый залівала,
Ой, я маладзенькая дый жала, жала,
Дый дзве ночкі дома не начавала,
Начавала я ў чыстым полі
Пад арэхавым дый пад кусточкам,
Ой, укрывалася дый мокрым лісточкам,
Ой, я маладзенькая дый жыта жала.

(раб. пас. «Бальшавік» Гомельскага раёна)

Сонейка нізко да ўжэ вечор блізко,
Да ідзі ўжэ, бабонька, дамоў,
Да напечы жонцам бліноў.
Сонейко ўжэ закацілось,
Да жонцам ужэ дамой захоцелось.
Хорошуха копу, копу да нажала цэлу копу
А няўдалая помаленьку семерэньку.
Хорошухі пірог з маком,
Да будзе ёй жэніх Якаў,
А няўдалай — пірог з мёдам,
Да будзе ёй жэніх Фёдар.
Хорошуха погналаса, а няўдала осталаса,
Да ўжэ сонейко за грушамі,
Пускай пане дамоў нас з думамі.

(в. Вароніна Жыткавіцкага раёна)

І казала жыта,
У чыстым полі стоя,
У чыстым полі стоя:
— А не хачу я, жыта,
У полі стаяці
Ды коласам махаці.
А хачу я, жыта,
Каб мяне бабы павязалі,
Ды ў засеначкі паклалі.
А каб мяне, жыта,
Бабы павязалі
Ды зярняткі павыбіралі.

(в. Красная Буда Добрушскага раёна)

Я на горэ да жыто жала,
Да свою долю проклінала,
Шоб ты, доля, да ўтопіласа,
Я б по тобе не журыласа,
Шоб ты, доля, марнем пропала,
То я по тобе і не скучала.

(в. Прыбалавічы Лельчыцкага раёна)

Жніце, жанцы, не лянуйцеса,
На соўнейко не дзівуйцеса,
Бо ўжо сонцэ не рано, не рано,
А ў нас нівы ні мало, ні мало.
Як дожномо, дамоў пойдомо,
А не дожномо, ночоваць
будомо.
Без вечэры спаць поляжомо,
А без посцелі то не заснумо.
Жніце, жанцы, не лянуйцеса,
На сонцэ не дзівуйцеса.

(в. Прыбалавічы Лельчыцкага раёна)

Маладзіца жыта жала,
У баразёнку дзіця клала.
Прыйшлі два ваўчкі
шэранькія.
Адзін кажа: «Дай я буду
калыхаці»,
Другі кажа: «Дай я буду
забаўляці».

Жніце, жніце, жнеячкі,
Жніце, жніце, жнеячкі,
Прынясе пан гарэлачкі.
Прынясе пан гарэлачкі.
Патаміла панска ніва,
Патаміла панска ніва,
Што й гарэлка не міла,
Што й гарэлка не міла.

(в. Гадзілавічы Рагачоўскага раёна)

Сіраціна жыта жала,
К сырой зямлі прылягала.
— Ты, сырая маці-зямелька,
Узяла татку, узяла мамку,
Узяла ўсю маю радзіну,
Вазьмі і мяне, сіраціну.

А я ў полі жыта жала,
А я ў полі жыта жала,
Да ў дома бяда стала.
У мене ў доме бяда стала.
Свякруха з плоту ўпала,
А крапіву паламала.
Не жаль жа мне свякруханькі,
Да жаль жа мне крапіванькі,
Свякруха упала, устане,
Свякруха упала, устане,
А крапіва саўяне ўся.

(в. Вербавічы Нараўлянскага раёна)

Калыхалі, забаўлялі —
У маладзіцы дзіця ўкралі.
— Ах, вы, ваўчкі шэранькія,
Аддайце мне дзіця.
А вазьміце каровачку
Чорную, ласую,
Хоць тую пасажную.

(в. Астражанка Лельчыцкага раёна)

Жала я жыцечка
Пры дарозе,
Вешала калыску
На бярозе.
Жала я жыцечка
Пры даліне,
Вешала калысачку
На каліне.
Не дуй вецер дарогаю,
А падуй вецер паласою!

(в. Крапіўня Рэчыцкага р-на)

А я жыцечка жала,
Дай на хату паглядала.
Ой, ці топіцца хата,
Ці варыцца каша?
Наварыла мамка боршчу,
Дай накідала хвошчу.
Наварыла мамка кашы,
Дай накідала сажы.

— Нашто цябе, дзеўка, браці,
Трэба табе долю даці,
Хоць не такую, як людскую,
Хоць сіроцкую.

(в. Баршчоўка Добрушскага раёна)

Ешце, дзевачкі, боршч,
боршч,
А вы, маладзічкі, хвошч,
хвошч.
Ешце, дзевачкі, кашу,
А вы, маладзічкі, сажу.

(в. Мохаў Лоеўскага раёна)

Ой, я жала, хапала, хапала,
Да нажала тры снопы,
А мой мілы не дочувае,
Чатыры пары коней запрагае,
На возочку — по снопочку,
На чэтвертом — то дубіночку,
Да на мою воўчу спіночку.
А назаўтра я не спала,
Да весь дзень жыто жала,
Да свою долю да проклінала,
Да свайму мілому чатыры возы нажала.

(в. Прыбалавічы Лельчыцкага раёна)

Пасылала мяне маці
Яравое жыта жаці.
А я жыта не жала,
У баразёнцы ляжала.
У баразёнцы ляжала
Ды Мікіту паджыдала.
Баразёнка вузенька,
Не памесцілася.
Вунь Мікіта ідзе,
Мне арэшкі нясе.
Я арэшкі кусала
І Мікіту цалавала.

(в. Уюнішчы Светлагорскага раёна)

Ды ўжо сонца за бор, за бор,
Пара жнейкам дамоў, дамоў.
Мне ж дадому не хочацца,
Каля печы варочацца.
У мяне дома дзяцей многа,
Што куточак, то й сыночак,
А на печы сем дачочак,
А восьмая на прыпечку
Іграе на скрыпачку.
Ды з прыпечку зваліласся,
На друзачкі разбілася.

(в. Хлусы Веткаўскага раёна)

Дажынкі ўвасобілі імкненне чалавека магічна паўздзейнічаць на ніву, заклікаць яе пладавітасць, забяспечыць у будучым плён працы па збору ўраджаю. Цікавыя этнаграфічныя апісанні дажынак пакінулі фалькларысты мінулага М. Дзмітрыеў, М. Косіч, П. Шэйн. Паводле звестак М. Дзмітрыева, у беларусаў Мінскай губерні парадак дажынак наступны: кожны гаспадар напярэдадні гэтага дня ідзе да сваіх суседзяў і просіць, каб прыйшлі да яго жнеі. Сам жа ён рыхтуе пачастунак для запрошаных гасцей. У прызначаны час прыходзяць да яго жнеі, абедаюць, а пасля

ў поўдзень ідуць у поле дажынаць. Калі на полі застаецца маленькая колькасць жыта, то ўся кампанія пачынае выпалваць вакол сцяблін траву. Гэта называецца «рваць бараду». Пры гэтым заклікаюць на дапамогу ваўкоў, мядзведзяў, лісіц, іншых жывёл. Самі ж житнёвыя каласы рве адна дзяўчына, загадзя падрыхтаваная да гэтага. Замужняя жанчына ці ўдава не маюць права гэта рабіць. Вырваўшы каласы з зямлі, дзяўчына раздзяляе іх на дзве часткі і кладзе крыжападобна на зямлю. На ўтвораным крыжы пасярэдзіне, па баках і краях кладуць хлеб. Пасля гэтага ўсе разам вяжуць вялікі сноп, які называецца «баба». З крайніх каласоў плятуць жытнёвы вянок. Выбраная дзяўчына сядзіць увесь час на «бабе». Калі сплятуць вянок, то маладзейшыя дзяўчаты надзяваюць ёй на галаву вянок і ідуць у вёску, несучы з сабой утвораны з каласоў крыж. Па дарозе дамоў гучаць песні:

Засцілай, пані, сталы і лавы,
Едзе да пані госць небывалы.

Абрад дажынак, апісаны М. Косіч, адбываўся наступным чынам. Калі надыходзіў час дажынаць жыта, то старэйшая жняя камандавала: «Пакінуць на бараду!» Сярпы ўрачыста складваліся, усе станавіліся перад недажатым месцам, білі зямныя паклоны, чыталі паўсядзённыя малітвы, а затым старэйшая нявестка зжынала пакінутую «бараду» ў адзін сноп, на корні пакідала тры каласкі і звязвала іх чырвонай ніткай. Затым усе маліліся і закопвалі ў зямлю акрайчык хлеба, прыгаворваючы:

Ніўка, ніўка, аддавай сваю сілку,
На ніву — гнаёк,
На скацінку — лаёк,
А нам на добрае здароўе.

Звычайна жніцы з апошняга жыта завівалі вянок і ўрачыста неслі гаспадару з песнямі:

А мы свайму пану
Ўчынілі славу.
Усё жыта пажалі,
І ў копы паклалі,
Аткутайцця вароты,
Ідзем мы з работы,
Расстаўляйцця сталы цясавые,
Вынасіцця міскі, тарэлкі
І па чарцы гарэлкі.

Сучасныя архіўныя матэрыялы сведчаць, што, напрыклад, у Лоеўскім р-не Гомельскай вобл. быў шырока вядомы абрад «завівання барады», калі падвязвалі недажатыя каласкі, перагіналі іх, нізка нахілялі да зямлі, клалі пад каласы хлеб і соль. Спявалі велічальную песню, у якой славілі «бараду»:

Ой, чыя там барада,
Палатном абвітая.
Ой, дзіва, дзіва мне,
Дзіва етай барадзе.

(г. Лоеў)

Дз. Зяленін прыводзіць апісанне абраду дажынак, запісанае А. Розенфельдам у 1880 годзе: «У канцы жніва ў сярэднім загоне пакідаюць невялікі кружок недажатага жыта. Усе жнеі тры разы абыходзяць вакол нязжатага месца і потым пакрыху зжынаюць яго, пакінуўшы сцяблін 3-4, якія звязваюць чырвонай ніткай ці лентай; выкопваюць каля іх маленькую ямку і кладуць туды хлеб з соллю, прыгаворваючы: «Дай жа Божа, каб на лета ўрадзіла», затым выпалваюць вакол траву, абматаўшы руку рукавом кашулі ці фартухом (прыкрытая рука — сімвал багацця і заможнасці). Пасля гаспадыня надламвае пакінутыя сцяблінкі, закопвае іх разам з хлебам і соллю. Жнеі абматваюць свае сярпы жытам і прыгаворваюць: «На, еш, не кусай маіх рук, дай жа, Божа, каб хваціла хлеба, каб усяго было досыць». Нарэшце жнеі робяць вянок з каласоў, сабраных на полі ці адрэзаных ад снапа, кладуць на галаву дзяўчыне, якая ўмее віншаваць, і з песнямі ідуць дамоў.

Усе элементы абрада «барады» маюць магічны, заклінальны характар. Беларусы Гомельскага павета Магілёўскай губерні, па сведчанні Е. Раманава, тлумачаць гэты абрад так: выпалванне травы вакол «барады» павінна было забяспечыць чысціню пасеваў у будучым годзе; паліванне вадой «барады» павінна папярэдзіць засуху. Той факт, што жнеі кладуцца на зямлю разам з «барадой», сведчыць аб тым, што каласы новага ўраджаю будуць такімі поўнымі, што ад цяжару будуць нахіляцца да зямлі.

Дз. Зяленін заўважае, што з дажынкамі, у прыватнасці з абрадам «завівання барады» было звязана шмат народных уяўленняў, па-рознаму тлумачылі значэнне гэтага абраду ў шматлікіх мясцовасцях. Пра нязжаты пучок калоссяў гаварылі, што гэта «барада», зробленая для прарока Іллі (Ілля — 20 ліпеня), для Бога, для Хрыста і інш. У песнях жа звычайна гэту «бараду», мёдам палітую і шоўкам абвітую, амаль заўсёды прызначаюць для гаспадара поля. Іншы раз беларусы называюць гэту«бараду» пэўнай доляй, ахвяраванай жывёлам (Гродзенская губ.). На Палессі пры дапамозе каласоў з «барады», як паведамляе А. Ю. Лозка, «выль-

валі волас» — магічна вадзілі імі па шчацэ чалавека, у якога балелі зубы, шапталі замову: «Волас, волас, выйдзі на часты колас», а папярэдне палівалі цёплай вадой шчаку і каласы.

Перш чым дажаць апошнюю лапінку нязжатага калосся, жняя тройчы качалася па ржышчы і прыгаворвала:

Ніўка, ніўка, аддай маю сілку
На другую ніўку!
На коніка лой, на ніўку гной,
А мне на здароўе.
Судзі, божа, на лета жаці
І ядранейшае, і гусцейшае.

(Раманаў Е. Беларускі зборнік, вып. 8)

У дажынкавых песнях, якія выконвалі, дажынаючы апошні загон, віншавальна-велічальных па характары, багатых па выяўленчай палітры, мы сустракаем вобраз Спарыша, які ў іншых рэгіёнах мае назву **раёк**. Не выклікае сумнення тая акалічнасць, што ў язычніцкую пару Спарыш з'яўляўся для чалавека міфічнай істотай, здольнай паўплываць на ўрадлівасць нівы (сплецены з падвойных каласоў-спарышоў — вянок — магічнае дзеянне, накіраванае на заклінанне спору), адсюль і тая павага да гэтай звышнатуральнай істоты, імкненне ўлагодзіць яе. Даследчыца Н. Ціханіцкая, прааналізаваўшы этнаграфічныя запісы аб Спарышу М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага, балгарскіх, сербскіх вучоных, прыйшла да вываду, што «завіванне барады», імкненне ўтварыць падвойныя каласы—спарыш—гэта магічны спосаб заклікаць добры ўраджай.

П. Шэйн у кнізе «Беларускія народныя песні...» вылучае спарышовыя песні ў асобны падраздзел. Прывядзем некалькі варыянтаў, запісаных збіральнікам у Чашніках ад таленавітай спявачкі Каткавічанкі і ў Дзісненскім павеце:

Хадзіў Спарыш па вуліцы,
Па вуліцы шырокай,
Па мураўцы па зялёнай.
А ніхто Спарыша ў двор не завець.
Выйшла, выехала Хвядорыха:
— Хадзі, Спарыш, ка мне на двор,
Ка мне на двор, за цясовы стол.
На покуце, да на золаце,
Пі, Спарыш, зеляно віно,
Спары збожжа у маім гумне,
У маім гумне, у маім дварэ:
На таку ўмалот, а ў дзяжы падыход,
А ў печы рост, а на стале сыццё.
Хадзіў Раёк па вуліцы,
Ніхто Райка ў двор не завець.

У мяне сталы пазасціланы,
Віном кубкі паналіваны.
У мяне пірагоў панапечана,
У мяне меду панасычана.
Сядзь, Спарыш, на покуце.

Адазваўся к нам паночык.
Хадзі, Раёк, ка мне ў двор,
Мае двары мяцёныя,
Мае сталы цясовыя,
Мае абрусы бялявыя,
Мае хлябы сытовыя,
Мае страўкі сахарныя,
Мае кубкі залатыя,
Мае віна зялёныя.

# ДЗЯДЫ (АСЯНІНЫ)

Гэтае свята (як і Радаўніца) звязана з надзвычай распаўсюджаным на Беларусі культам продкаў — шанаваннем памерлых бацькоў і ўсіх родзічаў. Сам тэрмін «дзяды» мае значэнне «продкі» і ўжываецца ў адносінах не толькі да памерлых мужчын: «дзяды» — гэта ўсе памерлыя продкі. На працягу года свята «Дзяды» адзначалася неаднаразова: перад масленым тыднем; у аўторак на другім тыдні пасля Вялікадня (Радаўніца); у суботу перад тыднем святой Троіцы (траецкія Дзяды); перад летнім святам Пятра і Паўла (пятроўскія Дзяды) і, нарэшце, восеньскія, або вялікія, змітраўскія Дзяды. Змітраўскімі яны называліся таму, што звычайна адзначаліся ў суботу перад святам Дзмітрыя Салунскага. Восеньскія Дзяды (Асяніны) не мелі строгай прымеркаванасці да канкрэтнага дня: у розных мясцовасцях Беларусі яны адзначаліся ў перыяд з 26 кастрычніка па 2 лістапада. П. В. Шэйн у канцы мінулага стагоддзя запісаў наступную легенду аб неадначасовасці святкавання восеньскіх Дзядоў: «Калі цар Дзмітрый пайшоў на вайну з няверными, дык ён, праязджаючы па розных мясцінах, прасіў праваслаўных хрысціян маліцца за ўпакой душ тых воінаў, якія па волі Божай загінулі на вайне. Вось з таго часу ўстаноўленыя памінкі шмат у якіх вёсках адбываюцца не ў аднолькавыя дні, таму што цар Дзмітрый не ў адзін і той жа час праязджаў па розных вёсках».

Восеньскім Дзядам нашы продкі надавалі значна большае значэнне, чым найбольш вядомаму зараз святу ўшанавання продкаў — Радаўніцы: аб гэтым сведчыць і назва змітраўскіх Дзядоў — «вялікія». Калі на Радаўніцу на могілках памінаюць толькі асобных памерлых продкаў, чые магілы знаходзяцца побач, то на вялікія Дзяды памінаюць усіх без выключэння дзядоў-продкаў, незалежна ад месца іх пахавання. Акрамя таго, урачыстасці, асаблівай значнасці гэтага свята ў вялікай ступені спрыяла тое, што яно адзначалася восенню, калі ў селяніна вольнага часу было значна больш, чым вясной. Ды і розных страў восенню, пасля таго, як сабраны ўраджай, можна было нагатаваць дастаткова. На асаблівую ўрачыстасць гэтага свята ўвогуле ўплывае восень — пара года, калі быццам бы «памірае» прырода, і чалавека агортваюць сумныя разважанні аб хуткаплыннасці жыцця, аб памерлых родных і блізкіх людзях.

З самай раніцы гэты дзень пачынаўся з падрыхтоўкі да свята: мужчыны прыбіралі, вымяталі двор, прыводзілі ў належны выгляд усе пабудовы. Жанчыны тым часам завіхаліся ў хаце: наводзілі чысціню і парадак, мылі падлогу, лавы, стол, гатавалі розныя стравы. «Чысціня спрыяе прыходу духаў дзядоў, смачныя стравы і пітво схіляюць іх да знікнення на хвіліну з нябеснай абіцелі, каб спусціцца на родную зямлю», — так тлумачылі людзі

неабходнасць прыбірання перад святам. Лічылася таксама, што парадак у доме будзе вельмі да спадобы душам продкаў, якія наведваюць сваё роднае падвор'е ў гэты дзень, і яны будуць з яшчэ большай ахвотай дапамагаць ва ўсім жывым.

Абавязковай для ўсіх членаў сям'і была і лазня, а таксама чыстая святочная вопратка.

Вечарам уся сям'я (на свята звычайна прыязджалі або прыходзілі родзічы) збіралася вакол святочнага стала. Перад тым, як садзіцца, у хаце адчынялі ўсе дзверы, каб заходзілі памёрлыя продкі, што раней тут жылі. Абрадам кіраваў гаспадар — старэйшы член сям'і, які перш за ўсё запальваў вялікую свечку, што ставілася ў посуд з якім-небудзь зернем як сімвал памяці аб продках. Пасля агульнай малітвы пералічваліся ўголас паіменна ўсе дзяды-продкі, якіх запрашалі на агульную вячэру. Гаспадар пры гэтым гаварыў: «Святыя дзяды! Просім за пачэсны стол!». Вядомыя і іншыя варыянты запрашэння дзядоў: «Святыя дзяды! Прыдзіце сюды, гэта — для вас!»; «Святыя радзіцелі! Просім з намі вячэраць!»; «Святыя радзіцелі, хадзіце вячэраць!».

У сярэдзіне мінулага стагоддзя было зроблена наступнае апісанне гэтага звычаю: «Сядаючы за стол і прачытаўшы малітву, гаспадар пачынае заклікаць памёрлых продкаў... І моцна ўсе ў тым перакана765ы, што цені продкаў нябачна выходзяць у гэтую хвіліну з магіл і, седзячы з імі за сталом, жывяцца парай, якая ідзе ад страў...».

Пасля слоў гаспадара ўсе прысутныя пачыналі есці куццю (рытуальную кашу з ячменных круп), прычым, перш чым з'есці лыжку кашы, кожны з прысутных адкладваў кавалачак ежы ў «дзедаўскую міску», што знаходзілася на стале — для дзядоў. У час святочнай вячэры перад кожнай новай стравай гаварылі: «Памяні, Божухна, нашых святых дзядоў! Пашлі ім рай прасветлы, царства нябеснае! Няхай яны са святымі адпачываюць, а нам хлеб-соль пасылаюць!».

Колькасць страў на стале магла быць рознай, але абавязкова — няцотнай і не менш пяці. Звычайна на Дзяды гатавалі (акрамя абавязковай куцці) клёцкі, аладкі з верашчакай, каўбасы, розныя поліўкі (рыбную, мясную), сушаныя яблыкі і ігрушы, вараныя на мёдзе; аўсяны кісель з мядовай сытой, ячменныя праснакі і інш.

У час урачыстай святочнай вячэры дазвалялася гаварыць толькі аб дзядах — іх жыцці, асобных выпадках і рысах характару; успаміналіся іх словы і настаўленні, мудрыя парады і добрыя ўчынкі. Пачыналася гэтая размова з расказа пра самага старэйшага і найбольш вядомага продка, а заканчвалася ўспамінамі аб памёршых зусім нядаўна. Выразнае апісанне дзядоўскай «бяседы» прыводзіць сучасны даследчык фальклору А. С. Ліс: «У засталлі панавала стрыманая, паважная атмасфера: абменьваліся толькі

скупымі словамі, фразамі. Скрып брамкі, звон шыбы, рэзкі пошум апошніх лістоў на дрэве за акном успрымаліся як прысутнасць нябачных продкаў».

Пасля заканчэння вячэры ўсе павінны былі адначасова ўстаць з-за стала, а гаспадар зноў звяртаўся да дзядоў, як бы развітваючыся з імі: «Святыя дзяды! Елі і пілі, ідзіце да сябе!» Або: Дзяды, дзяды! Паелі куцці — ідзіце дадому!». Стол, за якім вячэрала сям'я, пакідаўся непрыбраным на ўсю ноч, толькі накрываўся абрусам. Ежа, якая знаходзілася ў «дзедаўскай місцы», аддавалася звычайна жабракам: яны ўсведамляліся як пасрэднікі паміж «гэтым» і «тым» светам.

На другі дзень раніцой усе члены сям'і зноў садзіліся за стол і даядалі тое, што засталося ад святочнай вячэры, але ўжо без адпаведных абрадавых дзеянняў.

Даючы ацэнку гэтаму старажытнаму святу, А. С. Ліс справядліва зазначае: «Асяніны — сведчанне не столькі прымхлівасці, колькі высокай маральнасці земляробаў з іх сталым ушанаваннем памяці сваіх папярэднікаў».

## ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА

Барташэвіч Г. А. Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя. Мн., 1985.

Беларускі народны каляндар//Для вас, 1991, № 3.

Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыцыйныя жанры: Гомельская вобласць. Мн., 1989.

Богданович А. Е Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродна, 1895.

Валачобныя песні. Мн., 1980.

Веснавыя песні. Мн., 1979.

Добровольский В. Н. Нечистая сила в народных верованиях//Живая старина, 1908, вып. 1.

Добровольский В. Н. Егорьев день в Смоленской губернии//Живая старина, 1908, вып. 2.

Жніўныя песні. Мн., 1974.

Зеленин Д. К. Восточнославянская этнография. М., 1991.

Земляробчы каляндар (Абрады і звычаі). Мн., 1990.

Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Исторические корни и развитие обычаев. М., 1983.

Косич М. Н. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни//Живая старина, 1901.

Купальскія і пятроўскія песні. М., 1985.

Легенды і паданні. Мн., 1983.

Ліс А. Купальскія песні. Мн., 1974.

Ліс А. Валачобныя песні. Мн., 1989.

Максимов С. Крестная сила. Нечистая сила. Неведомая сила. Кемерово, 1991.

Народны тэатр. Мн., 1983.

Николаев Е. П. Юрьев день в Белоруссии // Витебский вестник, 1913, № 89.

Нікольскі Н. М. Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваньнях беларускага сялянства. Мн., 1933.

Пахаванні. Памінкі. Галашэнні. Мн., 1986.

Паэзія беларускага народнага земляробчага каляндара. Мн., 1992.

Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974.

Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Собрал в Витебской Белоруссии Н. Я. Никифоровский. Витебск, 1897.

Пятроўская Г. А. Жывая спадчына. Мн., 1988.

Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8. Вильно, 1912.

Русский народ: его обычаи, обряды, предания, суеверия и поэзия. Собр. М. Забылиным. М., 1990.

Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930.

Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края М. А. Дмитриева. Вильно, 1869.

Соколова В. К. Весенне-летние календарные обряды русских, украинцев белорусов. М., 1979.

Шейн П. В. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями. СПб., 1874.

Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1989.

* * *

Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.

Архіў фальклорнай лабараторыі кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

## ЗМЕСТ



Коваль Уладзімір Іванавіч
Новак Валянціна Станіславаўна

**Беларускія народныя святы і звычаі**

Выдавец: Беларускае Агенцтва навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі.

Падпісана да друку 8.XII.1992. Папера пісч. № 2. Фармат паперы 60x84 1/16. Гарнітура літ. Друк высокі. Друк. арк. 5,5. Зак. 5105. Наклад 5000 паас. Цана дагаварная.

246022, г. Гомель, вул. Кірава, 34, друкарня БелІІЧТу.